31 сакавіка 2017 | № 12 (526)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Навальны грае, як Ельцын»
стар. 21

**4–5** ЯК АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ СПРАБУЮЦЬ ПАКАЗАЦЬ «ТЭРАРЫСТАМІ»

По справе аб «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» затрымана ўжо 27 чалавек. Хто яны, гэтыя «баевікі»?

**6** ЯК МЯНЕ БРАЛІ ВЯСНОЙ У «ВЯСНЕ»



Выходзім з залы а 15 гадзіне. Бачу за варотамі сваіх. Глыбока ўдыхаю сцюдзёнае паветра: «Усё будзе добра!» І раптам паварочваю галаву…

**7–18** Літаратурная Беларусь

**22** «МЯНЕ ЦЯГНЕ Ў МЯСЦІНЫ ПАЎСТАННЯ 1863 ГОДА»

Грамадскаму актывісту, публіцысту і краязнаўцу Уладзіміру Хільмановічу 6 красавіка спаўняецца 50 гадоў

# Пасля 25-га па-ранейшаму ўжо не будзе

## Ці дасягнулі ўлады сваёй мэты жорсткім разгонам акцый?



Сяргей ПУЛЬША

Што мы мелі 25 сакавіка? У звыклым для сябе рэчышчы ўлада паспрабавала запалохаць народ. Прэвентыўнымі арыштамі, крымінальнай справай за «масавыя беспарадкі», якіх не было, ролікамі пра «баевікоў і іх зброю». Поўны міліцыі Мінск 25-га — гэта была кульмінацыя запалохвання.

Але зараз не спрацавала. Па вельмі простай прычыне, пра якую мы казалі шматкроць. Таму што зараз пратэст — не «апазіцыйны».

Зазвычай улада прымяняла такія захады падчас прэзідэнцкіх выбараў. Але тады ў Лукашэнкі быў моцны козыр у выглядзе «элегантнай перамогі» і намаляваных 83%. Зараз выбараў няма, і казаць пра «паўпрацэнты нязгодных» не выпадае.

Нязвыклае і маўчанне кіраўніка дзяржавы. За некальі дзён, якія прайшлі з Дня Волі, мы не пачулі ад яго традыцыйных каментараў пра «адмарозкаў, якія паспрабавалі дэстабілізаваць сітуацыю», ці пра «пятую калону, праплачаную Захадам». Лукашэнка праводзіць нараду па адзінай сістэме маніторынгу грамадскай бяспекі (нібыта без яго відэакамеры да кампутараў не падключаць), і спрабуе паказаць, што не адбылося зусім нічога. Нібыта і не было масавага «хапуна» і вадамётаў на вуліцах сталіцы.

Гэтае маўчанне — паказчык. Правадыр у тупіку. Ён нейтралізаваў «пятую калону» яшчэ «на маршы», перад Днём Волі. Але людзі ўсё адно выйшлі — як у Мінску, так і ў іншых гарадах Беларусі. Пра іх ужо не скажаш, што гэта «адмарозкі». У «адмарозках» ходзіць увесь народ.

Гэта маўчанне выглядае як разгубленасць. Проста сказаць няма чаго. Ці ўлада спадзяецца, што, калі людзям пра гэтыя падзеі не нагадваць, яны пра іх хутка забудуцца? Занадта шмат абураных грамадзян ходзіць па вуліцах.

Адначасна ўлада спрабуе зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні. МЗС Беларусі заявіў замежным калегам, што «ўсе затрыманні праводзіліся ў межах беларускага заканадаўства». Але ці ў межах беларускага заканадаўства прэвентыўныя затрыманні? Збіццё маніфестантаў і журналістаў, асабліва замежных? Адмова выклікаць консулаў для замежных грамадзян? Спіс можна працягваць доўга…

Не дзіва, што ЗША і ЕС даволі жорстка выказаліся наконт беларускіх падзей, а больш блізкія суседзі — Польшча і Літва, — нарэшце ўзгадалі, што санкцыі адносна Беларусі былі прыпыненыя часова ўзамен на «крокі па дэмакратызацыі». Гэтых крокаў, праўда, не было, было таптанне на месцы, але скачок назад рэакцыю ўсё ж выклікаў.

Раздзіраючыся паміж неабходнасцю атрымання грошай з Еўропы і не меншай неабходнасцю збіць унутраны пратэст, улада разгубілася. Большасць з амаль 700 затрыманых былі вызваленыя без складання пратаколаў, судзілі прыкладна 150 чалавек. Вялікі раскід пакаранняў — ад штрафу ў тры базавыя велічыні Вользе Казановіч да 25 сутак Леаніду Кулакову, — таксама сведчыць, што вызначанага стаўлення да «парушальнікаў парадку» не было. Суддзям проста не паспелі аддаць загад наконт «пажаданых» прысудаў.




Фота Уладзіслава Рубанава

**З'яўленне ў Беларусі новых палітвязняў будзе азначаць аднаўленне санкцый**

Але застаецца адкрытай справа пра масавыя беспарадкі. Захоп Міколы Статкевіча і яго ж вызваленне са спробаю зрабіць выгляд, нібыта «нічога не здарылася, у нас яго не было», гаворыць, што там таксама не ўсё сыходзіцца. Між тым, прадстаўнікі некаторых краін ужо сказалі, што з'яўленне ў Беларусі новых палітвязняў будзе азначаць аднаўленне санкцый.

І, відавочна, улада прадэманстравала МВФ, на што ідуць іх крэдыты. У інтэрнэце ўжо з'явіліся заклікі спыніць супрацоўніцтва заходніх фінансавых інстытутаў з Сінявокай, бо грошы ўсё роўна пойдуць на рэпрэсіўны апарат.

Ці можна казаць, што ўлады збілі хвалю народных пратэстаў? На мой погляд, не. Каб хваля была збітая, то на наступны дзень у рэгіёнах (ну і ў Мінску таксама), пабачыўшы «вясёлыя карцінкі» са сталіцы, на вуліцы б не выйшаў ніхто. Але — выйшлі ж. Справа таксама скончылася затрыманнямі, і тым не менш — выйшлі ў знак салідарнасці і таму што не баяцца.

Пратэст проста крыху заглыбляецца. Справа тут нават не ў дзеяннях улады: проста зараз пачнуцца звыклыя вясенне-палявыя працы. Дый актыўная апазіцыя — арганізатары акцый — перагрупуецца і ачуняе пасля масавых пасадак. А пакуль будзе ісці гэтая «перагрупоўка», эканамічны стан працягне пагаршацца. І, з яшчэ большым зніжэннем дабрабыту, пратэст непазбежна выбухне — крыху пазней.

Ці раней — калі ўлада зноў падкіне для яго падставу ў выглядзе чаго-небудзь кшталту дэкрэту №3.

Але адно можна сказаць дакладна: пасля 25 сакавіка па-ранейшаму ўжо не будзе.

# «Дзе тыя людзі, якія любяць міліцыю»

Арцём ЛЯВА

**Палітыку Алесю Лагвінцу прысудзілі 10 сутак адміністратыўнага арышту.**

Лагвінца пасля брутальнага затрымання 23 сакавіка супрацоўнікі сілавых структур абвінавацілі ў лаянцы ў грамадскім месцы (артыкул 17.2 КоАП — «дробнае хуліганства»). Сведкамі выступілі тыя самыя два амапаўцы, якія праводзілі затрыманні і ўжывалі фізічную сілу супраць Лагвінца. Да суда Лагвінец знаходзіўся ў шпіталі, паколькі атрымаў у выніку збіцця чэрапна-мазгавую траўму.

Справу разглядаў суддзя Козак суда Маскоўскага раёна. Паводле агучанага суддзёй пратаколу міліцыянтаў, Алесь Лагвінец, знаходзячыся на вуліцы, брудна лаяўся, чым дэманстраваў непавагу да грамадства і парушаў грамадскі парадак.

«Падчас таго, як мяне везлі ў Маскоўскае РУУС, былі нанесеныя фізічныя пашкоджанні: некалькі ўдараў кулаком у скроню і сківаў у выніку я атрымаў ЧМТ лёгкай ступені», — распавядаў падрабязнасці дастаўкі ў РУУС Алесь Лагвінец, дэманструючы сляды супрацьпраўных дзеянняў асобаў у цывільным на сабе.

Па версіі сведкаў міліцыянтаў Аляксандра Цюніса і Максіма Кавальчука, Лагвінец нібыта спакойна прайшоў з міліцыянтамі і сеў у машыну, але пасля пачаў паводзіць сябе буйна, біцца галавой аб спінку крэсла. На просьбы супакоіцца не рэагаваў, даваліся ўжыць сілу.

Падчас адказу на пытанні адваката выявілася, што адзін з міліцыянтаў, які праводзіў затрыманне Алеся Лагвінца, выступіў таксама панятым падчас ягонага вобшуку, што груба супярэчыць працэсуальнаму кодэксу. Сведка-міліцыянт таксама вінаваціў Лагвінца ў тым, што ён яго абражаў. На пытанне, ці не пісаў міліцыянт заяву на абразу Лагвінца, сведка адказаў, што, маўляў, прызвычаіўся да такога стаўлення і філасофскі заўважыў: «Дзе тыя людзі, якія любяць міліцыю».

На пытанні Алеся Лагвінца кіраўнік групы, якая ажыццяўляла затрыманне, Аляксандр Цюніс сказаў: «Я вас не біў, бо калі б я біў, то пашкоджанні былі б большыя. Я выконваў сваю працу, я ёй ганаруся».

Хадайніцтва зрабіць запыт у аператара сотавай сувязі з мэтай высвятлення месцазнаходжання Алеся Лагвінца падчас затрымання, а таксама заслухаць сведкаў з боку Лагвінца былі адхіленыя. Не звярнуў увагу суддзя на грубае парушэнне працэсуальнага кодэкса, калі міліцыянт, што затрымліваў Лагвінца, быў таксама панятым пры вобшуку, а таксама на той факт, які цалкам абышлі міліцыянты ў сваіх рапартах, што Алесь Лагвінец з сынам падчас затрымання знаходзіліся ва ўласным аўтамабілі.

Пасля 20-хвіліннага перапынку суддзя зачытаў сваё рашэнне. Ён прызнаў Алеся Лагвінца вінаватым і пакараў яго арыштам у 10 сутак з моманту затрымання 23 сакавіка.

# Прысуд Дзядку — 10 сутак

Арцём ЛЯВА

**Суддзя суда Партызанскага раёна Мінска Іван Неўмяржыцкі 29 сакавіка прыгаварыў нашага сталага аўтара Мікалая Дзядка да 10 сутак арышту.**

Мікалая абвінавачвалі ў парушэнні ч.1 арт. 23.34 і арт. 23.4 КаАП РБ.

Нагадаем, падчас акцыі пратэсту на Дзень Волі экс-палітвязень быў гвалтоўна затрыманы праваахоўнікамі. Мікалая спачатку прывезлі ў Партызанскае РУУС, а пазней — у ЦІП на Акрэсціна. Праз некаторы час высветлілася, што Дзядок знаходзіцца ў хірургічным аддзяленні шпіталя хуткай дапамогі.

Згодна з медыцынскім заключэннем, Мікалай Дзядок атрымаў закрытую чэрапна-мазгавую траўму лёгкай ступені, страсенне галаўнога мозгу, параарбітальную гематому злева, удар мяккіх тканак твару і патыліцы.

Пасля 4-х дзён у лякарні Мікалая даставілі ў Партызанскае РУУС, а пасля і ў суд. Цікава, што у гэты ж дзень на хлопца склалі новы пратакол, які датуецца датуецца 29 сакавіка 12.30, то бок менавіта тым часам, калі яго везлі ў РУУС.

Відаць, менавіта па гэтай прычыне, суддзя не задаволіў хадайніцтва аб вызваленні Дзядка ў сувязі з тым, што прайшло больш за 96 гадзін пасля яго затрымання.

На судзе Дзядок не адмаўляў свой удзел у акцыі, але казаў, што паводзіў сябе выключна мірна. «Крычаў лозунгі, але на тое і дэманстрацыя», — дадаў Мікалай.

У той жа час Дзядок рашуча адмаўляў супраціў міліцыі, які яму таксама інкрымінаваўся, а наадварот расказваў, што гэта яго моцна збілі ў аўтобусе.

Аднак, нягледзячы на супярэчлівыя паказанні сведкаў-міліцыянтаў, якія нават не маглі сказаць, дзе затрымалі хлопца і калі, суддзя пасля невялікага перапынку абвясціў вердыкт: па 5 сутак за кожны артыкул. Прычым адлік сутак пачаўся толькі 29 сакавіка, а 4 дні пад вартай у шпіталі ў залік не пайшлі.

«Я гатовы да пакарання маральна. Не баюся. Барацьба трывае», — сказаў Мікалай пасля абвяшчэння прысуду.

# Андрэй Бандарэнка выходзіць на свабоду

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Працэс супраць праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі праходзіў у судзе Ленінскага раёна Магілёва.**

Яго абвінавацілі ў злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы (ч.2 арт.411 КК).

На суд прыехалі Мікалай Статкевіч з Марынай Адамовіч, праваабаронцы Таццяна Равяка і Павел Сапелка, Ганна Шапуцька, бацька Андрэя Бандарэнкі. Былі таксама мясцовыя праваабаронцы, журналісты — усяго каля 30 чалавек.

Самым хвалюючым момантам стала ўвядзенне Андрэя ў залу судовага пасяджэння. Яго вялі пад ахоўвай міліцыі ў кайданках, з вялікай торбай для папер. Ён усміхаўся прысутным і ківаў галавой знаёмым.

У якасці старшыні ў працэсе выступіў суддзя Сяргей Мазураў, дзяржаўным абвінаваўцам быў Сяргей Мінаў.

«Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі» выявілася ў трох эпізодах: 5 мая 2016 года ён у дзённы час ляжаў на ложку і чытаў кнігу, на нібыта выказаныя кантралёрамі заўвагі не зрэагаваў. 25 мая 2016 года пры вяртанні з прагулкі нібыта ўступіў у гутарку з іншым асуджаным. 30 верасня 2016 года не зрабіў належны даклад, калі ў камеру ўвайшоў прадстаўнік адміністрацыі і ў здадзенай прадукцыі (Бандарэнка склейваў канверты ў камеры) быў знойдзены брак (шэраг канвертаў склеіліся).

У судзе была дапытаная жанчына, з якой ён нібыта «ўступіў у гутарку» ў турме 25 мая 2016 года, што і было расцэнена як парушэнне. Самым цікавым было тое, як гэтая жанчына апынулася ў турме і якая ёй была справа да Андрэя? Аказалася, яе этапавалі са следчага ізалятара ў турму, змясцілі ў суседнюю з Андрэем камеру, і яна чакала, калі той будзе вяртацца з прагулкі.

Усім у залі стала відавочна, што гэта была правакацыя. Да таго ж, адказваючы на пытанні Андрэя, сведка дапускала адкрытае лжэсведчанне. Аднак пракурор і суд не палічылі патрэбным нейк адрэагаваць на гэта, адхіліўшы хадайніцтва адваката аб накіраванні справы на дадатковае расследаванне.

Паказанні далі каля дзесяці супрацоўнікаў Магілёўскай турмы. Яны распавялі ў дэталях пра «страшныя парушэнні рэжыму, дапушчаныя Бандарэнкам». Пры гэтым іх словы ў судзе разыходзіліся з тым, што яны казалі на папярэднім следстве. А суддзя тым часам раз за разам здымаў пытанні Андрэя.

У прысутных у залі суду склалася перакананне, што выкладзеныя ў абвінавачванні факты з'яўляюцца вынікам правакацый, спланаваных адміністрацыяй турмы з мэтай сабраць нейкую доказную базу. На мой погляд, Андрэю і яго адвакату ўдалося паставіць сабраныя доказы пад сумнеў і давесці, што прыкмет злоснага непадпарадкавання патрабаванням адміністрацыі наогул не было.

У заключным слове пракурор запрасіў для Андрэя Бандарэнкі адзін год і адзін дзень пазбаўлення волі.

Але, на дзіва, суддзя Сяргей Мазураў не знайшоў у дзеяннях Бандарэнкі складу злачынства і поўнасцю яго апраўдаў.

Такім чынам, 31 сакавіка ў Бандарэнкі заканчваецца тэрмін зняволення, і ён выходзіць на свабоду.

# Беларускае правасуддзе: шэсць гадоў на ўсіх

Сяргей ПУЛЬША

**«Крычаў як нацыст: «Жыве Беларусь!» — менавіта такімі словамі сведчыў адзін з амапаўцаў пра затрыманых на Дзень Волі. Гэта ўсё, што мы павінны ведаць пра ідэалагічную працу і патрыятычнае выхаванне супрацоўнікаў міліцыі.**

Судовы каток, які працаціўся па краіне пасля 25 сакавіка, звыкла ўражваў сваім абсурдам. Напрыклад, працэс над Леанідам Кулаковым.Сведка-міліцыянт па прозвішчы Качан на просьбу суддзі апазнаць Кулакова пераблытаў яго праваабаронцам, што сядзеў побач. І Кулакову далі найбольшы з усіх тэрмін — 25 сутак.

15 сутак атрымаў наш калега Аляксандр Баразенка. Яго абвінавацілі ў лаянцы матам. Уся «лаянка» Баразенкі была ў тым, што ён казаў міліцыянтам, якія яго затрымлівалі: «Я журналіст!».

А вось 34-гадоваму работніку аўтамыйкі Паўлу Старавойтаву не пашанцавала: на яго нават сведак-міліцыянтаў не хапіла. «Не бяда!» — вырашылі ў судзе Маскоўскага раёна Мінска і далі яму 10 сутак проста так, без сведак.

Нельга не адзначыць, што вялікая частка затрыманых, якіх судзілі за брыдкаслоўе, — прынцыпова беларускамоўныя людзі. Як зазначыў затрыманы «за лаянку» 26 сакавіка дырэктар «Арт-Сядзібы» Павел Белавус: «Каб я лаяўся, то супрацоўнікі АМАПу і не зразумелі б, што я маю на ўвазе, напрыклад «трасца табе ў бок». Суд не зразумеў таксама — 15 сутак.

Да журналісткі Марыны Касцылянчанка 25 сакавіка АМАП з'явіўся дадому: шукалі зброю і выбухоўку. Нічога не знайшлі, склалі пратакол за «непадпарадкаванне законным патрабаванням» міліцыі. А ўжо ў РУУСе ўчастковы раптам «апазнаў» Марыну па здымку як удзельніцу «Марша недармаедаў» 15 сакавіка. З'явіўся яшчэ адзін пратакол — за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Суддзя прызнаў віну Марыны па абодвух артыкулах і даў ёй 15 сутак.

Між тым, «Марш недармаедаў» 15 сакавіка быў санкцыянаванай Мінгарвыканкамам акцыяй!

Не менш «адзначыліся» і суды ў рэгіёнах. Напрыклад, у Віцебску судзілі 11 чалавек — усіх за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Па дадзеных праваабаронцаў «Вясны», усе гэтыя працэсы прайшлі без сведак — суддзі, выносячы рашэнне, грунтаваліся выключна на відэазапісах.

Суды над удзельнікамі акцый пратэсту прайшлі таксама ў Бабруйску, Барысаве, Брэсце, Віцебску, Гомелі і Полацку. Але пакуль адных садзяць — іншыя ўжо выходзяць.

Да сумлення суддзяў, падаецца, звяртацца бессэнсоўна. Але ж яны павінны ведаць, што вынясенне заведама неправасуднага прысуду — гэта 392 артыкул Крымінальнага кодэкса. Прычым КК не робіць размежавання, крымінальны гэта прысуд або адміністрацыйны. Пакаранне па ім — да трох гадоў (з цяжкімі наступствамі — да 10) пазбаўлення волі. І потым не адмажашся, што «мне далі загад», бо Лукашэнка заўсёды сцвярджаў, што судовая сістэма ў нас — незалежная.

Усяго за месяц, паводле падлікаў праваабаронцаў, за акцыі «недармаедаў» было затрымана больш за 900 чалавек. Гэта значыць, у сярэднім па 30 чалавек у дзень.

Агульная сума штрафаў, якія былі накладзеныя на ўдзельнікаў маршаў пратэсту, склала 3325 базавых велічынь, альбо 76 475 рублёў. Гэта прыкладна 41 тысяча долараў па сённяшнім курсе. Для таго, каб зарабіць такую суму, чалавек з заробкам «па 500 долараў» мусіць працаваць 82 месяцы.

Пад адміністрацыйным арыштам апынулася 224 чалавекі. Агулам яны адсядзець ці павінны адсядзець 2328 сутак. Гэта прыкладна шэсць гадоў і чатыры месяцы — на ўсіх.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Адзін за ўсіх

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пасля 25 сакавіка грамадства задаецца двума адвечнымі пытаннямі: «Што рабіць?» і «Хто вінаваты?». Прычым апошняе пытанне выклікае шмат розных канспіралагічных версій.**



Фота www.wiki.vspu.ru

Некаторыя ўпэўнена кажуць, што кагорта «ястрабаў» у атачэнні Аляксандра Рыгоравіча перамагла кагорту «галубоў». Іншыя намякаюць, што такім чынам падначаленыя спадара Шуневіча дэманструюць сваю патрэбнасць і супраціўляюцца «аптымізацыі» міліцэйскага ведамства. Трэція мяркуюць, што разгонам дэманстрантаў кіраваў сын Лукашэнкі Віктар, і спасылаюцца на амаль такія ж дзеянняў сілавікоў у 2006-м, падчас знакамітага «шэсця Казуліна». Тады таксама на народ кінулі спецвойскі, узброеныя шчытамі і ружжамі са слезацечным газам. І тады, маўляў, працэсам таксама кіраваў Віктар.

Аматарам гэтых версій я б параіў не шукаць чорную котку ў цёмным пакоі. Па адной простай прычыне. Ніводзін міністр, хай сабе і Шуневіч, ніводзін «ястраб» і ніводзін дарадца кіраўніка дзяржавы, хай сабе і па нацыянальнай бяспецы, хай сабе і сын, не мае дастатковых паўнамоцтваў у нашай краіне, каб вывесці на вуліцу такую колькасць сілавікоў. Насамрэч, гэта агромністы кавалак працы, у тым ліку па ўзгадненні паміж ведамствамі. Трэба «паставіць пад ружжо асабовы склад» падраздзяленняў, трэба выдаць ім амуніцыю і экіпіроўку, арганізаваць транспарт, праезд, размеркаванне… Даць «сухпай», нарэшце. І гэтак далей.

Такія маштабныя вучэнні проста немагчыма арганізаваць без ведама і ўхвалення галоўнакамандуючага. А галоўнакамандуючы ў нас хто?

А значыць, за «зачыстку» у Мінску 25 сакавіка адказвае таксама асабіста ён. Такім чынам, мы разумеем, хто вінаваты. Ён жа павінен адказваць на другое пытанне: «Што рабіць?» І ў гэтым яму не пазайздросціш.

Расчараванне падзеямі 25 сакавіка амаль адразу выказалі прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда і маршал Сената Станіслаў Карчэўскі, кіраўнік БДІПЧ АБСЕ Ханс Георг Лінк, лідар Еўрапейскай народнай партыі, якая валодае найбуйнейшай фракцыяй у Еўрапарламенце, Жозэф Доль. Але найбольш небяспечнымі для афіцыйнага Мінска сталі заявы прэс-сакратара вярхоўнага камісара ЕС па знешняй палітыцы Маі Качыянчыч, («крокі, што прымаюцца Беларуссю, калі гаворка ідзе пра павагу універсальных асноўных свабодаў, вяршэнства закона і правоў чалавека, будуць заставацца ключавымі для фармавання адносін ЕС з гэтай краінай») і «глыбокая занепакоенасць», выказаная пасольствам ЗША.

Менавіта ЕС і ЗША ўплываюць на фінансавыя патокі, якіх так прагне Сінявокая. Гэта і крэдыт Міжнароднага валютнага фонду, і супрацоўніцтва з Сусветным банкам (на тыдні была агучаная інфармацыя, што гэты банк пачаў распрацоўку новай стратэгіі для Беларусі, разлічанай на 2018–2021 гады) і грошы з іншых еўрапейскіх крыніц. Відавочна, што пры такім раскладзе палітыка не можа не ўплываць, і непазбежна будзе ўплываць на эканоміку.

Ці дойдзе справа да санкцый? Наўрад ці. Ужо агучана, што гэтае пытанне будзе разглядацца тады, калі ў Беларусі з'явяцца новыя палітвязні. Прычым, «сутачнікаў» міжнародная супольнасць вязнямі не лічыць. Можна пагадзіцца з палітолагам, аглядальнікам «Радыё Свабода» Юрыем Дракахрустам, які мяркуе, што да «вялікага бізуна» справа наўрад ці дойдзе. Але ў той жа час ён адзначае, што не будзе і «пернікаў» у выглядзе крэдытаў, прэферэнцый і іншага.

Але якраз тое, што «не будзе пернікаў», і ёсць самым кепскім. Бо грошы нам неабходныя. Расія іх не дае, як не дае таннага газу і нафты, — ужо год гэтую спрэчку вырашыць не можам. Калі і Захад не дапаможа — фіг вам, а не заробак па $500.

**Відавочна, што пры такім раскладзе палітыка не можа не ўплываць, і яна непазбежна будзе ўплываць на эканоміку. Ці дойдзе справа да санкцый? Наўрад ці. Але і пернікаў у выглядзе крэдытаў ды прэферэнцый таксама можна не дачакацца**

А без павышэння ўзроўню дабрабыту сацыяльная напружанасць будзе толькі нарастаць. Прычым нарастае яна ўжо зараз. Усё часцей і часцей чуюцца ужо не скаргі на гаротнае жыццё — народ пераходзіць да дзеянняў.

На тыдні ў Брэсце забаранілі пікет з трох чалавек супраць павышэння коштаў на ЖКГ. Яго мелі намер правесці актывісты Беларускай партыі левых «Справядлівы свет». Паводле заяўкі, мерапрыемства павінна было прайсці днём 1 красавіка на пешаходнай вуліцы Савецкая насупраць кінатэатра «Беларусь». Чакалася, што падчас пікету актывісты будуць збіраць подпісы пад адпаведным зваротам Лукашэнку.

Мясцовыя ўлады не санкцыянавалі акцыю, бо заяўленае месца не ўваходзіць у пералік дазволеных месцаў для масавых мерапрыемстваў.

У Барысаве пенсіянеры пачалі галадоўку, бо не могуць сплаціць крэдыт у 800 рублёў. Калі яны бралі гэты крэдыт, яны працавалі, а потым іх скарацілі, бо «пенсіянеры непатрэбныя». У выніку ўзнікла запазычанасць, а дзеці дапамагчы не могуць: дачка ў дэкрэце, сын атрымлівае 200 рублёў заробку. Не дапамаглі ім належным чынам і ў выканкаме.

«Лукашэнка крычыць, што калі дужа цяжка, то ідзіце да ўладаў, а насамрэч гэта брахня і хлусня, — кажа 59-гадовая Наталля Фёдараўна. — Мы ўсё жыццё спадзяваліся на саміх сябе, нічога не прасілі ні ў каго. А тут няма працы, няма нічога. Што нам рабіць?»

Галоўнае ў гэтай сітуацыі тое, каго вінаваціць пенсіянерка ў немагчымасці знайсці працу і сплаціць крэдыт. Таго, хто «крычыць, што калі дужа цяжка, то ідзіце да ўладаў». І гэта паказчык, хто за ўсё адказны.

Не сакрэт, што ў нас закрэдытаваная палова краіны. З пагаршэннем эканамічнага становішча такіх гісторый будзе ўсё больш і больш. А вінаватым будзе ўсё роўна Аляксандр Рыгоравіч. Бо гэта ён абяцаў стварыць 50 тысяч працоўных месцаў штогод, забяспечыць усім заробак «па 500» і гэтак далей. На гэта людзі і разлічвалі, калі бралі крэдыты пад маштабныя праекты.

І за абяцанні давядзецца адказваць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Аляксандр Зімніцкі



**25-гадовы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музею стаў 27-м затрыманым па справе аб «масавых беспарадках», якіх не было.**

Зоя Зімніцкая, маці Аляксандра, жыве ў Докшыцкім раёне, у вёсцы Глінная. Яна ўжо пенсіянерка, раней працавала выхавальніцай у дзіцячым садку. Зоя Вікенцьеўна плача, калі распавядае пра арышт сына.

«У пятніцу ён прыехаў сюды дадому, а ў панядзелак выправіўся ў Мінск, на працу. А тады пазваніў, што яго выклікае ў аўторак раніцай на гутарку следчы. Казаў, што ў яго быўператрус, што забралі пнеўматычны пісталет, які ў яго быў даўно. Як пазваніў, дык паехаў да следчага. А ўжо ўвечары патэлефанаваў следчы і сказаў, што Алесь затрыманы, пакуль на тры дні», — расказала Зоя Зімніцкая.

29 сакавіка з усімі фігурантамі гэтай справы праводзіліся следчыя дзеянні. Прынамсі, да іх выклікалі адвакатаў. Пакуль не вядома, ці выстаўленым ім абвінавачанні. Без выстаўлення абвінавачвання і абрання меры стрымання іх могуць трымаць у следчых ізалятарах максімум 10 дзён пасля затрымання.

### Мікалай Статкевіч



**«Дзякуй Богу, знайшоўся», — шмат хто сказаў пра экс-кандыдата ў прэзідэнты на гэтым тыдні.**

Статкевіч, які ўзяў на сябе адказнасць за правядзенне шэсця і мітынгу 25 сакавіка, знік увечары 23-га. Пра яго месцазнаходжанне нічога не было вядома да ранку 27-га. Аказалася, што палітыка ўсё ж адсачылі да кватэры калегаў па партыі, дзе ён хаваўся, імкнучыся пазбегчы прэвентыўнага арышту.

Статкевіч знаходзіўся ў СІЗА КДБ. Там яго дапытвалі па справе аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў у якасці падазраванага. Прычым, згодна расповеду Статкевіча, у справе было напісана, што падрыхтоўку палітык праводзіў з 2011 года — то бок у той час, калі ён сядзеў па турмах за такія ж «масавыя беспарадкі» 2010 года.

Даваць паказанні Статкевіч адмовіўся. 27-га раніцай яго вывезлі з СІЗА КДБ і высадзілі на ўскрайку Мінска. Ніякіх папераў пра крымінальную справу і яго месцазнаходжанне яму не пакінулі.

КДБ аспрэчвае знаходжанне Статкевіча ў іх СІЗА ўсе гэтыя дні. Але навучаны Статкевіч меркаваў, што можа быць і такое, каб яго дыскрэдытаваць. Таму запомніў і прозвішчы следчых, і нумар камеры, у якой ён сядзеў.

«Я прыношу свае прабачэнні тым мужным і адважным беларусам, якія выйшлі 25 сакавіка, нягледзячы на ўсе запужванні, што я не змог быць разам з вамі. Паверце, я зрабіў усё магчымае, каб быць з вамі, але гэты апарат, спецслужбы ў нас усюдыісныя. Схавацца мне не ўдалося, хоць я ўсё рабіў для гэтага», — зазначыў Статкевіч.

### Барыс Пятровіч



**Саюзу беларускіх пісьменнікаў, якім кіруе Барыс Пятровіч, вярнулі статус творчага саюза.**

Адпаведная пастанова Міністэрства культуры была апублікаваная 25 сакавіка на Нацыянальным прававым партале Рэспублікі Беларусь pravo.by. Гэтая пастанова дапаўняе былы пералік творчых саюзаў на тры адзінкі: ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», РГА «Беларускі літаратурны саюз «Полацкая ветвь», ГА «Беларуская гільдыя майстроў і рамеснікаў».

Нагадаем, што 19 лютага Міністэрства размясціла на сваім сайце Пастанову №7, дадаткам да якой быў сфарміраваны пералік творчых саюзаў, дзе не знайшлося месца для Саюза беларускіх пісьменнікаў. Паводле пастановы, сябры саюза, якія знаходзіліся на творчай працы, аўтаматычна ўключаліся ў лік «дармаедаў» і мусілі плаціць адпаведны падатак.

Пастанова Міністэрства культуры з'явілася рэакцыяй на заявы і звароты Саюза беларускіх пісьменнікаў з патрабаваннем перагледзець пастанову №7 і вярнуць найстарэйшай прафесійнай арганізацыі пісьменнікаў Беларусі статус творчага саюза.

# Як абаронцаў Айчыны спрабуюць паказаць «тэрарыстамі»



Алесь КІРКЕВІЧ

**Па справе аб «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» затрымана ўжо 27 чалавек. Збольшага гэта былыя чальцы «Белага легіёна» ды «маладафронтаўцы» — нядаўнія абаронцы Курапатаў.**



Фота www.svaboda.org

«Ваяр» — прысяга ў Слуцку

**Больш як 10 гадоў «легіянеры» не ўдзельнічалі ў палітычным жыцці, займаліся больш практычнымі для патрыётаў справамі: распаўсюдам літаратуры, дызайнам нацыянальнай вопраткі і г.д.**

Нагадаем, затрыманні колішніх «легіянераў» пачаліся 21 сакавіка. Тады адразу па заканчэнні літаратурнай прэміі «Дэбют» затрымалі Алеся Яўдаху, які займаўся гандлем кнігамі беларускіх аўтараў. Міраслава Лазоўскага, памочніка дырэктара выдавецтва «Кнігазбор», наўпрост выцягнулі з машыны, калі ён ехаў па Мінску.

На памежным пункце з Украінай затрымалі Андрэя Дундукова, які разам з сям'ёй адпраўляўся на адпачынак. Тры-пяць-сем-дзевяць... Колькасць затрыманых расла штогадзіны.

На наступны дзень пачаліся затрыманні сяброў «Маладога фронту». Спачатку ўзялі Дашкевіча, Леўчанку ды Пальчэўскага ў той час, калі хлопцы збіралі мэблю ў кватэры пісьменніка Уладзіміра Арлова. Пазней іх паплечнікаў — Васільева, Крэмянецкага і Яроменку.

Артыкул абвінавачвання для ўсіх быў адзін: 293 частка 3 («падрыхтоўка масавых беспарадкаў»). Пакаранне па артыкуле — ад 6 месяцаў арышту да 3 гадоў зняволення. Пасля «Плошчы–2010» удзельнікам вешалі іншыя часткі таго ж артыкулу: арганізацыю ды ўдзел у масавых беспарадках, што максімальна цягнула на 15 гадоў за кратамі. Чаму гэтым разам «падрыхтоўка»? Усё проста: паводле сведчанняў блізкіх і знаёмых затрыманых, тыя скептычна ставіліся да ініцыятывы Мікалая Статкевіча і ніякага актыўнага ўдзелу ў падзеях 25 сакавіка браць не збіраліся. Таму пасля 25-га іх і браць не было б за што.

### Сцягі, мадэлі аўтаматаў, рыдлёўкі... а дзе экстрэмізм?

Ва ўсіх затрыманых, якіх паспяшаліся запісаць у «Белы легіён», былі праведзеныяператрусы. У дадзеным выпадку гэта не толькі абавязковая юрыдычная працэдура, але яшчэ і важны момант дзяржпрапаганды: кадры з вобшукаў трапілі пазней на БТ ды СТВ. Што ж знайшлі апаратыўнікі? Страйкбольныя аўтаматы Калашнікава, вучэбныя гранаты (некаторыя адмыслова пафарбаваныя ў белы колер), зарэгістраваныя і цалкам легальныя паляўнічыя стрэльбы, бел-чырвона-белыя ды ўкраінскія сцягі, шаўроны...

Варта прызнаць, што раскладзеныя на падлозе кватэры альбо ў спартовым зале элементы такога рыштунку сапраўды выглядаюць пагрозліва. Але толькі на першы погляд. Уся зброя — вучэбная альбо легальная. Нажы, як і камуфляж, падсумкі ды разгрузкі наогул не патрабуюць ніякай рэгістрацыі — іх можна набыць шмат дзе свабодна. З такім жа поспехам сілавікі маглі «браць» любы школьны пакой дапрызыўнай падрыхтоўцы альбо кропку па продажы камуфляжу ды вайсковых рыдлёвак на рынку ў Ждановічах.

Знойдзеныя кнігі, якія залічылі ледзьве не да экстрэмісцкіх, прадаюцца ў любой кнігарні: варта зайсці і пераканацца, што такой інфармацыі ў адкрытым доступе зараз поўна. Шаўроны ды сімволіка — гэта наогул калекцыйны матэрыял: у сваёй хаце не на бачным месцы з калекцыйнымі мэтамі паводле закону ў нас можна захоўваць нават прадметы, звязаныя з Трэцім Рэйхам.



Сябры «Белага легіёна» здаюць іспыт на атрыманне «сталёвага берэта»

Дарэчы, ніякага «фашызму» ў затрыманых так і не знайшлі. Бо калі б знайшлі — абавязкова паказалі б. Больш за тое, карціна з людзьмі ў масках, за плячыма якіх дыміцца невядомы будынак, паказаная ў адным з рэпартажаў, сведчыць пра адваротнае: пад нагамі ў аднаго з намаляваных байцоў акурат растаптаная свастыка альбо «калаўрат», які раней выкарыстоўвалі чальцы фашыстоўскага «Рускага нацыянальнага адзінства».

### 1937–2017: ноч — машына — няма чалавека...

Уразіў фармат затрыманняў. Міраслава Лазоўскага, да прыкладу, дадому прывезлі ў крыві, пасля чаго пасадзілі на зэдліку тварам да сцяны. Са словаў чальцоў групы затрымання, той «аказваў супраціў». Нявеста Лазоўскага Святлана, якая прысутнічала падчас вобшуку, была ў стане шоку.

У кватэры іншага затрыманага, Віктара Данілава, службоўцы ў масках ды поўным рыштунку наогул выламалі металічную дзвярную каробку. Пры гэтым самога Данілава ў гэты момант нават у хаце не было, там заставаліся дзве жанчыны, у прыватнасці ягоная маці і нявеста Юля. Заўважым, што вобшук цягнуўся 20 гадзін. Пасля чаго знясіленую маці Віктара павезлі яшчэ на вобшук гаражу, дзе наогул нічога не знайшлі.

Каб выцягнуць з машыны абаронцу Курапатаў Сяргея Пальчэўскага, сілавікі разбілі шкло. Дашкевіча і Леўчанку выводзілі з кватэры з мяхамі на



«Ваяр» на вышкале



Фота www.svaboda.org

«Ваяр» — прысяга ў Слуцку

галовах ды звязанымі рукамі...Ператрус у хаце Дашкевіча, дарэчы, наогул прайшоў у той час, калі яго жонка Наста шукала Змітра па ўсіх РУУС. Зніклі грошы, а перапужаны кот гаспадароў наўпрост збег.

Такім чынам, і фармат затрыманняў, і фарматператрусаў падаецца неадэкватным, чарговым элементам запалохвання грамадства. Маўляў, памятайце, 1937 год не за гарамі. Ноч — машына — няма чалавека... Усё паўтараецца зноў.

### Стандарты спецназу і традыцыі войска ВКЛ

Што ж такое «Белы легіён» і чаму менавіта зараз на яго звярнулі ўвагу? Калі звяртацца да перадгісторыі, то арганізацыя вырасла з «Беларускага згуртавання вайскоўцаў» — суполкі патрыятычных афіцэраў, якая дзейнічала на пачатку 1990-х. Знакамітая прысяга на вернасць Беларусі 8 верасня 1992 года была адной з акцыяў згуртавання. У тыя часы там яшчэ верхаводзіў Мікалай Статкевіч.

У далейшым шляхі Статкевіча і легіянераў разышліся. Першы пайшоў у палітыку, другія — працягвалі займацца дапрызыўнай падрыхтоўкай моладзі, мацуючы фізічную сілу ды патрыятызм у сваіх шэрагах. Профіль працы быў цалкам звычайны для любога спартова-патрыятычнага клубу ва Украіне ці Расіі, дзе падобных арганізацыяў сотні: фізічныя выпрабаванні, базавыя навыкі выжывання, экзамены па нацыянальнай гісторыі.

Варта адзначыць, што ўзровень легіянераў быў вышэйшы за сярэдні: як адзначаў у адным з інтэрв'ю Сяргей Чыслаў, адзін з кіраўнікоў арганізацыі, нарматывы на здачу «сталёвага берэту» легіянераў былі падобнымі да нарматываў «крапавікоў» (спецназаўцаў, якія здаюць не «крапавы берэт»). Адзінай розніцай была адсутнасць на трэнінгах легіянераў баявой зброі, каб не ствараць нагодаў да арыштаў.

Акрамя фізічных навыкаў, «Белы легіён» даваў сваім прыхільнікам і моцны духоўны падмурак. Падчас спарынгаў, напрыклад, музыка побач адмыслова грае ў дудзе, падтрымліваючы старадаўнія традыцыі войска ВКЛ ды ствараючы атмасферу пэўнай вайсковай медытацыі. Прысяга ды здача на «сталёвы берэт» зазвычай праходзіла ў памятных гістарычных месцах, напрыклад, Мірскім ці Нясвіжскім замку, суправаджалася экскурсіямі. «Легіянеры» таксама часцяком прымалі ўдзелы ў раскопках на тэрыторыі Беларусі.

### «У сваім доме мы вогнішча не распальваем»

У 1990-х гадах «Белы легіён» заслужыў славу «кулакоў апазіцыі». Сцягі арганізацыі лунали падчас «Мінскай вясны–1996», калі пратэстоўцы пераварочвалі машыны міліцыі.

Сябры арганізацыі ўдзельнічалі ў «Маршы Свабоды» 1999-га, вядомага бойкамі з міліцыяй і каменяпадам. Збольшага легіянеры акурат ахоўвалі мітынгі ды супрацьстаялі правакацыям. Байцам УНА-УНСО у 1996-м, калі тыя збіраліся рыхтаваць на акцыю «кактэйлі Молатава», Чыслаў строга паставіў умову: «У сваім доме мы вогнішча не распальваем», астудзіўшы пыл прыехаўшых з поўдня актывістаў. Дарэчы, у 1997 годзе супраць «БЛ» быў арганізаваны шэраг правакацый, у тым ліку жорсткае збіццё яго лідара Сяржука Чыслава — той трапіў у шпіталь са шматлікімі пераломамі.

Структура супрацоўнічала з рознымі апазіцыйнымі палітыкамі, але ў выніку канчаткова расчаравалася ў дзеячах апазіцыі. Больш як 10 гадоў «легіянеры» не ўдзельнічалі ў палітычным жыцці, займаліся больш практычнымі для патрыётаў справамі: распаўсюдам беларускай літаратуры, дызайнам нацыянальнай вопраткі і г.д. Арганізацыя фактычна спыніла сваё існаванне, застаўшыся колам сяброў, кожны з якіх умацоўвае патрыятызм на сваім месцы: ад вайсковай часткі да кнігарні.

Апошнім разам пра БЛ гучна гаварылі ў 2008-м, калі Лазоўскага, Чыслава і Корсака затрымалі па падазрэнні ў падрыхтоўцы тэракту ў Мінску на дзень незалежнасці. У хуткім часе, праўда, усіх выпусцілі, аб'явіўшы невінаватымі. Атрымліваецца, што нават пасля згортвання арганізацыі, спецслужбы ўвесь час сачылі за яе чальцамі, каб у патрэбны момант наўпрост падняць старыя архівы ды паказаць кіраўніку Беларусі ды тэлегледачам «злосных ворагаў дзяржавы». Выходзіць, час надышоў.

### «Ваяр» стварaўся насуперак казацкім прарасійскім летнікам

У адрозненне ад «Белага легіёна», «Малады фронт» заўжды дзейнічаў публічна ў рамках палітычнага поля, не выходзячы за канцэпцыю «негвалтоўнага супраціву» Джына Шарпа. Профілем МФ была агітацыя, вулічныя акцыі са сцягамі ды воклічамі, графіці ды ўлёткі. Зрэшты, сяброў арганізацыі ўжо арыштоўвалі па справе аб «масавых беспарадках» пасля выбараў 2010 года. Тады, праўда, ні пра камуфляж, ні пра адмысловую падрыхтоўку гаворкі не было: хапіла карцінкі разбітых дзвярэй Дома Ураду.

Змены ў «Маладым фронце» можна было канстатаваць ад 2014 года. Пасля падзеяў ва Украіне і масавага выкрыцця праваслаўных казацкіх летнікаў на тэрыторыі Беларусі, якія надзвычай нагадвалі аналагічныя ў цэнтральнай ды ўсходняй Украіне, актывісты вырашылі пачаць самастойную падрыхтоўку, каб у выпадку чаго бараніць незалежнасць. Так быў створаны клуб «Ваяр», які ладзіў заняткі для моладзі ў тым жа спартова-патрыятычным ключы. Але — карцінка ўжо была створаная: маладзёны ў камуфляжы з мадэлямі аўтаматаў бегаюць па лясах. Хлопцаў у чарговы раз узялі ў абарот спецслужбы, чакаючы зручнага часу для «хапуна».

У дадзенай сітуацыі сімвалічна, што МФ толькі што скончыў кампанію з нямётавым мястэчкам у Курапатах. На працягу двух тыдняў хлопцы абаранялі межы нацыянальнага некропаля ад будаўніцтва бізнес-цэнтру, вынікам чаго стала перамога: будоўля была спыненая. Больш за тое, на сітуацыю



Міраслаў Лазоўскі на кніжным кірмашы



Міраслаў Лазоўскі і Зміцер Дашкевіч падчас лекцыі ў клубе імя Вітаўта Вялікага

**На МФ улады даўно трымалі крыўду за «самазабойчыя» пратэсты. Але пасадзіць хлопцаў «за палітыку», мабыць, не выпадала, таму трэба было выкарыстаць нешта іншае**

вакол Курапатаў звярнулі ўвагу дзяржаўныя медыя, а кіраўнік краіны загадаў «разабрацца» ды пабудаваць на месцы сталінскіх рэпрэсій капліцу. У параўнанні з колішняй пазіцыяй і абставінамі супрацьстаяння на Курапатах у 2001-м годзе, сітуацыя абсалютна фантастычная.

Зноў жа, на МФ улады даўно трымалі крыўду за смелыя, часам «самазабойчыя», пратэсты. Але пасадзіць хлопцаў «за палітыку», мабыць, не выпадала, таму трэба было выкарыстаць нешта іншае, напрыклад, падрыхтоўку «мяцяжу». Справа з «баевікамі» і «мяцяжом» для ўладаў аказалася вельмі зручнай. Пра гэта сведчыць і заява прадстаўніка МЗС Міронўчыка, які патлумачыў прадстаўнікам Захаду сітуацыю ў кантэксце тэрарыстычнай пагрозы, прывёўшы прыклады тэрактаў у Парыжы, Ніцы ды Берліне. Маўляў, усе арышты былі праведзеныя, каб прадухіліць падобнае ў Беларусі.

### Хто застанецца, каб бараніць незалежнасць?..

Сябroў «Белага легіёна» і «Маладога фронту» аб'ядноўвае паміж сабой адно — патрыятычная пазіцыя. Усе трэніроўкі ладзіліся на выпадак патрэбы абароны незалежнасці, а не для змены ўлады, як гэта нехта хоча падаць. Лазоўскі неаднаразова казаў: «Для мяне не мае значэння прозвішча прэзідэнта, галоўнае — незалежнасць». Нават вядомы сваімі радыкальнымі выказваннямі Дашкевіч некалі прызнаў, што рады, што апазіцыя не перамагла ў свой час на выбарах, бо яе лідары не змаглі б адстаяць краіны ў крытычны момант. Галоўнае — зберагчы краіну, палітыка — другаснае.

Апрача тактычных момантаў, звязаных з падзеямі «рэвалюцыйнай вясны 2017-га», затрыманні патрыётаў — гэта яшчэ і чыстка нацыянальнага актыву ў сітуацыі перманентнай расійскай пагрозы. Выглядае, што сілавікі зверяюць гадзіннікі ўсё ж такі па Маскве, а не па Мінску. І гэта можа мець значна горшыя наступствы, чым ужо звыклыя для Беларусі арэлі «лібералізацыяў» ды «пахаладанняў» на палітычным полі.

Затрыманні «чароўным чынам» супалі з візітамі першых асобаў Беларусі ў Расію і могуць быць рэверансам у бок Масквы. Маўляў, глядзіце, «Майдану» мы не дапусцім, усю «бандэраўшчыну» выкаранім, АДКБ, інтэграцыя і Саюзная дзяржава — перадусім! Такім чынам афіцыйныя ўлады ў чарговы раз даюць зразумець сваім грамадзянам, што патрыятызм можа быць толькі «правільным», кантраляваным, у стылі суботнікаў БРСМ на Лініі Сталіна.

Ніякіх высноваў з падзеяў ва Украіне, калі чальцы патрыятычных арганізацыяў першымі сталі на абарону незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці, а службоўцы МУС ды СБУ разбегліся ці пайшлі да сепаратыстаў, кіраўнікі краіны, на жаль, так і не зрабілі. Вынікі падобнай палітыкі для дзяржавы могуць быць фатальнымі: ваяваць за сваю зямлю ў выпадку рэальнай, а не надуманай, пагрозы, наўпрост не будзе каму.

Фота з архіву аўтара і «Радыё Свабода»

### Спіс затрыманых па справе аб «масавых беспарадках»

1. Абрамаў Аляксей
2. Барсток Сяргей
3. Бяляўскі Андрэй
4. Васільеў Раман
5. Грэк Ілля
6. Гурын Юрый
7. Данілаў Віктар
8. Дашкевіч Зміцер
9. Дукшт Вячаслаў
10. Дундукоў Андрэй
11. Зімніцкі Алесь
12. Кавальчук Іван
13. Комлік-Ямацін Андрэй
14. Крэмянецкі Дзмітрый
15. Лазоўскі Міраслаў
16. Леўчанка Арцём
17. Міхалькоў Мікалай
18. Міхалькоў Ян Мікалаевіч
19. Новікаў Дзмітрый
20. Пашкевіч Цімур
21. Пальчэўскі Сяргей
22. Румянцаў Уладзімір
23. Стрыбульскі Сяргей
24. Сцяпанаў Максім
25. Яроменак Уладзь
26. Яўдаха Аляксандр
27. Палтаржыцкі Яўген





Дагляд старшыні БХК Алега Гулака

# Як мяне бралі вясной у «Вясне»

Дзіяна ПІНЧУК

**Дома цёпла і ўтульна. Дома мяккія канапы і пледы. Дома гарачая гарбата з цукрам... Але напярэдадні Дня Волі вырашыла: я павінна быць разам ці хаця б побач з тымі людзьмі, якія лічаць сваім безумоўным абавязкам выйсці на Плошчу.**





**Пасведчанне назіральніка.**
Фота Дзіяны Пінчук

Я вырашыла, што мая юрыдычная адукацыя патрэбна гэтым людзям. Таму зарэгістравалася ў якасці назіральніка Рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінскі Камітэт» (зарэгістравана рашэннем Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 15 студзеня 2009 года № 8. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 02022). Я адмыслова прыводжу гэтыя дадзеныя са спасылкамі на рашэнні, каб вы адчулі ўсю абсурднасць сітуацыі. Назіральнік — што вынікае з назвы — з'яўляецца незалежным, ён не проста не займае пазіцыю ні аднаго з бакоў, але нават не мае права на гэта.

Задаволеная і натхнёная тым, што я рэальна буду дзейнічаць на карысць Радзімы, я пайшла ў офіс праваабарончага цэнтра «Вясна». Нам выдалі пасведчанні назіральнікаў, дзе было напісана, што функцыя назіральнікаў — падкрэсліваю — зводзіцца толькі да маніторынгу акцыі з нагоды Дня Волі, і што з'яўлялася адпаведнай акрэдытацыяй на гэта. Трэба адзначыць, што спісы прозвішчаў усіх назіральнікаў былі загадзя накіраваны ў ГУУС.

У офісе панавала цёплая хатняя абстаноўка — людзі пілі гарбату з бутэрбродамі ды абменьваліся вострымі жартачкамі. Юрыст ПЦ «Вясна» амаль скончыла інструктаж, у якім строга агаворваліся моманты аб'ектыўнасці, незацікаўленасці, няўмяшальніцтва.... І ў гэты момант: «Усе тварам на падлогу!»

У пакой, дзе знаходзілася больш за 50 чалавек, уварваўся АМАП з супрацоўнікамі Следчага камітэта і людзьмі ў цывільным. Без прадстаўлення і якіх-небудзь тлумачэнняў, пачалі весці відэаздымкі і запісваць нашы прозвішчы.

«На якой падставе вы нас затрымліваеце?» — «Колькі вы нас яшчэ будзеце трымаць?» — «Ды якое ўвогуле вы права маеце нас затрымліваць?!» — «Што з намі будзе?» — пытанні так і павіслі ў паветры пакоя. Камусьці рабілася млосна, камусьці дрэнна, і амаль усім смешна ад абсурднасці гэтай сітуацыі: праваабаронцы і назіральнікі — ляжаць тварам у падлогу.

Як прысуд грымнула: «Па адным на выхад!» Наогул, самым страшным 25 сакавіка была невядомасць. Невядомасць, што будзе са мной, што будзе з ім, што будзе з намі.

Дом, у якім змяшчаўся офіс, быў ачэплены цалкам! Нас супраўаджалі некалькі амапаўцаў па выбудаваным імі калідоры да белага аўтобуса. Пра тое, як умяшчалі 57 чалавек у адзін аўтобус, можна распавядаць бясконца. «По четверо садитесь!» — спрабавалі вырашыць сітуацыю амапаўцы. — «Так мы ўжо!» Нас утрамбоўвалі, як мяхі з бульбай. Я апынулася заціснутай двума амапаўцамі: «Вы так і будзеце стаяць?!»

На ўсе мае спробы атрымаць адказ на пытанне: «Куды нас вязуць?» большасць амапаўцаў загадкава ўсміхалася і пацiскала плячыма. Адзін з іх вырашыў пажартаваць: «У турму, куда ж еще»! Канешне, я з вялікімі вачыма спрабавала ім нешта даказаць, кідаючы: «на якой падставе?», «арганізацыя зарэгістравана ў вашым жа Мінюсце». Але ў адказ атрымлівала: «Там цябе зарэгіструюць».

Выпадкова да ліку затрыманых трапіла 15-гадовая дзяўчынка, якая проста спускалася па лесвіцы побач з офісам. Але ніхто нават не хацеў слухаць пра гэта. Таксама з намі былі расійскія і французскія калегі, якія ўспрымалі ўсё як сон, які прысніўся пасля прачытання нейкага таннага дэтэктыва.

Але супакойвалі людзі, якія ехалі са мной у аўтобусе. Усе ўсміхаліся, жартавалі, што нас проста вывезлі на экскурсію па месцах канцэнтрацыі гарачых кропак. На пытанне калегаў: «У каго гэта першае затрыманне?», рукі ўзняў амаль увесь аўтобус.

Прывезлі ў Першамайскае УУС. «Выходзім!» — загадалі міліцыянты. Па выбудаваным жывым калідоры мы прайшлі ў спартовую залу. І зноў у куце стаяла відэакамера. «Добра, — думаю, — няхай, здымаюць! Спадзяюся, гэтыя ж карты памяці будуць выкарыстаныя супраць іх у будучыні. Хуткай будучыні».

Нас па чарзе аглядалі і абшуквалі аж да пальцаў ног. Калі я ехала ў Мінск, жартавала: «Кожны беларус павінен насіць з сабой запасную пару шкарпэтак і зубную шчотку». Але я не ведала, што словы апынуцца прароцкімі.

...Мая чарга. Перамяшчаю змесціва кішэняў у кардонную скрынку: манеты, жэтон, гігіенічная памада і... шкарпэткі. Мае шкарпэткі з арнаментам. Дзяўчына, якая мяне абшуквала, здзівілася, але не сказала нічога. Паглядзела нават, што ў мяне пад нашыўкамі на плашчы, трохі адарваўшы адну з іх у выглядзе валошак. Адкрываю заплечнік, дастаю: зарадку, слухаўкі, нататнік, дзве ручкі, касметычку, у якой ляжалі дзве стужачкі: арнаментаваная і ўкраінская. «Гэта я з падарожжа прывезла — з Адэсы. Зняла, каб не правакаваць нікога», — незразумела навошта тлумачу я. Гематаген, яшчэ адны шкарпэткі — блiскучыя, духі: «Смачна пахнуць!» Дзяўчына ў форме нюхае, ківае: «Так...»

Апранаю кішэнныя шкарпэткі праходжу да агледжаных. «Шнуркі і рамень не забралі, — думаю. — Значыць усё павінна быць добра». Чакаем. Зноў невядомасць. Сяджу толькі пару гадзін, але ўжо едзе дах. Як яны трымаюць па 15 сутак?! Лаўлю ўсмешкі, падміргванні: «Не хвалюйся ты так! За незалежнасць і пасядзець можна!»

...Пляскаюць дзвярыма: «Каго называем — падыходзьце!»

Сем чалавек павялі. Я зноў спрабую атрымаць адказ: «Куды іх павялі? Куды нас павядуць?» Атрымліваю чаканае: «Куда надо!!!» Пазней высветлілася, што нас прабівалі па базе дадзеных на прадмет наяўнасці адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці. Пратаколы не складалі.

Выходзім з залы а 15 гадзіне. Бачу за варотамі сваіх. Глыбока ўдыхаю сцюдзёнае паветра: «Усё будзе добра!»

І раптам паварочваю галаву, ад убачанага ўстае камяк у горле. Каля трох-чатырох дзясяткаў чалавек стаяць «тварам да сцяны, ногі на шырыні плячэй, рукі над галавой». Пазнаю з затрыманых грамадскую актывістку Вольгу Мікалайчык, якая з усмешкай выкрыквае нам прывітальнае: «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» «Жыве...» — шапчу засохлымі вуснамі я.

## Людзі ўсведамляюць, што да перамен засталося крыху, таму не баяцца

**Акцыя 25 сакавіка запомнілася не столькі затрыманнямі і брутальным разгонам, колькі годнасцю і спакоем, з якой дэманстранты «здаваліся» сілавікам. Яны рабілі сэлфі на фоне міліцэйскіх кардонаў, махалі сцягамі з аўтазака. Чаму раптам беларусы асмялелі?**

На думку псіхолага Людмілы Мірзаянавай, беларусы адаптаваліся да палітыкі ўладаў — застрашвання і арыштаў:

«Спачатку, вядома, гэта робіць шокавае ўражанне, але паступова кола людзей, якое трапляе пад гэтае ўражанне, пашыраецца, людзі ўзаемадзейнічаюць і прызвычайваюцца. Другі момант — стан людзей не той. Тых, хто выходзіць, — больш, яны сталі больш упэўненымі, яны адчуваюць слабасць улады».

Псіхолаг не была ў Беларусі паўгода. Прыехаўшы цяпер, размаўляючы з рознымі, абсалютна не знаёмымі людзьмі, кажа, што беларусы мяняюцца:

«Гэта іншыя людзі! Змянілася стаўленне да гэтай рэчаіснасці, змянілася стаўленне да ўлады. Людзі пайшлі на акцыі. Вера ў тое, што поспех магчымы, вельмі ўмацавалася. Трывожнасць знізілася. Бо калі людзі ведаюць, чаго яны хочуць, а яны хочуць перамен, і ведаюць, што яны ўсё адно наступяць, тады суды і арышты не страшныя. І гэты стан упэўненасці распаўсюджваецца, ён заразны. Нават гэты момант застрашвання напярэдадні 25-га з пасадкамі прывёў толькі да аднаго — яшчэ большы смех, больш іроніі, сарказму... Гэта таксама пра многае кажа: перад распадам Савецкага саюза было столькі анекдотаў, як ніколі».

euroradio.fm

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (127)
(сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест





**Як бачым, наша беларуская справа не безнадзейная. Жыло і будзе жыць наша беларускае мастацкае слова. Слова беларускае!**

# Верай і праўдай

## З выступлення на XVII З'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

Падумаў сабе, гледзячы на залу: гэта ж сярод калегаў, дэлегатаў З'езда, шмат малазнаёмых, нават шмат незнаёмых зусім.

Што і радуе, і адначасова бянтэжыць. Радуе, бо нягледзячы на няпростае становішча нашай пісьменніцкай арганізацыі, яна, тым не менш, папаўняецца, расце. Бянтэжыць, засмучае тое, што праз адсутнасць неабходнай матэрыяльнай базы Саюз не мае магчымасці нармальна ажыццяўляць сваю статутную дзейнасць, а гэта значыць — не толькі распрацоўваць літаратурна-культурніцкія праекты і праграмы, праводзіць канферэнцыі, «круглыя сталы», семінары, прэзентацыі, вечары памяці і г.д., але, апрача ўсяго гэтага, не ў стане ствараць умовы, спрыяць таму, каб яго сябры маглі асабіста сустракацца, бачыцца, раіцца, дзяліцца сваімі задумамі і планамі, інакш кажучы: мець пэўную апору і стымул у сваіх творчых і чалавечых узаемастасунках. Вядома, пісьменніцкая справа — справа найперш індывідуальная, так бы мовіць, аднаасобніцкая, але ж... Прывяду — замест вядомага выказвання Антуана Сэнт-Экзюперы пра вартасць нашых сустрэч-узаемін — уласныя радкі:

*Сустрэчы — не проста збліжэнне:*
*ідзе праз іх шум і тлум*
*узаемапамнажэнне*
*нашых душ і дум.*
*Сустрэчы — не проста збліжэнне:*
*яны — антыпод адчужэння...*

Згадваецца, з якім адметным пачуццём гаварыла і пісала пра нашу людскую і пісьменніцкую



сябрыну (яе любімае слова) Ніна Мацяш. І нават была пагадзілася ўзначаліць абласное аддзяленне Саюза і з самаахвярнай адданасцю выконвала гэты абавязак. Ведаю, як непакоіўся за лёс нашага творчага аб'яднання, за нашыя ўзаемадачыненні Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Пра гэта заўсёды заходзіла размова, калі наведвалі яго, цяжка хворага, мы з акадэмікам Радзімам Гарэцкім.

Мінулы год, памятаеце, лічыўся годам культуры. Чаму менавіта так лічыўся і чым такім адметным вызначыўся, увайшоў у гісторыю? Цяжка сказаць, бо нічога вартага, значнага ў гэтым «культурным годзе» не адбылося. А магло б адбыцца. Магла б мець месца, як мінімум, адна важная, вартая «Году культуры» падзея. Якая? Адмена распараджэння аб канфіскацыі Дома літаратара і вяртанні яго законнаму ўладальніку — Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Не толькі маю маральнае права, але і мушу пра гэта гаварыць, бо ў траўні 1976 года разам з Максімам Танкам і Іванам Шамякіным у прысутнасці кіраўнікоў рэспублікі прымаў урачыста ключ ад будаўнікоў. Меў непасрэднае дачыненне да абжывання новага будынку, быў сведкам, як Дом станавіўся неўзабаве вабным цэнтрам не толькі літаратурнага, але і грамадска-культурнага жыцця Мінска. Даводзіцца вось пра гэта гаварыць у мінулым часе.

Пры ўсім пры тым пішам, друкуемся... А што, шаноўныя калегі, чытаем на сённяшні дзень? Што, каго? Што, каго перачытваем? У дадзеным выпадку атрымалася неяк так, што я перачытваў і чытаў у асноўным нашу публіцыстыку. Ці ні кіруючыся парадай свайго шматгадовага сябра, таварыша і паплечніка Ніла Гілевіча, што «не перачытваючы — усенародна — Купалу, мы да беларускай Беларусі не дойдзем», пачаў з артыкулаў Янкі Купалы. Перачытаў іх у адной з самых маіх дарагіх і яшчэ да таго ж зручных для карыстання кніг — выдадзеным у 1993 годзе томіку пад назвай «Жыве Беларусь», з прадмовай і каментарамі Вячаслава Рагойшы. Затым перачытаў, з тымі ж цікавасцю і пранікненнем, публіцыстыку Максіма Багдановіча, змешчаную ў трэцім томе новага збору яго твораў і дапоўненую ўдала аднайменным пасляслоўем Уладзіміра Конана (2001 год). Тут жа падаспела кніжыца, на светлым пераплёце якой значылася выразнымі шрыфтамі: «Максім Гарэцкі. Публіцыстыка 1918–1919 гг. Смаленск–Менск–Вільня». Не мог не згадаць і згадаў, асвяжыў у памяці старонкі зборнікаў Васіля Быкава «Праўдай адзінай» і «На крыжах». Апошні, дарэчы, адкрываецца памятным, у пэўным сэнсе гістарычным выступам пісьменніка на, зноў-такі, памятным, пятым З'ездзе нашага Саюза. Выступ, напомню, заканчваўся словамі: «Пакуль мы будзем з'ядналі па важнейшых пытаннях нашага жыцця і будзем гаварыць пра тое адкрыта, беларускі народ можа спадзявацца на добры лёс сваёй літаратуры».

Далей — болей. Пайшлі, перачыталіся, праглядаліся, чыталіся кнігі: «Апакаліпсіс па графіку» Алеся Адамовіча, «Які ён, шлях Беларусі, да дэмакратычнай дзяржавы?» Альфрэда Майхровіча, «У віры быцця» Ніла Гілевіча, «Перадусім Беларусь. Згадваючы Генадзя Бураўкіна» (укладанне і каментары Сяргея Шапрана), «Чарнобыльскія пантэоны: сны і явы» Эдуарда Збароўскага, «Саркафагі страху» Міхася Скоблы, «Карчаватка» Міколы Гіля...

Гэтае перачытванне і чытанне было карыснае яшчэ і тым, што нагадвалі — своеасаблівы эфект лакмуса, — пра такія «неад'емныя рысы беларускай літаратуры, як высокае пакліканне, служэнне верай і праўдай беларускай справе, глыбокае ўсведамленне адказнасці за лёс свайго народа, роднай Бацькаўшчыны. У гэтым, уласна кажучы, і сэнс шчырага прызнання паэта:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла.*

Яшчэ адно, наступнае меркаванне. Адносна, так бы мовіць, зваротнай сувязі. У дачыненнях тых, хто піша, з тымі, хто чытае, хто, у прыватнасці, шануе і бароніць створанае намі. У свой час лабараторыя «Новак» правяла, на замову Саюза беларускіх пісьменнікаў, даволі грунтоўнае апытанне, прысвечанае культуры і асаблівасцям чытання грамадзянаў краіны. Вынікі, гэтыя самыя «адсоткі», выглядалі не вельмі суцяшальна. Ды небезнадзейна. Фіксаваліся ў полі чытацкіх зацікаўленасцяў такія моманты, як пэўны брэнд, імя аўтара, надзённасць тэмы. У чым мы і маглі пераконвацца нядаўна на рэальных прыкладах. Уладзімір Арлоў і Павел Татарнікаў цягам некалькіх гадзін узапар падпісваюць чытачам сваю кнігу «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі». Адной з самых важных падзей 24-ай Мінскай кніжнай выставы-кірмашу была аўтограф-сесія лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч. З вялікім ажыятажам прайшлі прэзентацыі — таксама з подпісамі-аўтографамі, — рамана Віктара Марціновіча «Возера радасці» і кнігі замалёвак з натуры «Радзіва Прудок» Андруся Горвата.

Ці вось яшчэ такі, іншага ўжо плану, красамоўны доказ запатрабаванасці беларускага літаратурнага, у прыватнасці паэтычнага, слова. Ведаю, колькі часу, энергіі, свайго вялікага артыстычнага дару прысвячае чытанню нашых твораў Марыя Захарэвіч. Гаворыць, як многа значыць для яе родная літаратура, наша паэзія. І з захапленнем распавядае, як людзі ўспрымаюць яе чытанне. Нездарма Васіль Зуёнак свой верш, прысвечаны народнай артыстцы, назваў «Голас». «Захарэвіч Марыя — беларускай паэзіі голас узнёслы!..»

Другі прыклад. Супрацоўнічаю з паэтычным тэатрам аднаго акцёра «Зьніч», які стварыла і ўзначальвае Галіна Дзягілева. І нязменна адзначаю з удзячнасцю той факт, што на сцэне тэатра ідуць, адзін за адным, монаспектаклі, створаныя на аснове тэкстаў беларускіх аўтараў. Нядаўна я прысутнічаў на яе спектаклі «Любіць», які быў паказаны ў актавай залі мінскай гімназіі № 74. Пасля спектакля сустрэліся з настаўнікамі, кіраўнікамі гімназіі. Намеснік дырэктара, яна ж выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, Яніна Францаўна Ляўковіч выказала пажаданне, каб на нашым пісьменніцкім З'ездзе прагучала патрабаванне «дадаць яшчэ адну гадзіну на беларускую літаратуру». Яна ж і падзялілася цікавым меркаваннем: «Пры адпаведнай методыцы выкладання літаратуры вучні не толькі атрымліваюць абстрактныя веды, але праз беларускасць твора пазнаюць сваю краіну, яе гісторыю і яе сучаснае жыццё».

Яшчэ адзін факт. Аднадушна, з незвычайным эмацыйным уздымам успрымаюцца заўсёды нашыя паэтычныя творы ў песенна-музычным выкананні цудоўнай спявачкі-патрыёткі Таццяны Грыневіч-Матафонавай. Тое ж можна сказаць і ў дачыненні да іншых вядомых беларускіх бардаў.

Так што, як бачым, наша беларуская справа не безнадзейная. Жыло і будзе жыць наша беларускае мастацкае слова. Слова беларускае!



# Сакавіцкая Рада СБП

**15 сакавіка адбылося паседжанне новаабранай Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Першым намеснікам старшыні Рады паўторна быў абраны Алесь Пашкевіч, намеснікам — Усевалад Сцебурака.**

Прыёмную камісію ўзначаліла Аксана Спрынчан, у склад камісіі ўвайшлі: Ірына Багдановіч, Пятро Васючэнка, Наталля Гардзіенка, Аксана Данільчык, Леанід Дранько-Майсюк, Віктар Жыбуль, Алесь Наварыч, Аляксей Рагуля, Усевалад Сцебурака і Ціхан Чарнякевіч.

Таксама былі абмеркаваныя вынікі XVII чарговага справаздачна-выбарчага З'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў і розныя іншыя пытанні.

# Прэзентацыя «Чытанкі для маленькіх 2»

**Прэзентацыя «Чытанкі для маленькіх 2» адбылася ў дзіцячай бібліятэцы імя Астроўскага.**

Гэта вельмі прасторнае і ўдалае месца: пасярод чытальнай залы — хатка з комінам і домік Карлсана, які жыве на даху, горка і гульнявая пляцоўка. Дзеткам было дзе разгуляцца і палазіць. Але ўсіх запрасілі ў вялікую глядацкую залу са сцэнай.

Андрэй Хадановіч прадставіў «Чытанку для маленькіх 2» — зборнік казак і вершаў, прыгожа ілюстраваны мастачкай Дар'яй Мандзік, укладальнікам якога з'яўляецца паэт Анатоль Івашчанка.

Лялечны спектакль паводле народнай казкі са зборніка «Як курачка пеўніка ратавала» прадставілі Святлана Тоўсцік і Арцём Сітнікаў. Усе разам з курачкай Чубаткай дапамагалі ратаваць пеўніка Петруська. Было шмат ахвотных выконваць ролі пекара, касцоў, каровы. За што атрымалі ў падарунак часопісы «Буся».



Фота Аксаны Ючкавіч, budzma.by

# Міжваенны дзень жанчын

**Прэзентацыя паэтычнай анталогіі «Бліскавіцы» адбылася пасля 8 сакавіка, і ў гэтым ёсць непарушная логіка: калі яшчэ вяртаць з небыцця імёны забытых, паўзабытых ды зусім невядомых паэтак?**

61 аўтарка. Трывожнае дваццацігоддзе між Першай ды Другой сусветнай. Незваротныя змены ў жыцці Беларусі. Радасць і страты, грамадзянскі энтузіязм і ціхае каханне — усё знайшло месца ў анталогіі жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы».

Праца над кнігай, па словах укладальнікаў Віктара Жыбуля і Аксаны Данільчык, пачалася яшчэ ў 2011 годзе. Ініцыятарам у некаторым сэнсе і сталася спадарыня Аксана: даследаванне творчасці Дантэ прывяло яе да Язэпа Пушчы, Пушча прывёў на «Узвышаўскія чытанні», а чытанні паланілі творчасцю беларускіх паэтаў 20-30-х гадоў. Цікавасць да жаночай паэзіі гэтага перыяду пачалася для яе з Зінаіды Бандарынай і яе зборніка «Веснацвет» 1931 года, а ў працэсе далейшых даследаванняў сустракалася шмат імёнаў паэтак, многія з якіх былі ёй невядомыя. Падчас абмеркаванняў вынікаў з Віктарам Жыбулем, які таксама даследаваў творчасць паэтаў і паэтак гэтага перыяду, і ўзнікла ідэя стварэння анталогіі.

З вялікімі перапынкамі, пакінуўшы 20 чарнавікоў, яны дайшлі да шчаслівага фінала: праект падтрымаў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Упершыню — вызначальнае слова для «Бліскавіцаў». Упершыню ў беларускай літаратуры, як адзначыў Барыс Пятровіч, з'явілася такая анталогія. Упершыню згадваюцца многія прозвішчы: па прызнанні Віктара Жыбуля, са спісу аўтарак яму была вядомая толькі палова. Упершыню друкуюцца вершы Іды Чырвань, першай жонкі Кузьмы Чорнага; «Першы ўспамін» Эдзі Агняцвет, які парушае вобраз хрэстаматыйнай дзіцячай аўтаркі. «Бліскавіцы» адкрываюць імя Яніны Германовіч, жонкі Тодара Кляшторнага, якая таксама была паэткай. Што праўда, друкуецца толькі адзін верш — адзіны знойдзены.



Аксана Данільчык

Гэтаксама ўпершыню апублікаваныя вершы Ядвігі Бяганскай. Нататнік з рукапісамі нечакана знайшоўся ў фондах Валянціны Коўтун у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Дырэктар музея Ганна Запартыка, якая прымала ўдзел у стварэнні кнігі, прыкладам, здабыла копіі газеты, дзе друкаваліся творы Іды Чырвань. Увогуле, укладальнікі вельмі актыўна карысталіся фондамі музея, у тым ліку — бібліятэкай рэдкіх выданняў.

«Фонд «Маладняка» дачакаўся свайго часу, — адзначыла спадарыня Ганна. — Так, ён і раней быў запатрабаваны, але рукапісы, якія здаваліся даследчыкам графаманскімі, так і заставаліся нечытанымі. Нішто не даследаваў радкі, напісаныя жанчынамі таго часу: няхай нязграбныя, не адпаведныя высокаму мастацтву, але шчырыя, пранікнёныя. Гэтыя вершы таксама павінны жыць. І мяне вельмі цешыць, што іх цяпер прачытае не толькі выпадковы даследчык, але й шырокі чытач».

Сапраўды, не ўсе гераіні «Бліскавіцаў» могуць звацца паэткамі. Ёсць у анталогіі тэксты-аднадзёнкі, агіткі, пацешныя рыфмаванкі, нават калгасныя запеўкі. Побач з імі — хрэстаматыйныя Ларыса Геніюш, Канстанцыя Буйло, Зоська Верас, Наталля Арсеннева... Але і яны паўстаюць у новым святле.

Неабходна ўсведаміць, што «Бліскавіцы» — унікальнае выданне, якое толькі пачынае сваё жыццё. У кнізе — багатыя матэрыялы для сацыёлагаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, даследчыкаў гендарных пытанняў. Жыццё эпохі, надзённыя і патаемныя клопаты жанчын таго часу, адны з якіх праглі вырвацца за межы пялюшак-рондаляў, а іншыя, наадварот, прамянялі «любы камсамол» на ціхае шчасце.

Актуальнасць выдання падкрэслілі Ганна Янкута і Юля Цімафеева. Доўгі час жаночая літаратура не ўспрымалася ўсур'ёз ані крытыкамі, ані чытачамі. Гісторыя літаратуры — мужчынская, і стваралі яе мужчыны. «Мне як паэтцы важна ведаць, хто быў перада мной, — сказала спадарыня Юля. — Мы, паэткі, не спрачаемся з нашымі папярэднікамі, не абвяргаем іх. Мы з удзячнасцю чытаем. Узнаўляем для сябе сваю ж гісторыю. Гэта не проста тэкст — гэта кантэкст. Іхняя смеласць і адкрытасць, энергічнасць жаночага пісьма таго часу — усё гэта мне імпануе». Для сучаснай жанчыны-творцы «Бліскавіцы» маюць глыбока асабістае значэнне.

Апошні акорд — песні Міхала Бараноўскага на словы аўтарак анталогіі, у прыватнасці, на вершы Ларысы Геніюш. Хто скажа, што гучаць яны несучасна?..

**Кацярына Лях**

# Яўген Бясчасны ў Мінску

**У Літаратурным музеі Багдановіча вершамі і спевамі адзначылі выхад у серыі СБП «Пункт адліку» дэбютнага рускамоўнага зборніка паэзіі Яўгена Бясчаснага «Стой!».**

У гэтай кнізе — маладосць і экзістэнцыя, якія тэрытарыяльна і нацыянальна прыналежаць менавіта да Беларусі.

У прэзентацыі ўзялі ўдзел паэты Георгій Барташ, Уладзімір Глазаў, Алег Гаргун, Алесь Емельянаў-Шыловіч, Вольга Злотнікава, Ірына Карэніна, Ігар Кулікоў, Уладзь Лянкевіч, Антон Рудак, Віталь Рыжкоў, Таня Светашова, Таня Скарынкіна, Андрэй Хадановіч.

У кнізе Яўгена Бясчаснага — вершы, сабраныя за шэсць гадоў творчасці. Паэт прызнаўся, што «вершаў нападала як снегу, і сярод іх трэба было расчысціць дарожку»

Рэдактар кнігі «Стой!» А. Хадановіч назваў Яўгена беларуска-іспанскім паэтам. Чаму беларуска-іспанскім? Лірычны герой аўтара схільны да бунтарства, п'янства і пакутаў творчасці, аднак па-беларуску сціплы. Уражлівы і выкшталцоны чалавек, які пражывае звычайнае жыццё ў адным са спальных раёнаў горада N. Унутраныя перажыванні яго пазбаўленыя грандыёзнасці, напышлівасці, месца высокіх пачуццяў аўтар вызначае побач з прадметамі побыту, у штодзённай мітусні.

За магчымасць для чытачоў убачыць лірычнага героя і пазнаць у ім сябе Яўген выказаў падзяку Аляксандры Дварэцкай, куратарцы серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Пункт адліку», у якой выйшла кніга «Стой!».


Фота Вікі Трэнас

– Мне гэтая кніжка падабаецца тым, што ў ёй адчуваецца горад і яго рух — жыццё, у якім няма заканчэння. Таксама для сябе я знайшла шмат цікавых апісанняў кватэр, пад'ездаў, вуліц, цягнікоў, нейкіх побытавых з'яў, якія мы часцей за ўсё не заўважаем, — выказалася наконт кнігі Аляксандра.

Аўтар насамрэч надае шмат увагі свету рэчаў і звычайных з'яў, персаніфікуе прадметы, шукае ў іх прыгажосць. Ён кажа чытачу «стой!» і заклікае прыглядзецца да шыльдаў і далёкіх ад паэзіі надпісаў на сценах пад'езда. Прапануе паслухаць, пра што спявае скрыпка колеру гарбаты і прыйсці метадам дэдукцыі да вывадаў пра лёс бутэлькі з-пад «Вермута», якая валяецца пад лаўкай. Чытаючы кнігу, часам не заўважаеш мяжу, за якой малое ператвараецца ў вялікае і назад, — аўтар нядрэнна валодае навыкам плесці з агульнага і прыватнага бясконцую рэкурсію.

Што яшчэ спрабуе спыніць Яўген Бясчасны? Магчыма, час. У кнізе аўтар шмат асэнсоўвае яго — праз працэс сталення, праз разважанні над словам «назаўсёды». Дзяцінства ён бачыць як светлую пару, пазбаўленую памяці, адказнасці, напоўненую фарбамі і пахамі. Але яно праходзіць, і ўсё мяняецца. Да пэўнага моманту лад жыцця лірычнаму герою дыктуе прастора, у якую ён змешчаны. Забудаваная аднатыпнымі шматпавярхоўкамі, яна заклікае адпавядаць вызначаным патрабаванням і абяцае жорстка пакараць тых, хто адбіўся ад зграі. Аднак у рэшце рэшт герой адбіваецца, выходзіць з рамак і ламае стэрэатыпы — з гэтага пачынаецца яго пошук сябе.

Ён пазбаўляецца працы, пазбаўляецца пашпарта — прывязкі да матэрыяльнага свету. І пускаецца ў вольнае плаванне па прасторах нірваны — але, хутчэй, не будыйскай, а асабістай.

З яе аўтар глядзіць на свет і стварае свой рытм, якога прытрымліваецца пры напісанні вершаў. Ён невялікі прыхільнік эксперыментаў над класічнымі памерамі, але яго радкі парой выбіваюцца з метрыкі, як непаслухмяныя пасмы з прычоскі. Гэта надае кнізе дынамічнасць, гіпнатызуе ў працэсе чытання.

Усе паэты, якія выступілі на вечарыне, адзначылі, што дэбютны зборнік Яўгена Бясчаснага выйшаў своечасова. І выказалі ўпэўненасць, што ён абавязкова знойдзе свайго чытача і не стане апошнім у біяграфіі аўтара.

**Алена Босава**



Ян Скрыган

# А буслы кружылі і будуць кружыць

## Пра Яна Скрыгана

**Упершыню гэтае прозвішча пачуў яшчэ школьнікам ад свае настаўніцы Марыі Іванаўны. Што пісьменнік родам з недалёкае слуцкай вёскі Труханавічы, не магло не зацікавіць.**

Алесь ЖУК

Запомніў вокладку і назву кнігі «Иду по следам твоим». Не ведаю, праз што: ці з-за перакладу, ці не на тое апавяданне натрапіў адразу, ці яшчэ не дарос да разумення кнігі, але яна мяне не ўразіла...

Толькі праз некалькі гадоў трапіла мне ў рукі другая кніга Яна Скрыгана, невялікага фармату, у цвёрдых светла-карычневых вокладках, з простаю назваю «Апавяданні». Кніга дасюль захоўваецца ў мяне, і калі бяру яе ў рукі, уздрыгвае сэрца як і тады, пасля прачытання «Таісы». Апавяданне гэтае, відаць, было якраз для майго ўзросту, перапоўненае рамантычнасцю і закаханасцю, што не магло не закрануць маладую душу. Ды і мова, пластыка яе, гучанне, лад, душа — усё роднае з дзяцінства і на ўсё жыццё.

З таго часу не прапускаў ужо нічога, надрукаванага пісьменнікам, болей таго, чакаў новых публікацый у перыёдыцы. Пісаў Іван Аляксеевіч не памногу, не паточна.

Побач з кнігаю «Апавяданні», выдадзенай першаю пасля вяртання з доўгіх пакутлівых дарог рэпрэсавання, якім суровы лёс не абмінуў Яна Скрыгана, стаіць у мяне на паліцы і другая — «Ранішнія росы».Старонкі кнігі скрозь пападрэсліваны. Ужо тады я сам пачынаў актыўна пісаць. І кніга «Ранішнія росы» стала для мяне своеасаблівым падручнікам. Яна вучыла і разуменню мовы як жывой істоты, і адказнасці за напісанае слова, за кожную літару ў ім, асабліва вучыла адчуванню і ўменню трымаць беларускі лад мовы, уменню шукаць той непаўторны «гук», пра які гаварыў Іван Бунін.

Дзіўна, але вось так закрануты творчасцю Яна Скрыгана, улюбёны ў яе, не памятаю, калі і як пазнаёміўся з ім асабіста. Хутчэй за ўсё, адбылося гэта ў часопісе «Полымя», дзе працаваў Іван Аляксеевіч (такія яго «пашпартныя» імя ды імя па-бацьку), калі я пачаў насіць па рэдакцыях свае апавяданні. І знаёмства гэтае, адбылося проста і натуральна, таму і не запала ў памяці. Натуральнасць у паводзінах у Івана Аляксеевіча была гэтакая ж, як і ў апавяданнях.

Потым Іван Аляксеевіч перайшоў працаваць у «Энцыклапедыю». Работа там вымагала адседжваць цэлы дзень, шукаць і знаходзіць патрэбныя свае беларускія тэрміны, а не капіраваць іх з рускае ці замежнае мовы. Беларуская лексіка, дзякуючы Івану Аляксеевічу, узбагацілася важка. Для прыкладу, свідравіна, радовішча сёння успрымаюцца так, быццам яны спрадвеку былі ў беларускай мове, а магло б стацца так, што былі б скалькаваныя «скважына», «месцараджэнне» і шмат іншага, што б цалкам адпавядала памкненням аматараў «зліцця» дзвюх моў. За клопат пра пісьменнасць першай беларускай энцыклапедыі загадчык літаратурна-кантрольнай рэдакцыі БелСЭ пісьменнік Ян Скрыган атрымаў Дзяржаўную прэмію.

На той час скочылася хрушчоўская адліга, прыйшлі брэжнеўскія прымаразкі, на якія людзі, прайшоўшыя гулагаўскія пакуты, адрэагавалі адразу. Яны памяталі горкі сталінскі ўрок: «Раней выйдзеш — яшчэ раз сядзеш». Трэці раз нікому «садзіцца» не хацелася, а таму былыя вязні прыцішылі актыўнасць, пазбягалі гаварыць, а тым болей пісаць пра перажытае.

У сувязі з гэтым успамінаюцца доўгія прагулянкі ў Каралішчавіцкім лесе з Сяргеем Грахоўскім. Сяргей Іванавіч многа расказваў з перажытага, ад яго я даведаўся пра лёс братоў Шашалевічаў, з якімі той сябраваў, пра трагічную смерць драматурга Васіля Шашалевіча, сведкам якой быў, ад яго я даведаўся, што сапраўднае прозвішча Андрэя Мрыя Шашалевіч.

Я разумеў, дзеля чаго ўсё расказваецца, і вечарамі запісваў тыя аповеды, і не толькі Грахоўскага, але і непрымірымага да яго Паўла Пруднікава, і Станіслава Шушкевіча...

На шчасце, тыя апасенні не спраўдзіліся, Грахоўскі напісаў аповесці пра перажытае; як і раней, выдаваліся кнігі былых рэпрэсаваных, перакладаліся на рускую і іншыя мовы, у тым ліку і замежныя.

У 1975 годзе былі выдадзены выбраныя творы Яна Скрыгана ў двух тамах, у 1985 годзе было зроблена другое выданне выбранага, больш пашыранае. У белакроневых вокладках, з супервокладкамі, на якіх фатаграфіі пісьменніка ад маладосці да сталага веку,тамы праілюстраваны фотаздымкамі розных гадоў, выказваннямі пра творчасць Яна Скрыгана, Максіма Гарэцкага, Янкі Брыля, Івана Мележа, Міколы Лобана, Івана Шамякіна, Заіра Азгура, перакладчыка Норберта Рандава і многіх іншых. Абодва выданні падараваны мне Іванам Аляксеевічам з аўтографамі, бо і ў другім выданні аўтар палічыў патрэбным пакінуць маю прадмову, напісаную да першага выдання выбранага. Аўтограф на другім выданні вельмі кранальны: «Дарагі мой! Усё даўняе ў гэтым надпісе: і павага, і падзяка, і любоў. Ян Скрыган 12.11. 85.»



Злева направа: Сцяпан Сямашка, Паўлюк Шукайла, Пятрусь Броўка і Ян Скрыган. Полацк, 1927 г.

З Іванам Аляксеевічам сустракаліся не часта, хіба што ў Саюзе пісьменнікаў на пасяджэннях ці мерапрыемствах, а там сам-насам доўга не пагаворыш...

Можа таму і запомнілася тая сустрэча на пачатку лета, калі сáма раскашавала маладая зеляніна. Іван Аляксеевіч пад канец дня зайшоў у Саюз пісьменнікаў па нейкай асабістай справе. І мы з ім учынілі позні абед у кафэ Дома літаратара, дзе панаваў прыемны халадок і бязлюддзе. Заказалі па чарцы, і пасля першага кілішка Іван Аляксеевіч не мог устрымацца ад свайго любімага слоўка: «Смаката!»

Гаварылі найбольш пра родныя мясціны. Яго Труханавічы таксама былі на беразе некалі прыгожай рэчкі Лакнеі, як і мой Клешаў. Я памятаю яшчэ дзіцячай памяццю, як экскаватары рабілі з рэчкі чорны глыбокі меліярацыйны канал, чорныя валы торфу па берагах. Яшчэ раскашавалі шматтраўем лугі ў пойме, але пасля таго, як вада сцякла, лугі былі пераараны магутнымі мацэпураўскімі плугамі, якія павыдзіралі з торфу карчы магутных дрэў. Карчы стаялі як пачвары, пакуль не павысыхалі і людзі не папілавалі іх на дровы. Цешылі вока толькі старыцы, аблямаваныя трыснягамі, рагознікам, які мы называлі кіяшнікам, аерам і сітнягом. Да таго часу, як Іван Аляксеевіч вярнуўся з пакутных дарог на радзіму, высахлі і старыцы, з'араліся нароўні з усімі тарфянымі палямі, якія пазней засеялі травамі. А якой жа прыгажуняй памятаў Лакнею Ян Скрыган, чалавек, старэйшы за мяне болей чым на сорак гадоў!

Гаварылі мы з ім найбольш пра час мінулы. Бо пасля меліярацыі пазнікалі многія гайкі і пералескі, урочышчы. Таму мы надоўга замаўкалі. Я першы раз дзіцем ехаў у Слуцк на падводзе палявымі дарогамі. Ад майго Клешава да горада кіламетраў сямнаццаць, ад Скрыгановых Труханавічаў і ўсе дваццаць пяць, калі не болей, набярэцца. Палявыя дарогі і з Труханавіч, і з Клешава перад вёскай Паўлаўка сыходзіліся ў адну, а потым цераз Сярагі, Варкавічы, Лучнікі — і ўжо лічы ў Слуцку. За Паўлаўкай у полі я тады налічыў чатыры ветракі. А колькі гэтых ветракоў памятаў Іван Аляксеевіч! Ён жа пасля 1918 года вучыўся ў Слуцкім духоўным вучылішчы, у школах першай і другой ступені, у рэальным вучылішчы, змешанай гімназіі, у Слуцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, працаваў у акруговай газеце «Вясковы будаўнік». Рэдактарам газеты быў Паўлюк Шукайла, які арганізаваў філію «Маладняка» ў Слуцку. Ян Скрыган тады ўжо пісаў вершы, стаў членам філіі. Але ў хуткім часе акругу скасавалі, газету зачынілі, Шукайла паехаў працаваць сакратаром райкама ў Расоны, следам падаўся і Ян Скрыган. Там і было напісана апавяданне "Таіса" і ўпершыню надрукавана ў «Чырвонай Полаччыне».

А што дачыць ветракоў, то толькі адзін дажыў да вяртання Івана Аляксеевіча з пакутных дарог дадому. Я школьнікам памятаю яго ў полі непадалёк ад Труханавіч; з пашкуматаным ветрам крыллем, гэты дон-кіхотаўскі вораг адзінока стаяў у полі, пакуль не ўпаў ад спарахлеласці.

А колькі іх памятаў Іван Аляксеевіч!

Ён глядзеў некуды назад у далечыню вострa, жыва, але і зажурана. Тое ў жыцці было далёка-далёка. Не было ўжо сястры, пуставала бацькоўская хата, не было да каго ехаць...

Іван Аляксеевіч ажывіўся ад маёй прапановы сесці разам у машыну, пабыць у Труханавічах, пагасціць у маіх бацькоў, з'ездзіць без тлуму, без сустрэч.

– Пабудзем у Слуцку...

– Не люблю там бываць. Сцужэў ён зусім, не той горад, які люблю і помню. У Капылі прыветней, цяплей па-свойску, — прызнаўся ён.

Я ведаў, што Іван Аляксеевіч меў на ўвазе, гаворачы пра Слуцк, ператвораны ў пасляваенныя гады ў суцэльныя ваенныя гарадкі.

Марыцца нават і немаладым людзям лёгка, наіўна, па-дзіцячы, але мары такія рэдка калі збываюцца. І мы ў тое лета не выбраліся ў паездку, а потым Іван Аляксеевіч пачаў хварэць...

У часы начнога неспакою перачытваю любімых пісьменнікаў. Заканчваю перачытванне Яна Скрыгана класічным апавяданнем майстра «Над гаем кружылі буслы». Вечная ў літаратуры тэма кахання, здрады яму, якая развяла яе і яго, але і праз многія гады сэрца не хоча змірыцца з гэтым, жаданне кахання і шчасця засталося, але дарогі іхнія занадта далёка разышліся, часу на збліжэнне ўжо няма — жыццё пражыта, засталося толькі паміраць. І над усім гэтым кружаць назаўжды парныя белыя буслы...

А перад гэтым бачу дарогу героя апавядання ад Труханавіч да старажытнага мястэчка Грозаў, дзе пасярод плошчы прадаўгаватая з карычневай цэглы будыніна. У ёй па перыметру крамы адзення, абутку, тканіны, гаспадарчых, канцылярскіх тавараў, школьных прыналежнасцяў, —кнігарня...

Бачу, як перад адлётам у вырай над нашымі палямі і палеткамі кружаць невялікія чароды буслоў. У вышыні ў пагусцелай ужо сінечы неба над чалавечай юдоллю з зямлі яны ледзь бачныя, кругамі апускаюцца зусім нізка, прыгожыя, белыя, вялікія, і зноў кругамі ўзлятаюць у вышыню ў велічным, зачараваным палёце.

...Угледзеў яго праз акно тралейбуса на плошчы Перамогі ля кіёску «Саюздруку». У вайсковага крою афіцэрскай зграбнай курткі — стройнага, з палявою сумкаю цераз плячо, з ядлоўцавым кіёчкам, якія ён любіў майстраваць. Тралейбус крануўся, а Іван Аляксеевіч такім і застаўся ў маёй памяці ўжо чвэрць стагоддзя.

# Para bellum



Сяржук СЫС

*А цябе натхняе зброя.*
*«Зброя, — кажаш, — гэта воля!*
*А без волі нам не жыць*
*і Радзіме не служыць».*
*Анатоль Сыс*

**Зброя мяне вабіла ад самага маленства. Яшчэ зусім нядаўна падавалася, што я добра ведаю, чаму яно так. Дасканаласць простых і ў той жа час ідэальных ліній і формаў, паліраванае далонямі высакароднае дрэва прыкла́да і ложы вінтоўкі, ледзь бачная гравіроўка на метале старадаўніх стрэльбаў, прыгажосць і зручнасць дзяржальна, якую бясконца хочацца сціскаць пальцамі. А шызы бляск рулі ружжа ці рэвальвернага барабана! Ну як не дакрануцца, як не прыняць у рукі, зліцца з гэтым дзівосна прыгожым і небяспечным творам збройнага мастацтва...**

Цяпер мне за пяцьдзясят, узрост пэўнай сытасці і задаволенасці сабой, аднак нечага важнага не хапае, нешта не дае спакою, час ад часу вярэдзіць думка: «Ну як ты жывеш? У цябе — аніякай зброі, а-ні-я-кай, нават лядашчага абрэзу няма. Які ты мужчына, які абаронца?» Часам у галаве ўсчынаецца вэрхал: розум ліхаманкава пачынае вышукваць таемныя выткі мітуслівай незадаволенасці, ашмоцці ўспамінаў цягнуць мяне ў... не, не ў дзяцінства, вядуць мяне да бацькі. Вось і на гэты раз я прыйшоў да яго, на знаёмы абрывісты бераг Дняпра...

— Здароў, татка!

— Гэта ты, сынок? Здароў! Прыйшоў-такі... Відаць, нешта незвычайнае здарылася, мо ўляпаўся ў гісторыю? Штосьці натварыў? Прызнавайся. Ці прысніўся я табе зноўку абы як?

— Ды не, я проста так...

— Хлусіш... Ты ж проста так на магілкі да мяне не прыходзіш.

— Ну, калі ўжо хочаш ведаць... Слухай... Памятаеш, ты выхваляўся колькі разоў, даўно, калі я бегаў у школу, а ты... ты яшчэ жывы быў, пра трафейны варанёны парабэлум. Ну той, чорны, са зламаным засцерагальнікам. Яшчэ ты ўзгадваў нейкую круглую азярынку на ўскрайку Холмеча, дзе нібыта ён закапаны, памятаеш?

— Ну... Можа і казаў нешта такое, хіба цяпер успомніш, ды і што табе з таго?

— Дык ты тады не маніў, сапраўды быў той парабэлум?

— Можа і быў, толькі нешта я не разумею, навошта ты пра яго ўзгадваеш цяпер.

— А натошта! Можа ён яшчэ недзе там ляжыць, не зусім іржавы, гэта ж, ведаеш, які цяпер каштоўны рарытэт.

— Вось да чаго ты хіліш, цябе зноў пацягнула да зброі. Я думаў, што дзяцінства ў сына даўно скончылася, а ён па-ранейшаму прыгодаў шукае. Скажу так: быў ён ці ня быў, цябе гэта хваляваць не павінна. Усё. На гэтым кропка.

— Эх ты... нічога не разумееш. Твой парабэлум цяпер і не зброя зусім, а так, цацка, іржавая бясспечная цацка. Антыкварыят, можна сказаць, музейны экспанат... Наўрад ці ім можна скарыстацца па прызначэнні.

— Твае экспанаты мне даўно вядомыя. Скажы лепей дзякуй, што я малога цябе пазбавіў ад няшчасця — ад абрэзу «мялкашкі», які ты хаваў пад хлевам, каля вінаградніку. Што, думаеш, я тады нічога не ведаў? Дзякуй цяпер кажы, што не ўліп, што чалавекам застаўся, а мог бы шкоду ўчыніць, загрымець на нары, паэта сраны... Лічы, пазбавіў цябе ад прыгодаў дурных, во.

Ага, вось яно што! Мае даўнія падазрэнні спраўдзіліся: тады, у школьныя гады, абрэз знайшоў бацька, болей ніхто не мог, ціхенька знайшоў і забраў, здагадваўся, відаць, пра мой небяспечны і нечаканы набытак. Толькі чаму нечаканы?

Летам, пасля восьмага класа, калі мы з аднагодкамі цешыліся выбухамі ды рознымі самаробнымі стралялкамі, спрадвеку падпіты Васіль з суседняй вёскі цішком паказаў мне абрэз, выраблены са звычайнай дробнакалібернай вінтоўкі ТОЗ-8. У яго была кароткая руля і напалову адпілены прыклад. Я шалёна загарэўся займець тую стралялку любым коштам, і праз некаторы час Васіль згадзіўся-такі аддаць абрэз за 70 рублёў. Грошы былі вялікія, дзе іх узяць? Як здабываліся тыя сем чырвонцаў — асобная гісторыя. Цэлы месяц апякаў рукі на цагельным заводзе, здымаючы з канвеера пасля печы пунсовыя цагліны, шнырыў па начах у калгасным садзе, цішком страсаючы няспелыя яблыкі, каб потым здаць іх нарыхтоўшчыку Доўжыку.

І вось абрэз мой, а з ім — першыя млосна-салодкія прылівы адрэналіну, захаплення і ледзь улоўнага адчування небяспекі: «А раптам хто заўважыць зброю, а раптам адбяруць бацькі?». Разам з абрэзам з'явіліся новыя клопаты: дзе прыдбаць патронаў, куды схавацца, каб настраляцца ўволю, але неяк тыя хвалюючыя клопаты вырашаліся. Сыходзілі з суседам пад гару на раздольныя дняпроўскія лугі ці ў глухі забалочаны алёс. Там і адводзілі душу, лупцуючы па бляшанках. Праўда, нядоўга, бо абрэз нечакана знік праз пару месяцаў, знік бясследна з надзейнай, як падавалася тады, хованкі.

— А ці ведаеш хоць, колькі ён каштаваў, абрэзік мой, ці як грошы на яго даставаліся? Нябось закапаў недзе, як свой парабэлум, няхай гніе таксама?

— Было б там што закопваць! Утапіў я яго, адвёз на чаўне ў Евінскую затоку і булькнуў на дно. Туды яму і дарога.

Я на імгненне адчуў, як цела пакрываецца гусінай скурай, міжволі дакрануўся да вялікага пальца на левай руцэ, намацаў пад скураю цьмяны і цвёрды грудочак — даўнюю свінцовую драбінку, якая захрасла ў целе пасля выпадковага ранення.

Падлеткамі, разам з цёзкам-суседам, увязаліся прыцемкамі ў дурацкую бойку «вуліца на вуліцу», якія колісь здараліся ў вёсцы. Нас — двое, яны — утрох. І раптам позірк мой умітуль зафіксаваў штосьці нестандартнае, спрацаваў адвечны інстынкт самазахавання: рукою я машынальна прыкрыў твар. Пугаўём ляснуў стрэл, шрот густа шчоўкнуў па пахілым плоце. І ўжо адбегшыся ды перавёўшы дых, я заўважыў кроў на вялікім пальцы левай рукі. Ранка хутка загаілася, а на пальцы застаўся шэры шнарык. Я часта яго абмацваю, адчуваючы, як пад скураю перакотваецца тая драбінка свінцу.

— Што маўчыш? Крыўдзішся мо? Дык я табе болей скажу... Я табе прыгадаю «тулку» дзедаву, якую ты, засранец, аддаў міліцыі. А ці мала ты з ёй па лузе гойсаў ды качак свойскіх лупіў з двух стваloў?! Альбо забыўся, чаго мне каштавала суседзяў улагодзіць, каб заяваў не пісалі пра вашыя дурныя пабоішчы? Ну падумаеш, стрэліў тады бацька праз расчыненае вакно ў неба некалькі разоў, адсалютаваў добраму настрою. Дык ты, яшчарка бясхвостая, здаў мяне, здрадзіў, уплюшчыўся на гарышча і выцягнуў двухстволку, карміліцу маю. Забыўся хіба, колькі бацька перацягаў з ёю дзічыны: зайцоў, качак ды гэтых, як іх там, курапатак. Знайшоўся Паўлік Марозаў на маю галаву... А цяпер вось ты пра парабэлум узгадваеш. Лічы, няма яго болей, прыдумаў я ўсё.

**Мне пашэнціла дасхочу перасмыкаць затворам «калаша», абстрэльваючы з глухой засады ці ў час начных дыверсій «зялёных» кадэцікаў вайсковай вучэльні**

— Не мані, не мог ты прыдумаць, вельмі ж дакладна распавядаў пра возера тое, пра бляшанку нямецкую з-пад патронаў, у якой парабэлум закапаў на беразе, пад вярбою.

— Усё, адчапіся ад мяне. Парабэлума захацеў... Ён жа не цацка, гэта рэч небяспечная, баявая. Я ж яго ў салідол лічы цалкам укатаў. Хіба толькі патроны прыйшлі ў нягоднасць. Не будзе ён тваім. Давай, едзь лепей назад, у свой Мінск, нагаварыліся. Лепей во, чуеш, улетку прыязджай, рыбы на Дняпры паловіш, дзяцей вазьмі. А зброя, сынок, гэта не для цябе.

— А ты што, анёлам хіба быў? Ладна, я ў дзяцінстве дуркай маяўся. А сам што вырабляў, забыўся мо? Дык нагадаю. Памятаеш, з-за чаго цябе паперлі з чыгуначных ахоўнікаў? Узгадай жа, як у Бахмачы вы, гораахоўнічкі, скралі з чыгуначнай цыстэрны пару рондаль спірту і ты, не дайшоўшы пару крокаў да каравулкі, ляснуўся проста на пуцях, а твой раздзяўбаны рэвальвер сістэмы «Наган» 1893 года падабраў чыгуначны абходчык і вярнуў начальніку каравула. Каб наган не знайшоўся тады — загрымеў бы сам на нары. А цяпер вось вучыш тут мяне...

— Ты бацьку не маеш права судзіць, я працаваў, грошы зарабляў, каб цябе, смаркача, выгадаваць, даць адукацыю. Ды і пра мёртвых не кажуць дрэнна.

— Ага, як жа, гадаваў ты... І тады, як ваенныя склады пад Гомлем ахоўваў, так-так, калі вочы заліўшы партвейнам і намёртва ашчаперыўшы цаўё карабіна СКС пальцамі, у лесе растрэльваў ва ўпор маладыя сосны, пакуль вас, знепрытомнелых ад п'янства «вольных стралкоў», міліцыянты не абяззброілі і без працы пакінулі. Досыць ужо па вушах ездзіць.

Я дастаў з кішэні пачак цыгарэтаў, прыпаліў... супакоіўся...

Унізе, пад гарою, плаўна і ляніва выгінаецца Дняпро, за ім старое рэчышча, азярыны, прамыіны, лазнякі ды чаратовыя джунглі. Як для недасведчанага — сапраўдныя лабірынты. Гэтая таемная тэрыторыя вядомая мне змалку, і таму мне хораша аглядаць рачныя краявіды, сваю сапраўдную радзіму. А далей на ўсходзе патанаюць у лёгкай смузе някошаныя лугі, рысу якім падводзіць цёмная сцяна глухога лесу. Трывожны цяпер той лес, небяспечны. Кажуць, зашмат там развялося ваўкоў, нават і ў грыбы сходзіць боязна...

— На! Пакіну табе цыгарэтку, на сподку з цукеркамі, што з Радаўніцы засталіся, пакурыш мо калі...

Не, цяпер разумею, эстэтычная прывабліваць зброі, відаць, тут ні пры чым. Мусіць, іншая прычына ёсць, нешта такое, неасэнсаванае пакуль, што неадольна цягне да ствалоў. Гэта ж калі задумацца ды супаставіць усялякія жыццёвыя моманты, дык што атрымліваецца?

Вось першы выразны ўспамін. Лета. Зграя падлеткаў латошыць чужыя гароды. Я ў ірваных кедах на босую нагу і на ўвесь экран — сапраўдная вінтоўка Мосіна, такая даўжэзная, што прыцэл працінае, здаецца, далёкі суклон неба. Апошні бліскучы патрон у суседа ў руках і стрэл «вінта» ў дняпроўскія далягляды. Можа, якраз тады і падчапіў я гэтую невылечную хваробу: спакусу валодання агнястрэльнай зброяй.

Затым — ярка і незабыўна — войска, дзе, адрозна ад большасці салдацікаў, мне пашэнціла дасхочу перасмыкаць затворам «калаша», абстрэльваючы з глухой засады ці ў час начных дыверсій «зялёных» кадэцікаў вайсковай вучэльні. Халастымі, вядома. Была і больш небяспечная спакуса: заступіўшы на далёкі пост у каравул, разануць з АКМ баявымі, чаргой, у сівую далеч карэльскіх сопак. Галоўнае — магазін потым дапоўніць да законных трыццаці патронаў. Любіў моцна я свой АКМ, любіў не зважаючы на тое, што маім ён ніколі не будзе.

Пра што тая любоў? Пра тое, як усе мішэні валіў у часе стрэльбаў на палігоне — і на 100, і на 250 метраў. А нарматывы па зборцы-разборцы! Гэта ж проста песня! 8 секунд — і на стале ў казарме, — радочкам, — усе дэталі аўтамата, яшчэ 16 секунд — АКМ гатовы да стральбы. Хто яшчэ так хутка мог спраўляцца з аўтаматам — не ўзгадаю нават. Я й дагэтуль памятаю нумар былой любёнага баявога сябра: ХН1192.

Толькі мала было двух даўжэзных вайсковых гадоў, каб уволю нацешыцца небяспечнымі забаўкамі. Ці не таму пасля дэмбеля ўладкаваўся ў вясковую школу ваенруком? Тут я ўжо пазабаўіўся напоўніцу, праўда, арсенал мой быў спрэс дробнакаліберны: звычайныя спартова-трэніровачныя вінтоўкі ТОЗ-9 і ТОЗ-12. Затое ў поўным распараджэнні быў стралковы цір і неабмежаваная колькасць залацістых патрончыкаў. Гэткая ціхая і непрыстойная радасць памяркоўнага беларуса...

Нізка слаліся, куляліся з гары далёка за Дняпро пухнатыя аблокі, бяскроўна забіраючы ў палон сонца. Цені аблокаў размывалі на нейкія хвіліны бліскучы бацькаў партрэт на мармуровым надмагільным помніку. Гэтак жа, як наплывалі на асветлены пагорак цені, набягалі і набягалі на мяне ўспаміны. Я страсянуў з джынсаў некалькі дзьмухаўцовых парашуцікаў, размінаючы зацеклыя ад доўгага сядзення на кукішках ногі.

Што было яшчэ... Важкі, як марудная смерць, шасцізарадны газавы рэвальвер, набыты яшчэ ў часы кірмашовай экспансіі беларусаў на Польшу. Ён мог бы застацца са мной і дагэтуль, каб не пальцы, якія неадольна цягнуліся да курка, зачаравана круцілі барабан з яркімі фланцамі бліскучых патронаў. Частка боезапасу ў выглядзе халастых і бяскрыўдных патронаў скончылася досыць хутка, тады я перайшоў на іншыя, начыненыя слезацечным газам. І неяк на гарадской плошчы пад навагодняй ялінай мой рэвальверны салют нечакана завяршыўся вялікай праблемай: плакалі, хапаліся за твар дзеці, церлі вочы дарослыя, і апафеозам — банальны мардабой. Дзякуй, што міліцыю не выклікалі. Праз некалькі дзён рэвальвер тэрмінова прадаў ахоўніку ювелірнай крамы — прыняў рашучы жончын ультыматум. Ды і не шкадаваў аб тым многа. Бо трымаў у далоні і лепшае: гладкі, з храміраваным ствалом пісталет Сцечкіна — сапраўдная монстра, якога не кожны і ў вочы бачыў. Нават магазін ягоны, на дваццаць патронаў, было, спустошыў, праўда, у мішэнь амаль не патрапіў, тут жа спрыт адмысловы патрэбны...

— Дзе ты там? Не сыйшоў яшчэ? Не крыўдуй, сын, не будзе ў цябе зброі. Я ж не Астап Бэндэр, і парабэлума табе не дам.

— Ну, калі па-твойму будзе лепей, каб ён у цэруху іржавую ператвараўся...

— Чаму ў цэруху? Не сказаў адразу, прабач, ён жа тут цяпер, са мной. З парабэлумам неяк і на тым, дакладней, на гэтым свеце спакайней. А вось ты так і не патлумачыў уцямна, навошта табе гэта... Хаця і не цяжка здагадацца: para bellum? Так?

— Гэта ты, татка, нічога не зразумеў... Ваўкоў развялося вакол багата, галодных чужых ваўкоў...

# Подзвіг Скарыны

## Фрагментарная паэма



Васіль ЖУКОВІЧ

***Светлай памяці Алега Лойкі***

### 1. Захапленне

*«Жыціе Ефрасінні...» чытаў дапазна*
*Вечарамі Францішак тым летам —*
*Нечуванага новага многа спазнаў*
*З рукапіснае кнігі падлетак.*

*Ён убачыў памкненне духоўна расці*
*І жаданне сваю волю слухаць,*
*І няўхільнасць да вернае мэты ісці,*
*Справу ўласнага розуму рухаць...*

*Еўфрасінні жыццё ён спасцігнуў душой*
*І да простае чыстай высновы прыйшоў:*
*Варта справай жаданай грунтоўна*
*заняцца —*
*Ты не станеш з пустою забаваю знацца.*

*Ды хлапчына задумаўся, гледзячы ў даль,*
*У жаданні праўдзівага цуду:*
*«Эх, ніводнае кнігі не маем, на жаль,*
*Зразумелае простаму люду!*

*А без кніжак прасветлых як свет*
*зразумець?»*
*Апаноўвае клопат Францішка:*
*Слаўны Полацк павінен, павінен займець*
*Друкаваныя ясныя кніжкі!»*

### 2. Прадчуванне

*Так не спіцца на золку! «Ці то нейкі знак?*
*А ці проста горача ў хаце?»*
*На рачны ціхі бераг выходзіць юнак,*
*Не збудзіўшы ні брата, ні бацькі, ні маці.*

*Сонца яснае над Палатой*
*Узышло, пазалочвае раніцу.*
*Хлопцу бачыцца лік Еўфрасінні святой,*
*Ад яе чуе, быццам ад маці сваёй:*
*– Навука — твая абранніца.*

*І такі апантаны прыходзіць настрой,*
*Да навукі адчутая цяга радуе,*
*І ўжо вабіць хлапца еўрапейскі прастор:*
*Вільня, Кракаў, і Прага, і Падуя...*

### 3. Маналог закаханага Скарыны

*Светлая Маргарыта!*
*Гожая Маргарыта!*
*Радасць мая Маргарыта!*
*Я не магу табе сказаць адкрыта,*
*Як пра цябе мне жаўранак спявае,*
*Да сонейка ўзлятаючы над жытам,*
*Як пра цябе пяе салоўка ў гаі.*
*О Маргарыта!*
*Ты для мяне жаданая такая!*
*Ды я — кнігар, яшчэ — вандроўнік вечны,*
*Нібыта сон здзяйсняю вешчы, —*
*Займаюся святою справай...*
*Не ведаю, ці маю нават права*
*Стаць мужам, бацькам; і маўчу таму я,*
*Я не прашу, каб стала ты маёю,*
*А без цябе так часта я сумую,*
*Паранены тваёй красою!*

### 4. Ашаламляльны поспех

*Год тысяча пяцьсот дванаццаты...*
*Вядомы ў Падуі ўніверсітэт;*
*Там надвячоркам лістападаўскім*
*Сабраўся быў увесь навукі цвет.*

*«Дзеля чаго?» — спытаюць многія.*
*О, там савет славутых не драмаў:*
*Два дні прад ім іспыты строгія*
*Вучоны з Полацку трымаў.*

*Сваімі ведамі глыбокімі*
*Усіх Скарына малады скарыў:*
*Там доктара ступень высокую*
*Бліскуча ён абараніў.*

*Свяцілы ўсе вучоныя віталі*
*Францішкаў светлазорны талент,*
*Там праслаўлялі хлопца як маглі.*
*Авацыя грымела ў залі —*
*І воплескі, і воклічы гучалі*
*У гонар сына нашае зямлі.*

### 5. Францішкавы жніво і сяўба

*Год тысяча пяцьсот сямнаццаты...*

*Дзень шосты жніўня рушыў вобмацкам*
*Праз туманы... У гэты час*
*Пад слаўным горадам пад Полацкам*
*Ішло жніво якраз.*

*Ну а ў Скарыны ў Празе свята —*
*Жніва-сяўбы гарачая пара:*
*Сышло з друкарскага варштата*
*Найперш выданне «Псалтыра»,*

*Аздобленае, адмысловае,*
*Яго сагрэтае душой,*
*Бо створанае роднай моваю,*
*Даступна-яснаю, жывой.*

*Падобных будзе кніг нямала*
*У слыннага у кнігара...*
*Але здзяйсненне цуда-мары*
*Пайшло з выдання «Псалтыра».*

*Якая велічная з'ява —*
*Ягоны пражскі першадрук!*
*Святая мара стала явай,*
*Бо кніга пойдзе ў рукі з рук!*

*Яе займее Полацк родны,*
*Яна не праміне людзей*
*Дзеля учынкаў добрых, годных,*
*Дзеля цудоўных, чынных дзей...*

*Сардэчна дзякуе Скарына*
*Сябрам спагадлівым усім,*
*Друкарні Паўла Севярына*
*І Празе, й землякам сваім.*

*Удзячны Біблії і Богу,*
*Свяшчэннай полацкай зямлі,*
*Крутыя ўзгадвае дарогі,*
*Якія к поспеху вялі.*

### 6. Кароткі маналог Маргарыты

*Францішку мілы мой!*
*Вучонасцю сваёй*
*Еўропу ты скараеш.*
*З любоўю і з натхненнем*
*Выданні ўсё ствараеш.*
*Табе не да сям'і стварэння.*

*Шмат год не быў са мной сам-насам.*
*Адвернік Юры мне тым часам*
*Прапанаваў сысціся ў шлюбе,*
*Ў нас намячаюцца заручыны —*
*Не асуджай, Францішку любы!*
*З табой жа мы жыццём разлучаны...*

### 7. Пачуццё Радзімы

*Пчолы бароняць вуллі свае...*
*Так і людзі ахоўваюць край свой родны.*
*Каб Радзіме быць свабоднай,*
*Біцца трэба за яе —*
*Адбівацца кожны раз*
*Гэтак мужна, па-геройску,*
*Як пад Воршаю Астрожскі,*
*Як пад Клецкам — Глінскі-князь.*

*Тыя воі ў грозны час,*
*Што стаялі за краіну,*
*Узрушалі, і не раз,*
*Палачаніна Скарыну;*



*І натхнялі узрасці*
*Рэнесансавым тытанам,*
*Слаўнай справай апантаным*
*У напружаным жыцці.*

### 8. Самаадданы

*Скарына варты пахвалы*
*Усенароднай.*
*Да працавітае пчалы*
*Ён так падобны!*
*Свайму народу здабываў*
*Ён мёд духоўны,*
*Той мёд, які спрадвек даваў*
*Эфект ахоўны;*
*Непараўнальны мёд, які*
*Дае народу*
*Любоў да кнігі на вякі*
*І асалоду.*
*Той мёд гаючы*
*Да святла*
*Дае памкненне*
*І ад бяспамяцтва і зла*
*Дае збавенне.*
*Скарына варты пахвалы,*
*Ды не фармальнай.*
*Ён так падобны да пчалы*
*Самаахвярнай!*

### 9. У Вільні

*Другая палова дваццатых гадоў.*
*Скарыну яго лёс у Вільню прывёў.*
*Дукаты і пенязі ён дастае —*
*Друкарскія рухае справы свае*
*(Бы з выраю птушкі, ўсё новыя кніжкі*
*У свет вылятаюць з друкарні Францішка),*
*Асветную дзейнасць сваю паскарае.*
*А што ў Маргарыты? Як замужам ёй?*
*Жанчына становіцца рана ўдавой:*
*Адверніка Юрыя смерць забірае.*

***

*Тут, якар кінуўшы з дарог,*
*У вэкаэлаўскай сталіцы,*
*Прыйшоў Скарына на парог*
*Да Маргарыты ў камяніцу.*

*Як і раней, у мора спраў*
*Хай акунаўся з галавою,*
*Каханне не ігнараваў*
*І ажаніўся з удавою.*

*Ён з ёю двух сыноў прыдбаў*
*І зведаў ласку, шчыраванне*
*І аніяк ён не ўяўляў,*
*Што блізка вір выпрабаванняў.*

*Пасля пажару ў Вільні мор*
*Людзей выкошваў нечакана.*
*Падкралася цяжкая хвор*
*І да Францішкавай каханай...*

### 10. У агні

*Варожы быў агонь, які*
*Знішчаў Скарынавы выданні.*
*Прынёс агонь, ліхі такі,*
*Пякельнае выпрабаванне.*

*Кнігар убачыў, як агонь*
*Выданні паглынае —*
*Здалося, што й душа яго*
*У тым агні канае...*

*Не толькі кнігі на кастрах —*
*І людзі мужныя згаралі,*
*А думкі-сокалы ў вяках*
*Над папялішчамі ўзляталі.*

*Каналі каты-крумкачы,*
*А словы несмяротнай сілы,*
*Ад сэрца к сэрцу ідучы,*
*Імгненна набывалі крылы.*

*І нараджаліся на свет*
*З любоўю кнігі, быццам дзеці,*
*Каб не звяліся плод і цвет*
*Духоўнасці на белым свеце.*

### 11. Няволя і вызваленне

*Што вы нарабілі, крэдыторы*
*Ўмерлага Францішкавага брата?!*
*Вы Скарыну прычынілі гора*
*«За даўгі», а ён невінаваты!*

*Месяц люты снежны і марозны.*
*Месяц люты выпаў гэткі злосны:*
*У няволі смутак невыносны!..*
*Волю павеяў май дзівосны,*

*Бо Раман-пляменнік — малайчына:*
*Не змірыўся з горкай дзядзькі доляй —*
*Караля патурбаваў хлапчына*
*І Скарыну вызваліў з няволі.*

### 12. Трыумфальнае святло

***

*У справах цудоўных*
*вучонага сына —*
*святло старажытнай*
*адметнай краіны.*
*Ён — першадрукар,*
*ён тварэц вечных кніжак —*
*Францішак Скарына,*
*Скарына Францішак!*

*Жыве яго Слова —*
*ў ім дух адраджэння,*
*малітва-замова*
*супроць адчужэння.*
*Хвала табе,*
*родная маці-краіна,*
*што ты ўзгадавала*
*прамудроага сына,*
*што ты акрыліла*
*Францішка Скарыну!*

***

*Святло запаветаў*
*прайшло праз вякі.*
*Далёкі Скарына*
*нам блізкі такі!*
*Нібыта ікону,*
*відаць, на вякі,*
*малююць натхнёна*
*яго мастакі;*
*і пішуць паэты*
*пра подзвіг яго,*
*ягонай асветы*
*нязгасны агонь.*

***

*Бог кнігі, бязбожнікаў ён не карае,*
*не ганіць нікога і не дакарае,*
*а ўсё прапаведуе людзям любоў*
*да веры, да ведаў, сваіх каранёў.*
*Ён памятае берагі Палаты,*
*вяртаецца з пройдзенай годна вярсты,*
*ён нам, доктар духу, нясе ачышчэнне*
*і ад спусташэння жывое збавенне, —*
*Францішак Скарына, святы.*

**Чэрвень — ліпень, лістапад 2016 г.**

**Друкуецца ў скароце**

# Дзетдомаўкі
## Тры гісторыі з жыцця



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Я іх ведаю не так даўно. Тры немаладыя жанчыны, тры абяздоленыя вайной маленствы. Негаваркая Валя, якая нікога не заклапочвае сваімі праблемамі... Надзя з настаўніцкімі камандзірскімі ноткамі ў голасе... Жыццярадасная Вольга... Дзетдомаўкі.**

Мая стрыечная сястра знайшлася гадоў пятнаццаць таму. На самай справе яна нікуды і не гублялася. Проста яе шматлікія родныя цёткі, у тым ліку і мая маці, ніколі не расказвалі пра сваю старэйшую сястру Веру, якая загінула ад рук акупантаў. Трое малых дзяцей засталіся ў другой бабулі, бацькавай. Наша баба Антаніна ўнукаў не забывала, адведвала, пакуль жыла... Ды памерла рана.

Валя працавала медсястрой у мінскай бальніцы, гадавала сына, кантакты мела пераважна з раднёй бацькі. Але і пра матчыну помніла: напісала камусьці з нашых, так да мяне трапіў яе адрас. А тэлефон знайсці — справа тэхнікі!

...У нашу кватэру зайшла жанчына з ахматаўскім сухарлявым тварам, у нязвыклым саламяным капялюшыку і старамоднай вязанай кофтачцы. Мне, як малой, працягвала рукі мая невядомая сястра!

### Мая сястра Валя

Адзін з «дзяцей вайны» ў мемуарах усур'ёз вінавацію сваіх бацькоў: чаму яны нарадзілі яго на гора ў разгар ліхалецця. Валянціне Казіміраўне Каспаровіч выпала з'явіцца на свет 8 сакавіка 44-га года. Зусім мала заставалася да вызвалення. Вайна асіраціла дзіцёнка ў калысцы, сыходзячы.

Матуля бясследна знікла, яе забралі немцы за сувязь з партызанамі. Бацька-партызан згінуў увогуле недарэчна. Пры наступленні Чырвонай Арміі яго застрэліў савецкі афіцэр (людзі казалі — п'яны), бо на Казіміры Галінеўскім з-за тагачаснай галечы было апранута штосьць нямецкае...



Так трое дзяцей у адначасse засталіся сіротамі. У 45-ым, гуляючы з хлапчукамі, нарваўся на міну брат Віця. Бабуля Марыя Феліцыянаўна на дваіх унукаў атрымлівала 12 рублёў дапамогі. Больш дзяржава адшкадаваць не магла: асноўныя сродкі ішлі на «гонку ўзбраенняў». Грошай не хапала, каб абуць і апрануць дзяцей. У першы клас у Карытнае дзяўчынка пахадзіла з месяц, а потым давялося кінуць: босаю ж не находзішся...

Бабуля звярталася да сваіх дачок і сына: «Вазьміце Казікавых дзяцей!» Ніхто братавых не ўзяў, ва ўсіх свае... На старую насядалі суседзі: здавай у дзіцячы прытулак, бо ты іх не дагледзіш.

Толькі ў восем гадоў Валя стала першакласніцай. Яе з братам Толем афармілі ў Свіслацкі дзіцячы дом, што ў Асіповіцкім раёне. Пра той перыяд жыцця Валя гаворыць з удзячнасцю і настальгіяй:

«Дырэктарам у нас быў заслужаны настаўнік Беларусі Уладзімір Дзмітрыевіч Грышановіч. Жыў з намі на тэрыторыі. Пасадзіў сад, у якім мы рабілі градачкі. Свая гаспадарка была ў нас са свінкамі... Два жылыя карпусы, два пакоі для падрыхтоўкі ўрокаў... Мясціна харашэнная: паміж Свіслаччу і Беразіной. А лес! А жоўценькі ўвесну луг! У вачах тое хараство стаіць дасюль».

Валін фотаздымак вісеў на дошцы гонару, працы яна не баялася, а галоўнае — яе ніхто не крыўдзіў. Рада была б паверыць, аднак заўважыла, што сястра занадта маўклівая і закрытая, што можа сведчыць пра дзіцячыя — прыхаваныя і нязжытыя — душэўныя траўмы.

Выхаванцы былі прыстойна апрануты, заўсёды пакормлены. Нездаровыя і слабыя атрымлівалі дадатковы паёк. Спалі на матрасах, напханых саломаю, у вялікіх пакоях. Усё жыццё сястры сніўся агульны пакой і шарэнгі ложкаў. Кожнае лета дзяўчынку браў да сябе брат бацькі, дзядзька Віця Галінеўскі.

«Як ты думаеш, чаму ён гэта рабіў? Навошта я ім была?» — пытаецца Валя.

«Мабыць, таму, што адчуваў адказнасць».

Цяжка перажыла сястра нядаўнюю смерць дзядзькавай жонкі. Гэта была апошняя нітачка, якая звязвала Валянціну з родам...

Сястра заўсёды была худзенькай, саромелася і свайго целаскладу, і мужчын. Я насмелілася задаць ёй прамое пытанне: «Валя, ты ў нас развядзёнка ці ўдава?» І пачула сумную гісторыю, як муж разбіўся ў аварыі пад Лагойскам, пакінуўшы жонку з чатырохгадовым сынам. Толькі тады ўспомніла яна прадказанне гадалкі: «Замуж выйдзеш, але ён будзе ездзіць і памрэ не сваёй смерцю».

Сын Кірыл працуе на Беларускай чыгунцы, нявестка — у дашкольнай установе. У Валінай «двушцы» гадуюцца двое ўнукаў. Дзіўнае супадзенне: нашы ўнучкі нарадзіліся ў адзін год з розніцай у пяць дзён, у адным радзільным доме...

### Надзя

З другой дзетдомаўкай, Надзеяй Іларыёнаўнай Іюльскай, я пазнаёмілася ў асяродку грамадскіх актывістаў. Мы разам выходзілі на шэсці, збіралі подпісы, клеілі партрэты, назіралі на выбарах. Мы з ёй аднадумцы.

Як вы маглі заўважыць, у Надзі прыдуманае, штучнае



прозвішча. Якое далі ў дзіцячым доме, такое і мае. Дзяўчынку падкінулі зусім не ў пялюшках і нават не ў дзіцячы дом — да чырвонага будынка гарадскога аддзела адукацыі, што на Кірава. А там па службе якраз знаходзілася кіраўнік сацыяльных устаноў Аляксандра Якаўлеўна Кудрэвіч. Надзя ў чатыры гадзікі ведала сваё імя, а прозвішча далі па месяцы, калі знайшлася. Год нараджэння напісалі прыблізна, 1943, дату прыдумалі. Надзя плача ў трубку і цяпер, успамінаючы сваю дэтэктыўную гісторыю.

Перш яна трапіла ў 3-і дашкольны дзіцячы дом, што за Чэрвеньскім рынкам. Потым выхаванцаў перавялі ў спецустанову №7, на вуліцу з невымоўнай назвай «Асавіяхімаўская» (у раёне старога аэрадрома).

Салідны быў дзетдом: з падарункамі ад шэфаў, з летнімі выездамі, з развітай мастацкай самадзейнасцю, канцэртамі, гурткамі... Хтосьці парупіўся, каб у трох групах правялі адбор у харэаграфічнае вучылішча. Выбралі дзевяць дзяўчатак розных узростаў. Некаторыя з групы танцавалі ў ансамблі беларускага народнага танца імя Апанасенкі. А хорам на тры галасы кіраваў Барыс Львовіч, і яны нават перамагалі 8-ы — з музычным ухілам — дзіцячы дом у двары ГУМа...

Надзя захавала пажоўклы нумар газеты «Зорька» за 26 ліпеня 1958 года, дзе змясцілі рэпартаж пра летні лагер у Дзяржынскім раёне. Жыва так, хораша напісаны, бо належыць пяру пісьменніка М. Герчыка. Ён пісаў, як выхаванцы ўдзельнічалі ў будоўлі, даглядалі кабылку і свіней, палолі калгаснае поле... Праз паўстагоддзя Надзя з сяброўкай Валяй Даніловіч едуць на станцыю Негарэлае і шукаюць у зарасніках той летні дом. Не знайшлі. Да рэчкі Ператуці не трапілі, бо ішоў дождж. Затое пабывалі ў вёсцы Гарбузы — здзейснілі падарожжа ў дзяцінства.

Парадкі, аднак жа, былі ў дзетдоме суровымі. За правіну маглі жорстка пакараць: пакінуць без ежы, настукаць па галаве альбо выставіць голую да дзвярэй хлапечага пакоя. (Самы жахлівы «выхаваўчы прыём»!) Старэйшыя дзяўчынкі практыкавалі разборкі паміж сабой: «цёмную», накінуўшы коўдру на галаву.

Адчуваеце розніцу паміж дзетдомамі асіповіцкім і мінскім?

Ды я не сказала галоўнага: увесь гэты час, зводдаль, за дачкою сачыла родная маці Еўдакія. Адшукала ўстанову, уладкавалася паблізу працаваць, пасылала паштоўкі без адрасу і подпісу... Напэўна, выглядвала на дварэ ў чародках дзяцей... А потым наведвала, брала да сябе на здымныя кватэры і ў інтэрнат. (Што яна пры гэтым гаварыла? Чужым жа дзяцей не аддаюць.) Пра маці вядома, што прыехала з Віцебшчыны, пры акупацыі знаходзілася ў Дуброўне. Бацькоў яна не ведала і не памятала. Таксама дзетдомаўка.

Жанчына пайшла з жыцця, калі дачцы споўнілася 13. Як і пры якіх абставінах, невядома. Надзя ведала месца апошняй працы маці і нават атрымала на памяць яе асабістыя рэчы. А прычынай, чаму маці рашылася яе, малую, пакінуць, з'яўляецца, на думку Надзеі Іларыёнаўны, цяжкае матэрыяльнае становішча і немагчымасць з дзіцем атрымаць у горадзе працу.

Хто Надзін бацька, засталося белай плямай. У тым узросце не задаюць «дарослыя пытанні».

Вучыліся выхаванцы дзіцячага дома ў Мінскай сярэдняй школе №1. На выходныя і настаўніцы, і выхавацелькі бралі да сябе вучаніц дадому. Вось іх імёны: Тамара Дзмітрыеўна (выхавацель), Рахіль Абрамаўна

**Выхаванцы былі прыстойна апрануты, пакормлены. Нездаровыя і слабыя атрымлівалі дадатковы паёк. Спалі на матрасах, напханых саломаю, у вялікіх пакоях. Усё жыццё сястры сніўся агульны пакой і шарэнгі ложкаў. Кожнае лета дзяўчынку браў да сябе брат бацькі, дзядзька Віця Галінеўскі**



Так іх вучылі вышываць



Вучні з Грушаўкі

(англійская мова), Ганна Мітрафанаўна (класная), фізік Дубініна… Больш за ўсіх удзяляла ўвагі сіротам Ганна Аронаўна, якая аднаго хлопчыка ўсынавіла. Ёй, адзінокай, сталыя выхаванцы «выбілі» кватэру, пасылаючы ва ўсе інстанцыі калектыўныя лісты.

Дырэктар 7-га дзетдома Аляксандра Якаўлеўна пражыла 105 гадоў і памерла не так даўно, у 2014-м. Увесь гэты час выпускнікі віншавалі яе, наведвалі. Менавіта былая дырэктарка пацвердзіла адміністрацыі Маскоўскіх могілак, што там знаходзіцца магіла Надзінай маці.

Скончыўшы мінскі інстытут, Іюльская працавала настаўніцай фізічнай культуры. Яе асабістае жыццё «на замочку», а мы ў душу не лезем. Ведаем толькі, што адзіная дачка не захавала сям'ю, а любімы ўнук Янка праходзіць службу ў беларускім войску.

…У гадавіну смерці Васіля Быкава мы ўскладалі кветкі на магілу пісьменніка. Надзя нас паклікала, павяла ўглыб і паказала магілу матулі, якую яна даглядае. Не без цяжкасцяў, але месца пахавання ўдалося захаваць за сабой, і цяпер прыгожая ў сваe за 70 з нечым Надзя — з точанай фігуркай і серабрыстай галоўкай — мае прывілею займець апошні спачын разам з ганаровымі жыхарамі сталіцы…

## Вольга

Дзетдомаўку Вольгу Анатольеўну Далгачову я сустрэла на нашай вуліцы. У яе былі свае прычыны выхоўвацца мамай-дзяржавай.

Волечка нарадзілася ў сям'і карэнных менчукоў у 1943-ім. У чатыры годзікі яе мусіла афіцыйна здаць на выхаванне ў дзетдом сама маці. Бацьку, Анатоля Гуміна, у пачатку 45-га арыштавалі; у час акупацыі ён працаваў слесарам-водаправодчыкам на свідравіне. З вуліцы Разінскай пры немцах многія зараблялі на хлеб. Супрацоўніцтва з акупантамі прыроўнівалася да здрады Радзіме і дзіўна фармулявалася як «сношение с иностранным государством». У лютым, пасля Пішчалаўскага замка, асуджаны быў этапаваны ў Свярдлоўскую вобласць. Праз тры з нечым месяцы ён памёр у лагерным лазарэце з дыягназамі «дыстрафія» і «туберкулёз». Месца пахавання невядомае. Паколькі маці выдалі даведку, то дзеці мелі права на грашовую дапамогу. Дваіх жанчына пакінула пры сабе, адна «дасталася» бабулі, а меншая — дзетдому.



Сустрэча праз многа гадоў. Надзея і Вольга

**Жанчына пайшла шукаць праўду ў Белполк на Грушаўскую. Да камандавання яе не дапусцілі. Тады яна рашылася на адчайны крок: кінулася на капот генеральскай машыны. Генерал вывучыў дакументы, перагледзеў рашэнне суда**

Яшчэ раней Кацярыне Гуміной (Баран) давялося пазмагацца за сваё даваеннае жыллё. У іх доме бомбай пашкодзіла сцяну, тады сям'я перабралася ў апусцелы дом цёткі. Бацька умацаваў рэйкай сцяну і пусціў жыць суседзяў Янушкевічаў.

Вольга распавядае:

«З Масквы вярнулася бацькава радня, сем чалавек, а ў іхнім доме — наша мама з дзецьмі. Ім гэта не спадабалася. Маму выперлі, але і ў наш дом ёй ходу не было. Адна з суседскіх дачок выйшла за афіцэра Белпалка, той пагражаў маме пісталетам, збіў яе так, што трапіла ў бальніцу. Падала мама ў суд — і выйграла, а тыя ўсё роўна нас не пускаюць. Праз акно мы лазілі ў адзіны пакойчык».

Жанчына пайшла шукаць праўду ў Белполк на Грушаўскую. Да камандавання яе не дапусцілі. Тады яна рашылася на адчайны крок: кінулася на капот генеральскай машыны. Генерал вывучыў дакументы, перагледзеў рашэнне суда. У выніку маёр Маладцоў вярнуўся на Разінскую без пагонаў і партупеі, яго выгналі з арміі. Суседзі знайшлі іншае жыллё і нарэшце выселіліся.

Вольга памятае татарскія агароды, дзе немцы сеялі бручку, і мячэць каля сённяшняй гасцініцы «Юбілейная»; на яе месцы цяпер рэстран, казіно і боўлінг. Горад у 50-ых «расчышчалі». Друз і старую цэглу звозілі ў раён Палаца спорту, у забалочаную пойму ракі. Палонныя немцы сядзелі на бярвеннях і гралі на губных гармоніках. Яны частавалі дзяцей салёнымі арэшкамі з бляшанак і цукеркамі. Больш запомніліся самі бляшанкі: са шкілетамі на мыліцах.

Выхаванцам выдавалі амерыканскую дапамогу: высокія чаравічкі са шнуроўкай, дзяўчаткам — белыя, а хлопчыкам — чорныя. Перапалі таксама харошанькія палітончыкі і капялюшыкі-балеро, кітайскія вясёлыя сукенкачкі.

Вольга выйшла замуж за свайго аднакласніка, які атрымаў прафесію дызайнера. Нядаўна яны адзначылі «залатое вяселле». Сын і дачка, зразумела, даўно дарослыя, унучка заканчвае школу. Мая суседка па вуліцы, як і Валя Каспаровіч, медсястра па адукацыі, толькі яна рэгулярна «бегала» ад медыцыны ў розныя іншыя галіны гаспадаркі. Потым да пенсіі вяла лячэбную фізкультуру ў гарадской паліклініцы №12.

Аб новай знаёмай я паведаміла Надзі Іюльскай. Аказалася, разам з Воляй Гуміной яны прайшлі і 3-і дашкольны, і 7-ы дзіцячы дом. Успомніла яна і таварышку («чорненькая такая?»), і нямецкія бляшанкі з арэшкамі. У іх агульныя сябры і настаўнікі, агульнае сірочае дзяцінства.

Я парупілася жанчын звесці, пазнаёміць «нанова». Было цікава: як яны сустрэнуцца? Надзея з Вольгай пазналі адна адну ў твар. Пазналі… і разгубіліся. Няёмкасць адчулі, ці што? А потым доўга, стуліўшы галовы, разглядвалі Надзіны старыя фотаздымкі (у яе дома цэлы архіў). Успаміналі…

# На скрыжаванні



Вольга РАСТОЎСКАЯ

* * *

*Кладзі мае сны*
*на мову памерлых багоў*
*Кладзі мае думкі*
*на плечы натоўпаў каменных.*
*Кідай бездакорныя позіркі*
*майстру сусвету*
*Кідай незлічоныя словы*
*ветру і сонцу дажджом*
*і пяском.*
*Ідзі мне насустрач*
*нібы на сустрэчу з адлегласцю*
*тонкай ад смерці да сна*
*Ідзі небяспечна*
*вяртаючы словы з нябёсаў маіх*
*на крокі сваіх недарэчных*
*учынкаў.*

* * *

*Кава з водарам блюза*
*Сустракае мяне ўсмешкай*
*Пазірае пяшчотна*
*Асыпае мой шалік камплімен-тамі*
*Натхняе цябе*
*Абуджае дзень*

* * *

*калі кранаеш тую глыбіню*
*святлом сваіх далоняў нерухо-мых,*
*яна маўчыць,*
*і варта ўсвядоміць —*
*на скрыжаванні*
*ў пошуках дарог*
*бязмежнай плынню*
*сыходзіць*

* * *

*дзіўлююся*
*дзівам*
*здзіўленым.*
*павер'ям*
*верна*
*веру.*
*гукаю*
*гукам*
*гучным.*
*пішу*
*напісаным*
*пісьмом.*
*чытаю*
*нечытанае*
*чытво.*
*смяюся*
*смехам*
*смешным.*
*смешна*
*чытаннем*
*пісаным*
*бязгучным*
*няверным*
*дзіўным…*

* * *

*Няспешная*



Фота www.unusualplaces.org

*Дзікая*
*Прагная*
*Хваля майго палону*
*Хвалюе*
*Не разумее*
*Песні мярзотных стогнаў.*

*Бяспечная*
*Ціхая*
*Гнуткая*
*Прасціна майго натхнення*
*Працінае*
*Не супыняе*
*Запалу былога тленне.*

*Нясцерпная*
*Спрытная*
*Цяжкая*
*Мара майго сусвету*
*Марнуе*
*Не закранае*
*Дотыкаў гучных ветру.*

# Вішнёвы пах



Глеб ШУЛЬПЯКОЎ

**1.**

*«Паспавядайся — будзеш рады...»*
*(гэта чужая, не мая парада).*
*Ужо прамінула — колькі? — амаль паўгода:*
*Лета, восень, і люты зноў надыходзіць,*
*А я ўсё ніяк не дам сабе рады.*
*Шторанку збіраю свае паперкі,*
*Выходжу на кухню, тулюся да печкі,*
*гляджу за вакно, дзе на белым снезе*
*гойсае рыжы суседаў пудзель.*

*Вось жа, тым летам я жыў у вёсцы*
*(лецішча было не маё, чужое —*
*сябры далі пажыць на самоце).*
*У Маскве тым летам цягнула дымам —*
*у наваколлі гарэў тарфянік.*
*Нават метро ў смузе блакітнай!*
*А тут крышачку па Казанскай*
*чыгунцы — і ты*
*ўжо на верандзе: цікуеш, як сонца*
*трапечацца ўвечары ў лапах ялінаў.*

*Уранні рынак: цяляціна й бульба,*
*памідоры, кавун, на вячэру гарэлка.*
*А потым на матрацы гартаў часопіс —*
*«Юность» гартаў, «Огонёк» і «Ровесник»,*
*а як сутоньвалася, смажыў мяса,*
*скрыляў гародніну, вывуджваў з ванны*
*пляшку гарэлкі — баль пачынаўся.*

*У тое лета ў вёсцы пісаў я п'есу*
*(гэта была чужая, не мая ідэя —*
*стварыць п'есу; адзін тэатар*
*замовіў мне драму з гадоў нядаўніх).*
*Класіка жанру: каханне й мора.*
*Ды яшчэ каб стрэльба ў фінале пальнула.*
*Тады, дзень пры дні, пагартаўшы часопіс,*
*я падымаўся паціху ў мансарду.*
*Падмыкаў машыну і ўсіх герояў*
*выпускаў на волю: спрачацца, бегаць.*
*Ну, што бывае, як пішаш п'есу?*
*Дасі ім слова, такое ўчыняць —*
*перасварацца, а то й паб'юцца:*
*ледзь паспяваеш сачыць за імі.*
*А тут яшчэ ў суседзяў за плотам:*
*«Ксюша, Сярожа, хадзіце есці!»*
*«Ваша падача, Антон Іваныч».*
*«Дзіма, сынок, супакой сабаку!»*

*І вось падбіраючыся ў п'есе*
*да рэвальвера, вунь там, на паліцы,*
*бачу ў акне, як ляціць па небе*
*чырвоны мяч —*
*проста мне пад сценку.*

**2.**

*«Збіраю я манеты і жанчын!» —*
*ён захінуў на чэраве чугай*
*і зноў запыхкаў люлькаю духмянай.*
*«І я збіраў калісь...» — «Жанчын?»*
*«Ды не, яны ж, яны ж...» — «Яны ж*
*падобныя!*
*У кожнай ёсць і век свой, і свой кошт.*
*Знаёмцеся, Марыйка. Жонка.*
*Год выпуску...» — «Не слухайце, скажыце:*
*Дык гэта вы на лецішчы ў суседзяў?»*
*«Пакінулі ключы пажыць крыху».*
*«А ў нас шчупак, не проста — па-ільінску!*
*Прыходзьце на вячэру!» — «О, шчупак!*
*Напэўна , у смятане?» — «Ну вядома».*
*«Я па гарэлку». — «Па габрэйскую?»*
*«А іншая не ў модзе ў шыротах гэтых».*
*«Даўно вы тут, мы бачым, жывяце».*

*І вось ужо ў паветры ловіць нос*
*гарачы перны пах.*
*Па шчупаковай волі памідоры,*
*спавітыя цыбуляй і пятрушкай,*
*аздобленыя кулямі радыскі,*
*і ўрэшце ён, распараны шчупак*
*у бульбачцы разваранай —*
*глядзіць, віжуе, зырыць на мяне*
*вачыма пабялелымі.*
*І мы сядзім — гадзіну, дзве, і тры.*
*Звініць пад абажурам камарэча,*
*па маснічыне б'е хвастом сабака,*
*і гутарка па лецішчы плыве*
*журлівым ручаём пад патэфон,*
*які спявае нам ізноў па коле:*
*факстрот «Шкляныя перлы»*
*летка-енка*
*вальс «На сопках Манчжурыі»*
*«Ленінградскія масты»*
*і папуры «Маямскае дзяўчо».*

*І тут Марыйка, пляснуўшы рукамі,*
*ідзе ў пакой, грукочa там зацята*
*рандолямі й нясе ўрачыста*
*талерку чорных ды ільсняных ягад —*
*і грацыёзна ставіць на стальніцу.*
*«Вы верыце? Калісьці тут была*
*сядзіба, ужо і не згадаю*
*якіх князёў, і быў вішнёвы сад,*
*вялізны сад на гэтым самым месцы».*
*«...Гаспадаром быў нейкі скандынаў,*
*што капітал займеў на перавозках».*
*«І што, не захавалася нічога?»*
*«Ды не, аскепкі засталіся.*
*У сажалцы вядуцца шчупакі,*
*а ў стайнях*
*муж знайшоў капейку Мікалая...»*
*«Збіраю я манеты і жанчын!».*
*«...ды трохі вішняў ацалела там,*
*з якіх мы і сабралі пару літраў».*
*«Ну проста нейкі чэхаўскі сюжэт!»*
*«Вазьміце, праўда. Гэта на сняданак.*
*Як той казаў, з магнацкага куста.*
*А спод як-небудзь вернеце пазней».*

*...Сабака вёў мяне да самай брамы,*
*а потым я пайшоў па плоту пыльнага*
*дахаты — у ялінавай цямрэчы,*
*якая толькі тут, у Падмаскоўі,*
*бывае перад жніўнем па начах.*
*Не ягады, але салодкі водар вішняў,*
*як воблака, я нёс тады ў руках.*
*Над галавой, расштурхваючы зоркі,*
*гуляў шчупак, што памятае князя,*
*а я, заплюшчыўшыся, бачыў сад, —*
*як ягады гайдаюцца на веццi*
*і сонца прасвідроўвае лістоту.*
*Калі і дзе я чуў вось гэты водар?*
*Хлапчынка ў акулярах, як я трапіў*
*сюды, пад гэты плот, які*
*зацята вішні рваць перашкаджае?*
*Я адчыняю весніцы, заходжу*
*ў чужыя землі — заміраю*
*ад страху, ягады з галінак рву*
*і чую раптам той жаночы голас:*
*«Ці спадабалася табе чужая вішня?»*

*«Чаму ж ты не ясі?» — перада мной*
*бідон адборных ягад,*
*а жанчына ў дзвярах у сінім хвартушку*
*вачэй не зводзіць,*
*потым ціха кажа:*
*«Не выпушчу, пакуль усё ты не з'ясі».*
*І там жа, у дзвярах, сядае ў крэсла.*
*...Спярша аду, затым другую вішню*
*я дастаю (а пальцы ледзяныя!)*
*і прыгаршчамі ўжо піхаю ў рот,*
*размазваючы слёзы па шчацэ.*
*Жанчына ўсё глядзіць, і мне здаецца:*
*праз хвілю і сама заплача горка.*

*«Цяпер ты зразумеў?» — Ківаю.*
*«Ну, ідзі... Чакай. Памыйся.*
*Надта ж ты мурзаты».*
*Мы йдзем на кухню, дзе вада.*
*Яна мой твар бярэ сабе ў далоні,*
*кветкістым ручніком кранае шчокі,*
*а пасля прыціскае да грудзей.*
*Ён цёплы, гэты хвартушок, і шорсткі.*
*І пахне бульбай смажанай.*

**3.**

*Наступнага дня я закончыў п'есу.*
*Рэвальвер — уявіце сабе — даў асечку:*
*адно толькі мора шумела ў рэмарках.*
*І тады я выраашыў: пара вяртацца —*
*хопіць слухаць зязюляў за плотам.*
*У кайстру — рэчы. Склаў кампутар.*
*Дом зачыніў і ключы — у падстрэшша.*
*І на цягнік пацiху, без сантыментаў.*

*Там, на далёкай верандзе*
*(яна цяпер падобная да вагону,*
*які не мае ні колаў, ні вокнаў),*
*засталася талерка. Варта было пайсці,*
*як яе адразу абляпілі восы.*
*Прагныя няўклюды, яны*
*накінуліся на гнілыя вішні,*
*спярэсціўшы талерку сваімі*
*бурштынавымі спінкамі ў паскі.*

*...А я стаяў у тамбуры ля разбітых*
*вокнаў,*
*дыхаў падвэнджаным ветрам*
*і думаў, што ніколі не ўведаю:*
*хто была тая, у хвартушку?*
*Жыве ці не? І ў памяці яе*
*ці жывы той дзень?*
*«Ды што там вішня!*
*Нам і пра сябе нічога невядома.*
*Да прыкладу, як нас бацькі зачалі?*
*Дома? На лецішчы? У спальным вагоне?*
*Уначы або па абедзе?*
*І хто першы на жывот паклаў руку?*
*А можа, гэта здарылася ў вітальні*
*проста на мокрым футры?*
*Паслухайце, гэта ж надзвычай*
*важныя рэчы!*
*Трэба ўдакладніць, пакуль яшчэ*
*ўсе жывыя...»*

*Гэтым часам цягнік уварваўся ў сталіцу —*
*замільгацелі загароды і эстакады,*
*а я ўсё стаяў ды перабіраў варыянты.*
*Адзін, другі, трэці... І ведаеце што?*
*Той самы, на мокрым футры*
*падабаўся мне болей і болей.*

**Пераклаў з расійскай мовы**
**Уладзімер Арлоў**

# Даўно гэта кажу



Юрый ЗАВАДСКІ

### У падарожжа

*Вось ён, разлік траекторыі ад сябе да сябе.*
*Як добры вінаградар, вырошчваю*
*сваю радасць без вады і зямлі,*
*выпешчваю сваю лазу, і яна — з усмешак,*
*і я праклінаю цябе, ратаўнік.*
*Ці ведаеш ты, што ты толькі цацка*
*на адну ноч?*
*За высокімі дзвярыма ўніверсітэтаў*
*цябе няма,*
*За кратамі беларускіх турмаў цябе няма,*
*за крывёю з носу, за выбітым мозгам,*
*за адарванымі нагамі.*
*Цябе няма пад каменем, няма ў гадзінніку,*
*няма ў чаравіках і няма без чаравікаў.*
*У тонкім голасе школьніцы,*
*у слёзах жонкі, няма ў смерці,*
*няма ў разгубленасці, няма ў пакаранні,*
*няма ў рытмах музыкі, няма ў гарэлцы.*
*Няма ў вайне, няма ў рухавіках*
*і няма ў пустэльні пасля выбуху,*
*няма ў моўчнасці пасля маркітавання,*
*няма ў размове з прафесарам,*
*няма ў лядоўні, няма ў тэорыі,*
*няма і не будзе ў бетоне або цэгле,*
*няма і не будзе ў лёгкіх у шахцёра,*
*няма і не будзе ў вагіне*
*і ўва мне няма, і нічога святога*
*не вырабляю.*
*Цябе не глытаюць разам са спермай,*
*дактары не выкідаюць цябе*
*разам з апендыксам.*
*Цацка на адну ноч, збавіцель ад пустэчы,*
*пажарнік у тыры, прычасце ад людскасці,*
*раскаянне ў радасці,*
*пакаянне за шчасце і нязмушанасць,*
*пакута за вернасць і цноту.*
*Без цябе, без цябе выпраўляюся*
*ў падарожжа гэтай пылюкаю.*

### Таксама адміраюць

*Хвоя — вакно да трывання*
*разбуральнага ды хлуслівага.*
*Стол, прасякнуты півам,*
*ловіць стальніцаю вецер,*
*і хвалі яго падмываюць бетон узбярэжжа.*
*Параход — таксама вакно,*
*да цела незнаёмага і ўквеленага*
*размовамі ды намёкамі.*
*Мой ты дружа, што захлынуўся*
*ў тых размовах,*
*бо пол твой размагніціўся,*
*і галава гэтага горада разламалася,*



*падмытая драўлянымі хвалямі.*
*Даланю сваю забяры,*
*стол брудны, ліпучы.*
*І колькі дрэваў,*
*што зеленеюць, цямнеюць,*
*і таксама адміраюць.*

### Даўно гэта кажу

*Крыніца для жывёлы,*
*не для людзей. І пакоі для жывёлы,*
*не для людзей. І хлеб не для людзей.*
*І дарогі найпраставыя не для людзей.*
*Для жывёлы гэтыя грошы і прысмакі,*
*для яе адзенне і золата. Для жывёлы*
*гэтыя вочы і пальцы,*
*гэтая пяшчота і жарсць*
*не для людзей.*
*Гэта жывёла парушае*
*парадак рэчаў, дзе няма*
*аніякай прэзумпцыі невінаватасці*
*дзе губляюцца колькі самотных каханкаў,*
*дзе няма добрых шляхоў*
*і мэтаў няма таксама.*
*Даўно гэта кажу, даўно.*

### У царкве

*Я не ведаю, што сталася.*
*Яна, як вада рассеяная,*
*як пясок, каагуляваная.*
*Верх, ніз, —*
*дарога скрозь мокры снег,*
*але начлегу не чакаю,*
*вяртання туды ж,*
*у неакрэслены алоўкам*
*унутраны пах,*
*у паласць круглявую,*
*што я ў ёй*
*танканогая настаўніца,*
*што похва ў мяне сцятая,*
*як сцятыя зубы.*
*Хуткасць павінна*
*забяспечыць поспех.*
*У гэтай царкве з правіслымі вантробамі*
*каляровы абраз з расколінай*
*на верхняй губе*
*вышэй вушак захрысціі,*
*і гэтая царква —*
*настаўніца ўжо нежывая.*

### Знянацку

*Знянацку, знянацку*
*насенне ластавак рассыпалі,*
*насенне.*

**Пераклаў з украінскай**
**мовы Уладзімер Арлоў**

# Аповеды дзяцінства



Іна СНАРСКАЯ

## Ці трэба баяцца навальніцы?

Калі пачынаецца навальніца, мая бабуля запальвае грамнічную свечку і ставіць яе на падваконне. Але я ўсё роўна баюся. Аднойчы маланка забіла карову нашай суседкі бабы Фрузы. Пра гэтае здарэнне доўга гаварылі ў вёсцы. Мы, дзеці, хадзілі глядзець на карову, але бачылі яе здалёк, бо баба Фруза нас у двор не пусціла. Карова ляжала каля пуні чорна-бурай гарой і не дыхала. З яе вуха тоненькім струменьчыкам цякла кроў. Было страшна. Баба Фруза паглядзела на нас сумным поглядам, які азначаў: «Ідзіце, дзеці, вам не трэба гэтага бачыць». Яна накрыла карову шэрым брызентам і пайшла ў хату. Больш у двары нічога не адбывалася. Мы пайшлі дадому, кожны да сябе. Гуляць не хацелася. Як можна бегаць і смяяцца, калі ў двары нашых суседзяў ляжыць мёртвая карова?

Гэтая гісторыя неяк па-асабліваму ўсхвалявала. Ці можа жах быць прываблівым? Страшна, але чамусьці ўсё роўна хочацца глядзець. Ёсць у гэтым нешта гіпнатычнае...

Упершыню я пабачыла смерць жывой істоты так блізка. Датуль была ўпэўнена, што ніхто ніколі не памірае. Мне верылася, што заўсёды каля мяне будуць мае родныя людзі, усе мае каты і кацяняты, і нават той верабей, якога я ўратавала ад сабакі напачатку лета. Ён жа ўрэшце ўспырхнуў, сеў на дрэва, а гэта значыць, што потым, калі я не бачыла, знайшоў сваіх сяброў, і яны разам паляцелі ў гаманлівы лагодны лес. Мне заўсёды верылася ў шчаслівы фінал кожнай гісторыі. Калі нешта адбывалася не так, я казала сама сабе: «Усё, безумоўна, будзе добра. Можа, не цяпер, не тут, але абавязкова будзе». Адкуль такі аптымізм, цяжка сказаць. Але адчуванне таго, што нас нехта ахоўвае, у маёй ранішняй душы было ад самага пачатку. Усе дзіцячыя душы — ранішнія. На душы вечарэе тады, калі чалавек вырастае і забываецца, якім ён быў у дзяцінстве. Я ведала, што буду жыць вечна. І гэтае веданне расло ўва мне проста і натуральна, як кветка ў полі. Ніхто яе не садзіў, не даглядаў. Расла яна сабе і расла, падстаўляючы сонцу празрысты тварык.

Тая мёртвая карова нешта змяніла ўва мне. Разам з гэтым здарэннем у кроў атрутай улілося сумненне. А раптам карціна жыцця іншая — не такая, якой я сабе яе ўяўляю? Разам з сумненнем прыйшоў страх за сваё жыццё, за жыццё родных людзей. Я пачала баяцца, што мая бабуля захварэе і памрэ. Што нешта здарыцца з бацькамі, і яны ўжо ніколі не прыедуць да мяне ў вёску. Што маланка можа ўдарыць у нашу хату, і яна загарыцца, як хата майго сябра Ігара...

Калі ўжо дарослай я ўпершыню пабачыла фільм Андрэя Таркоўскага «Люстэрка» (памятаеце той кадр, дзе сярод ночы гарыць нейкі будынак?). Я адразу пазнала драматычную падзею са свайго дзяцінства, калі гарэла хата Ігара. Ад навальніцы загарэлася праводка ў іхнім доме, пасля агонь перакінуўся на шпалеры, дах, вокны. Я глядзела на пажар цераз акно і баялася выйсці на вуліцу. Па бальшаку беглі людзі з вёдрамі, везлі бідоны з вадой на конях. З вуліцы даносіўся гармідар, і я адчувала адчай і страх, які выпраменьвалі вочы людзей. Жах прасочваўся цераз сцены нашай хаты, тачыў дрэва, як шашаль. Я разумела, што сцены нашага будынку ненадзейныя, бегла да ложка, накрывалася з галавой коўдрай, але ўсё роўна чула крыкі і плач, уяўляла, як пáдаюць на зямлю галавешкі, як гарыць трава і сена ў пуні. Бачыла ў думках Ігара і яго сястрычку Соню. Вось яны бягуць па дарозе, як на вядомай карціне «Дзеці, якія ратуюцца ад навальніцы». Такія маленькія і такія адзінокія... Мне было сорамна за свой страх. Я любіла Ігара, ён мой сябар. Разумела, што трэба неяк яго ратаваць, імчаць на дапамогу. Але мне было так цяжка дыхаць, нібы сцены ўпалі на мяне і прыціснулі сваёй вагой. Я не магла прымусіць сябе выбрацца з-пад пудовай коўдры, мае рукі і ногі здранцвелі. Страх адбіваўся на шпалерах ценем мёртвай каровы, і я разумела, што ён мяне гэтым разам перамог. І тады, сабраўшы ў камяк усю сваю волю, я абхапіла рукамі галаву і ў сваёй уяве паспрабавала адматаць стужку жыцця на некалькі гадзін назад...

**Усе дзіцячыя душы — ранішнія. На душы вечарэе тады, калі чалавек вырастае і забываецца, якім ён быў у дзяцінстве. Я ведала, што буду жыць вечна. І гэтае веданне расло ўва мне проста і натуральна, як кветка ў полі**

Ноч. Пачынаецца навальніца. Маланкі асвятляюць вёску, як днём. Побач з хатай Ігара расце вялікае дрэва. Моцны гук страсае прастору. Здаецца, што зямля раскольваецца напалам. Загарэлася дрэва. Гэта маланка патрапіла ў дрэва, а не ў хату Ігара. Пайшоў моцны дождж. Скончылася навальніца... Наступным ранкам усё выглядала не так жахліва, як ноччу. Нават не паснедаўшы, я пабегла да Ігара і Соні. Дзякуй Богу, яны жывыя і здаровыя. Сярод іхняга двара стаяла розная мэбля, трохі абпечаная, але жывая: канапа, таршэр, кніжная шафа... Гэта тое, што бацькі Ігара разам з суседзямі ўратавалі ад пажару. Хата стаіць чорная, без вокнаў, дах абваліўся... Але Ігар кажа, што вясковыя мужчыны абяцалі ім дапамагчы. Хутка будзе талака. Складуць зруб. Да восені будзе новая хата.



Я сяджу са сваімі сябрамі на старой іхняй канапе ў жоўтыя кветачкі і думаю, што ўсё скончылася больш-менш добра менавіта таму, што я вельмі гэтага хацела, што перапісала трагічны сцэнар пажару ў сваёй уяве. Ніякая я не фантазёрка, а сапраўдная чараўніца. І кожны чалавек можа быць чараўніком, калі вельмі захоча і паверыць у сваю сілу. Адчуванне таямніцы перапаўняе мяне гонарам. Я моцная, хоць і маленькая. Няхай ніхто мяне не пахваліць, не скажа словы ўдзячнасці. Няхай пра маю барацьбу са страхам і перамогу ніхто не ведае. Не трэба. Таямніца ёсць таямніца.

## Тата

Мой тата — майстра на розныя штукі. Калі настае Новы год, ён, вядома, ператвараецца ў Дзеда Мароза. Я раблю выгляд, што не пазнаю бацьку. Не заўважаю, што ён апрануў белы халат дзядзькі Івана, прычапіў бараду з ваты, абуў дзедавы валёнкі. Абодва валёнкі — на левую нагу, бо ў дзядулі толькі адна нага, левая. Замест правай — пратэз. Яго правыя валёнкі валяюцца недзе на гарышчы, іх знайсці не так проста. У таты няма часу шукаць правыя валёнкі. Ён толькі прыехаў, а Новы год ужо вось-вось пачнецца. Левыя дык левыя. Але я не заўважаю гэтага. Які цудоўны Дзед Мароз выйшаў з майго таты! Я спяваю, чытаю вершы, танцую, толькі б тата — Дзед Мароз — дастаў нарэшце са сваёй чароўнай торбы падарункі. Што б я хацела больш за ўсё? Вядома ж, алоўкі. Шмат алоўкаў... Яшчэ апельсіны. Яшчэ... браціка. Але, разумею, што такі падарунак тата не можа ўзяць і дастаць з торбы. Нават смешна... Ну што там у яго торбе, што?..

— Тата, я веру, што ты сапраўдны Дзед Мароз, толькі дастань хутчэй мой падарунак, — не вытрымліваю я. Так адбываецца заўсёды. Я не ўмею чакаць. Мама кажа, што мне не хапае волі сілы, ой, пераблытала, сілы волі.

І вось тата дастае з меха... чорненькае пухнатае кацяня. Божачка ж мой, я не чакала такога шыкоўнага падарунка! Упала на калені, абхапіла кацяня рукамі, прытулілася да яго шчакой. А кацяня такое ласкавае, трэцца аб мае калені, муркае, нібы які маленькі маторчык у ягоным горле працуе. Мабыць, думае, што я ягоная мама.

— Трубачыст. Я буду зваць яго Трубачыстам! — шчасліва вымаўляю я і бачу, як вочы майго бацькі становяцца вільготнымі. Тата, мой добры тата ведае, што пару месяцаў назад машына збіла майго ката Ваську. Як я тады плакала, проста не магла супакоіцца. Бабуля ўжо не ведала, што са мной рабіць, якімі прысмакамі гора перабіць, бо ўсё мне было нясмачнае, не лезла ў горла. Нават доктара цёцю Лену выклікалі: думалі, што я захварэла... Вядома, з часам я супакоілася, але ж мара пра кацяня засталася. Тата маю мару адчуў, хоць я яму нічога не казала...

Тата разумее мяне без слоў. Вось сядзім мы з ім на беразе возера і рыбу ловім. Прыгажосць вакол, спакой, хмаркі па небе плывуць, адна другую абганяюць. Раптам бачу — адна хмарка да майго Мішкі падобная. Я на тату яшчэ зірнуць не паспела, а ён ужо кажа:

— Глядзі, хмарка падобная на твайго плюшавага мядзведзіка. І нават аднаго вуха няма, як у твайго сябра.

Мне сорамна, што я ніяк не прышыю свайму мядзведзіку вуха, але радасна, што тата ўмее чытаць мае думкі. Для яго гэта не дзіва, прасцей за паранаю рэпу. Дарэчы, зусім нядаўна я даведалася, што раней, гадоў трыста таму, замест бульбы варылі рэпу. Мне тата расказаў. Вось гэта дзіва дык дзіва...

Мой бацька разумее галасы птушак. А яшчэ ён можа стракатаць — ну рыхтык сарока. Вельмі натуральна выходзіць. Бацьку падабаецца жартаваць. Не раз такое было: спачатку я чую голас сарокі, а потым на ганку з'яўляецца тата. Або схаваецца недзе за дрэвам і стракоча. Я ж не ведаю, што там тата. А можа, і ведаю, толькі ўсё роўна падхопліваю жарт: падыходжу да дрэва і раблю выгляд, што вельмі здзівілася.

— Прывітаннечка, татачка! А дзе сарока-белабока?..

Аднойчы ў сарочыным гняздзе мы з татам знайшлі матуліну срэбную завушнічку з александрытам. Мама вельмі любіла гэтыя завушніцы. Заўсёды насіла, толькі нанач здымала, клала на падваконне ў блакітны парцалянавы спадачак. І вось раніцай хацела надзець завушніцы, а адной завушнічкі не знайшла. Дзе толькі ні шукалі... Падумалі, што завушнічка недзе паміж дошкамі пад падлогу правалілася... Хто б мог падумаць, што маміну завушнічку ўкрала сарока. Мабыць, каменьчык бэзавага колеру ёй вельмі прыглянуўся... Калі мы з татам знайшлі сарочыну хатку, чаго там толькі не было акрамя матулінай завушніцы! Маленькія кавалачкі рознакаляровага шкла, ружовыя пацерачкі і нават мой медны пярсцёнак — падарунак дзядзькі Міхася, які я так нечакана згубіла. Проста фантастыка!.. Калі не стала маёй мамы, яе завушніцы надзела я. Адзін погляд на каменьчык бэзавага колеру пераносіць мяне ў дзяцінства. Я адразу ўспамінаю бацьку, матулю і ўсіх тых, побач з кім я адчувала сябе шчаслівай.

Калі бацька захварэў і даведаўся, якая ў яго хвароба, ён не страціў прысутнасці духу. Мы не раз гаварылі з ім пра жыццё пасля смерці, пра вандроўкі душы ў замагільным свеце. Тата верыў у Бога, хоць і не хадзіў да царквы. Мабыць, сваім сумленным жыццём, дабрынёй, а потым і вялікімі пакутамі ён заслужыў сваё належнае месца там, адкуль не вяртаюцца... Я часта бачу свайго тату ў снах. Часам мы з ім размаўляем. Але ж часцей маўчым. Проста глядзім адно аднаму ў вочы і маўчым. У свайго бацькі я навучылася галоўнаму — разумець без слоў.

# Злаві плотку як калодку...

**(Бяласін Я. А. Шчупакабра: Рыбацкія гісторыі. — Брэст, Альтэрнатыва, 2016)**




Хто з хлопцаў (альбо, як кажуць на Віцебшчыне, мальцаў) не захапляўся рыбалкай, хто нават і ў сталым узросце з трапяткім хваляваннем не згадваў сваю першую, здабытую з водных глыбіняў напаўтаемным чынам плотку ці верхаводку?! Мне дык і сёння стаіць уваччу чорны і вяртлявы, што змяюка, мянтуз, упаляваны на звычайную вуду пры крыніцы пад «бетонкаю» — плацінаю на Плісе.

Можа таму і кнігу з інтрыгоўнай ды страшнаватаю назвай, з агромністым шчупаком на вокладцы ўзяў у рукі з цікавасцю. Вабіў і падзагаловак як вызначальнік жанру — «Рыбацкія гісторыі», які, што называецца, сёння ў трэндзе. Гэта ці не першая беларускамоўная кніга non-fiction пра рыбалку!

Аўтар аніяк не прэтэндуе на энцыклапедычную грунтоўнасць. Ягоная кніга — гэта найхутчэй рыбацкая аўтабіяграфія, разгорнутая ў прасторы і часе: ад роднае вёсачкі Грынявічы, што на Гарадзеншчыне, да чыгуначнай станцыі Красавіна пад Вялікім Усцюгам на Валагодчыне, ад першага бацькоўскага ўрока на беразе рачулкі Пачарнейскай да дня сённяшняга. Разгортваецца яна таленавітым літаратарам у трыццаці пяці апаведах, навелах, нарысах, мемуарах, «інструкцыях»... Забаўляльны элемент сплецены ў адно з гістарычна-краязнаўчым матэрыялам, нявыдуманымі жыццёвымі гісторыямі.

Рознапланавая і стылістыка тэкстаў Яўгена Бяласіна. «Практычныя» раздзелы — «Вузлы, закруткі ад бацькі», «Як захаваць рыбу», «На пусты кручок не ловіцца», «Школа выжывання». У публіцыстычнай стылістыцы пададзены тэксты «...знішчальная меліярацыя», «Сялец прасвяціў наконт моцы Саветаў», «Лясная: гісторыя заняпаду ракі». У рэпартажнай манеры вытрыманы «спартыўныя» тэксты раздзелаў «Дзе мяжа азарту», «Спінінг як рухавік прагрэсу» і інш. Стрымана-апавядальнымі падаюцца «вытворча-пабытовыя» тэксты — «Лукаўскае і Пулямец», «Белавежская пушча: якія шанцы рыбакам». Іранічныя і самаіранічныя раздзелы «Смяхотна-кур'ёзна ці смяротна-кур'ёзна? Прыгоды на Сяльцы», «Беларускі камар», «Прыгоды на Паперні». Адметныя «лірычнасцю» такія тэксты, як «Што, дзе і адкуль бярэцца», «Пасвячоны ў рыбакі», «Свет вырас»... Тут не ўстрымаюся і падам цытату: «Устаеш з сонцам. Ідзеш па лузе, а за табой туман ірдзее ў праменях святла, якое выкочваецца з-за небакраю і высвечвае твой выразны зялёны след на беласрнай траве. Яшчэ знобка, але трымціш ты, і тахкае тваё сэрца не ад хады, не ад халоднай расы. Ты хваляешся, бо зараз ён настане, момант удачы...»

Большасць тэкстаў дужа «апетытная», смакоўная, перасыпаная як аўтарскімі фразеалагізмамі, неалагізмамі, так і дыялектызмамі.

Літаральна адна літара (выбачаюся за таўталогію!) дадаецца — і вось ужо з паўміфічнага чарнобыльскага мутанта чупакабры атрымліваецца шчупакабра, гіганцкі шчупак з возера Мястра! Адна літара ставіцца прэфіксам паводле гэткага самага прынцыпу — і вось ужо няўдалая рыбалка ператвараецца ў грыбалку, паспяховае ціхае паляванне. Як па мне, дык гэта проста бліскучыя аўтарскія знаходкі!

Падабаюцца таксама рэчабыльнасць (рэчаіснасць), першая незабывайка (памятная прыгода), паліважэрны (бярэ шмат паліва) грузавік. Цікава і, як правіла, удала ставіць пісьменнік у кантэкст і мясцовыя слоўцы са сваёй малой радзімы: зяліска (водная зеляніна, водарасці), топка (жаванае волава), падпасак (дадатковы груз), шыш (колюшка), аршытак (шыцік), падрыўка (сетка-таптуха), муляк (веснавая лічынка), маракацідь (сеге) дождж...

Нярэдка карціць пазначыць на палях аўтарскія назіранні і сентэнцыі не толькі пра рыбалку, не толькі пра беларусаў і іх праблемы. «Гэта лёс, бадай, кожнага беларуса — гукаць раку свайго дзяцінства і чуць у адказ вядомае: "Там яе няма, паляцела ў свет. Наша рэчанька выпіта да дна..."», «Вочы бялеюць, мяса пачне адставаць ад касцей... Толькі на выкід, а рыбалка тым самым марнатраўчы акт, ты марнатравец. Для беларуса адно з самых крыўдных словаў. З нацыянальнай скарбонкі, маю наўвазе».

А вось каб падтрымаць аўтарскую іронію і самаіронію, можна было б зрабіць наступнае дапушчэнне. Калі Яўген Бяласін апублікаваў бы некаторыя раздзелы ў часопісе «Дзеяслоў», дык мог бы прэтэндаваць калі не на прэмію «Залаты апостраф», то, як мінімум, на «Дубальтовы апостраф» — ці не ўпершыню ў беларускай мове ўжывае ён слова з двума апострафамі: перад'зм'е!

Але, мабыць, штосьці ўсё ж не дагледзеў аўтар і рэдактар: поліэтыленавая, а не цэлафанавая торба, бідавочны русізм — «фігуральна выражаючыся». Націскныя галосныя чамусьці падаюцца вялікімі літарамі, а не абазначаюцца дыякрытычным знакам ці хаця б курсівам. Гэта напачатку бянтэжыць, а потым і раздражняе...

Пару закідаў ма́ю і да паліграфіі. Кегль асноўнага тэкста замалы, а праз тое цяжкачытэльны, дзе-нідзе кепска прадрукаваўся. Як па добры лад, кніжка павінна была б быць аб'ёмам не на 180 старонак, а ўдвая большай. Блок склеены так шчыльна, што том увесь час трэба трымаць абедзвюх, бо інакш загортваецца самахаць.

Таму хацелася б пабачыць кнігу перавыдадзенай у лепшым выдавецка-паліграфічным выкананні. Думаецца, што з карысцю пагартае і пачытае яе не толькі рыбалоўца-аматар. Цікавай яна можа быць і географу, і эколагу, і іхтыёлагу, і этнографу, і лексіколагу з дыялектолагам.

А сёння трэба па-добраму пазайздросціць Яўгену Бяласіну і павіншаваць яго, што здолеў «выцягнуць» такую кнігу, што «вылавіў акуня як каня».

**Уладзімір Сіўчыкаў**

# «Marginalis»,

## ці гісторыя пра тое, як добры маркетолаг прасоўвае слабога аўтара, і абодва яны поўныя цёзкі

**Чытаць усё, што выходзіць на рынак, немагчыма — аксіёма. Свой спіс мастрыдаў кожны складае сам. Нехта пад уплывам аўтарытэтных дарадцаў, нехта з падказкі сяброў. Часам здараецца, што чытаць прымушае агрэсіўны піяр. Супрацiўляцца можна, але гэта патрабуе высілкаў. Прасцей прачытаць, асабліва калі так настойліва просяць, як гэта робіць Кірыл Стаселька.**

### Пра мову і стыль твора

Падаецца, у кнізе не было ні рэдактара, ні карэктара, што, на жаль, выявіла поўную непісьменнасць аўтара. Літаральна з першых старонак на чытача абвальваецца процьма памылак, русізмаў, таўталагічных канструкцый і іншай прыкрай бязглуздзіцы.

«Гады доўжыліся нядоўга», «беражліва аберагаў», «кінуць у комін, каб развесці агонь», «нос удыхаў блажэнны водар паперы», «у запэцканых вопратках уладальнік бібліятэкі», і г.д., і да т.п. Хапае ў тэксце «атачаючых», «даручаючых», «знікаючых» і інш.

Аўтар проста не ведае, што па-беларуску «ліст» — гэта тое, што па-руску «пісьмо», а тое, што ён называе «лістом», мае свае слова — «аркуш», што рускаму «безграмотный» адпавядае беларускае «непісьменны», што няма ніякага «камуністычнага ўкладу», а павінен быць «лад»... Сумны спіс можна доўжыць бясконца. Груваcткія сказы з вялікай колькасцю лішніх слоў.

Наогул, многія слоўцы, упадабаныя К. Стаселькам, паўтараюцца абзац за абзацам без дай прычыны. То пісьменнік зацыклівае на «дастаткова», то на «магчыма», то на «грунтоўна». Пра выратавальны сінанінімічны шэраг вучаць у школе, не? Няма ўласнага лексічнага наробку, то слоўнікі ж складзеныя шматтомныя — толькі не лянуйся зазірнуць... Гора таму неафіту, для якога першай кнігай на мове стане «Marginalis» — ахвоту адаб'е і створыць кепскае ўражанне пра беларускую літаратуру наогул.

Відавочна, аўтар мысліць па-руску, беларуская мова яму мо і сімпатычная, але абсалютна ім неасвоеная і не блізкая...

### Пра сюжэт

Фабула «Marginalis» (у адносінах да асобы, з якой усё пачынаецца, — фенаменальнага кніжніка італійца) выкладзеная на сайце library.ru ў раздзеле «Асобы», дзе размяшчаецца сціплы артыкул пра італійца Антоніо Мальбэкі. Яна паўтараецца, на жаль, амаль даслоўна на старонках кнігі сп. Стаселькі. Каб гэта быў навуковы тэкст — яго б проста прызналі плагіятам...

Далей ідзе павярхоўнае сцэнарна-пункцірнае пазначэнне сюжэту, за якім усё чакаеш: калі ж пачнецца нарэшце сам раман?.. Чакаеш, скажу адразу, марна, бо і на 10-й, і на 30-й старонцы аўтар усё перасковае хутчэй наперад, выключна агульнымі рысамі абмалёўваючы падзеі. Падаецца, што ты чытаеш запіс гутаркі, у якой чалавек сціслa і не па-мастацку аднастайна стараецца распавесці змест прачытанай ім кнігі.

Ненадоўга дорыць надзею трэці раздзел, дзе нарэшце пачынаюць разгортвацца падзеі новай сюжэтнай лініі. Але і здарэнні ва ўтапічнай камуне не выратоўваюць кнігу, так гучна названую «насычаным філасофскім і захапляльным» раманам. Чым аўтар хоча «здзівіць» чытача? Пералічэннем геаграфічных кропак: Анкордыдж, Кардова, Ігл-Рок? Ці веданнем мянушкі штату Айдаха?.. Гэта б слаба ўразіла чытача нават для пачатку мінулага стагоддзя. Але якая рэклама! ... «Раман рэкордны па колькасці герояў» — гэта як? Проста ў трох абзацах пералічыць нейкіх персанажаў праз коску у якіх была таямнічая кніга? Праз гэта рэкордны? У такім разе тэлефонны даведнік — вось сапраўдны рэкардсмен! Характары герояў прымітыўныя, паводзіны прадказальныя. Адкуль у характарыстыцы ўзялося слова «філасофскі» — наогул не зразумела?..




**Падаецца, у кнізе не было ні рэдактара, ні карэктара, што, на жаль, выявіла поўную непісьменнасць аўтара. Літаральна з першых старонак на чытача абвальваецца процьма памылак**

Недароблены, нявычытаны тэкст мусіў трапіць да дарадцы-рэдактара — і, магчыма, лёс кнігі быў бы інакшы. Вядома, каб такі рэдактар узяўся за працу. Але ці ёсць на гэта час? Хутчэй у эліту літаратуры, хутчэй у лонг- і шорт-лісты!..

Нехта, прачытаўшы гэты водгук, скажа: як так, не можа быць, каб у кнізе не знайшлося зусім нічога добрага? Я супакою — знайшлося. У кнігі добрая вокладка.

І апошняе — апярэджваючы адэптаў тэорыі змовы: ніякіх уласных рахункаў няма, мы нават не знаёмыя. Чаму пра Стасельку? Ды таму, відаць, што такой масіраванай, як дывановыя бамбардзіроўкі, і надакучлівай, як летняя заедзь, рэкламы і самапіяру з нагоды твора сумніўнай якасці я яшчэ не бачыў. Сустрэну яшчэ — абавязкова пачытаю і падзялюся ўражаннямі.

**Усевалад Сцебурака**

# Напрадвесні

## Чарговы нумар «Дзеяслова» атрымаўся ўніверсальным

Змешчаныя ў ім тэксты і творы ўключаюць у сябе вельмі шырокую панараму культурнай, філасофскай і літаратурна-мастацкай тэматыкі. На зачыне вядзецца рэч пра надыходзячае вялікае свята — 500-гадовы юбілей беларускага кнігавыдання. Таму за аснову ўзятыя скарынаўскі духоўны і нацыянальны подзвіг — выдрукаваная ім Біблія. Чытачам прапануецца ацаніць пачатак працы над перакладам старазапаветнай прозы — першы раздзел Кнігі Роду з каментарыямі (пра стварэнне свету). Гэта, безумоўна, важная падзея для беларускага нацыянальнага самавызначэння і самаўсведамлення ў свеце. Цікава, што не зважаючы на тэалагічную складанасць ды інтэлектуальнасць, тэкст прадмовы да гэтай неардынарнай працы, якая толькі пачалася, напісаны доктарам філасофіі і сакральнай тэалогіі Ірынай Дубянецкай, чытаецца жыва і з непадробнай цікавасцю.




Працягвае Скарыніяну публікацыя перастварэнняў, зробленых Алесем Разанавым з выдадзенай ім кнігі вершаў «Маем найбольшае самі», дзе Ф. Скарына гучыць па-сучаснаму зразумела і даходліва, але не менш глыбока і ўзвышана. Чытач даведаецца, што

*Таму габраі*
*людзям не сталым,*
*якім яшчэ не было*
*трыццаці гадоў,*
*не давалі*
*гэтыя кнігі чытаць –*
*бо ў іх*
*замкнёны вялікія таямніцы*
*і гэтыя таямніцы*
*пераўзыходзяць розум людскі.*

Шырока заяўлена ў часопісе і сучасная мастацкая літаратура. Валянціна Аксак прапануе нізку паэтычных асацыяцый, звернутых да (а часцей: ад) уласнага і надзённага жыцця, занатаваных прозаю. Шчыра кажучы, тэксты мала чым розняцца ад свабодных вершаў паэткі, якія ўжо палюбіліся чытачам. У іх, як і ў згаданай публікацыі, даткліва зладжана гармонія думак і вычуванняў аўтара. Самі па сабе гэтыя вершы ў прозе простыя для чытання і ў той жа час з падсвечанай таямніцай падтэкставага ўспрымання.

«Заходжу ў хату. Вітаюся з бацькамі. Стаю ў чаканні адказу. А яны маўчаць. Проста глядзяць на мяне зверху, з-пад самае столі. Маладыя. Усмешлівыя. Прыгожыя. Шчаслівыя. Аблямаваныя вішнёваю самаробнаю рамай. Такой жа, як і Маці Божая і Ісус Хрыстос побач. І самі ўжо сталі іконамі».

Мы даўно прызвычаіліся да Алеся Камоцкага як да выканаўцы аўтарскай песні (можна сказаць, барда). Прычым песні ў яго даволі глыбокія, з філасофскімі падкладкамі і высновамі. Я і сам іх прыхільнік. Праўда, мне падалося, што жанр і манера выканання бардаўскай песні міжволі схілілі паэтычны талент Камоцкага да запатрабаванняў слухачоў і тэкставай празрыстасці. Дзякаваць Богу, шчырасць і мастацкая даверлівасць засталіся ўсё тыя ж. Не на пустым месцы ўзнікаюць такія радкі:

*Хутчэй за ўсё, не так*
*плануе аўтар,*
*Хутчэй за ўсё, мы самі*
*нішчым цуды.*

І тут можна было б пагаварыць пра даволі шырокае кола паэтаў, якія, узняўшыся на пэўны мастацкі ўзровень, як бы прыпыніліся ў сваім творчым развіцці і спакойна пайшлі па гарызантальным шляху да свайго непазбежнага небасхілу. Памятаеце, у Някляева ў адным з яшчэ маладых яго вершаў былі такія, на першы погляд, мімаходныя радкі: «Так верш я скляпаў. Неблагі... Не горшы з усіх маіх вершаў»... На жаль, многія тым і здавольваюцца: раз чарговы вершык напісаўся не горшы за іншыя, дык і добра...

Анатоль Івашчанка са сваёй нізкай вершаў «Сінявокая» — адваротны бок гэтага медаля. Ён якраз з тых, хто творчым высілкам волі адрывае свой гарызантальны пагляд, прагнучы вертыкальнай духаўздымнасці. Яго вершы нясуць у сабе новае ўспрыняцце старога свету, выяўляючы нестандартны фармат чалавечых і метафарычна-вобразных узаемаадносін, спрабуючы замацаваць суб'ектыўнае на трывалым грунце аб'ектыўнага:

*Не той паэта, хто вершыкі піша,*
*не той празаік, хто піша пра заек.*
*Цяперашнім часам пісьменнік*
*іншы*
*найболей збярэ падабаек.*
*Той, хто напіша чоткі пражэкт,*
*той, хто засвоіць найбольшы*
*бюджэт,*
*хто ўсё разруліць, выдаць грант...*
*Вось хто цяперака думкі гігант!*

Да паэтаў пошукавых, неаднастайных адносіцца і Таццяна Дзмітрыева з Магілёва. Сорамна, што дагэтуль не быў знаёмы з яе творчасцю. Большасць вершаў, якія склалі яе падборку ў «Дзеяслове», нязмушана-арыгінальныя, з тонкай, як кажуць, скурай, з нервовымі, адчувальна балявымі канчаткамі. Раю пачытаць. Як і вось гэты верш з цыкла «Zug. Accelerando»:

*аўтобус*
*нахіляецца да мяне –*
*на прыпынку больш нікога*

**У Галоўліце на кожнага рэдактара вядзецца дасье, куды запісваюцца ўсе яго цэнзурныя грахі. Збярэцца гэтых грахоў некалькі, і цэнзар абавязкова дасць ход справе... На Галоўліце СССР кола не замыкаецца — над ім стаіць ЦК КПСС**

У паэтычнай рубрыцы друкуюцца таксама вершы Юркі Голуба і Леаніда Галубовіча.

Што да прозы. Найперш вылучаецца чарговая нізка апавяданняў Віктара Казько «На кручку». Гэта густы хаатычны тэкст з панарамай савецкага (расійскага) і постсавецкага жыцця аўтара ў яго філасофскім развароце. Ён — для цярплівага, уважлівага і ўдумлівага чытача. Той жа, хто прачытае аповеды да канца, атрымае своеасаблівы мастацкі шок, пасля якога задумаецца над біблейскімі метамарфозамі зямнога чалавечага жыцця. Нядаўна я спытаў у Віктара Апанасавіча пра цяжкаваты замес яго стылістыкі. І ён адказаў мне, што гэта натуральная (жывая і рэчаісная) манера яго пісьма, якую ён выправіць не можа, не парушыўшы ўжо пазнавальнай многімі чытачамі сваёй літаратурнай адметнасці. Больш за тое, яна суладная і адпаведная яго празаічнаму дыханню, мысленчаму і сюжэтнаму ходу. Спрачацца не выпадала. Не магу не працытаваць некалькі важных, на мой погляд, фрагментаў з яго прозы, якія паказваюць на маштаб пісьменніцкай задумы В. Казько. З апавядання «Зямля як тэкст, альбо Валгаград, Сталінград, Царыцын»: «Савецкая рэчаіснасць паправіла справу. Угноіла глебу пад свае крывавыя міфы, сімвалы і святыні. Перапісала ці не ўсе тэксты сваёй і чужой зямлі, звяла іх да нікчэмнасці. Як жа мы зніякавелі і здрабнелі пасля здабычы агню і вырывання з пячораў. Ці не адно толькі ўдала атрымліваецца ў нас — паскудзіць, гадзіць на магілы продкаў ды на вечным агні памяці пражыць шашлыкі і каля яго спарвацца. Такія нашы сёння пасланні будучыні, тэксты, рукапісы і паліпсесты творцаў новых ідэалаў».

З аповеду «Дзверы замкнутыя, ключ у вечнасці»: «Сацыёлагі і псіхолагі растлумачылі і ахрысцілі падобную з'яву стварэннем у людства катастрафічнай свядомасці. Свядомасці самазнішчэння і самазабойства, да чаго прыводзіць адчуванне замкнутасці свету на самім сабе. Інакш, кароткае замыканне прасторы і часу, вякоў і стагоддзяў, калі якраз і нараджаюцца монстры і цмокі — Леніны, Сталіны, Троцкія і Гітлеры».

А вось Вінцэся Мудрова чытаць лёгка. Ён вольна і майстравіта выкладае прыгоды свайго маладога жыцця, прыхарошаныя і прыперчаныя сваім арыгінальным мастацкім талентам. Вось і гэты яго расповед пра «нябесныя знакі» 1986 года, што выявіліся яму на марознай Поўначы расійскага Наярбска, напэўна, намі, беларусамі, будуць зразумелымі лепш, чым іншымі.

Вельмі прыцягальная проза Паўла Ляхновіча. Яго апавяданне «Прыпяць цячэ...» нечым асацыіруецца ў чытацкай свядомасці з хэмінгуэеўскім шэдэўрам «Стары і мора». Рамантычна-драматычнае падводнае паляванне на велічнага сама заварожвае. Прырода і чалавек ды прырода чалавека — вось асноўная ідэя і тэматыка творчасці гэтага адоранага пісьменніка.

Даволі чытэльная проза паэткі Таццяны Будовіч-Барадулі. Яе праца ў літаратурным музеі, расчытка спадчыны і лёсаў нашых творцаў, разгадка самагубстваў — усё гэта міжвольна прыўнесена ёю ў панараму кароткіх расповедаў, якія сваёй псіхалагічнай неардынарнасцю накладваюцца на нашу рэчаіснасць.

Не сказаў бы, што «мне зайшлі», кажучы фразеалогіяй аўтара, дэбютныя празаічныя тэксты Марыны Булатоўскай. Гэта, як кажуць, для маладых і прасунутых. Спадзяюся, Марына перажыла ўжо гэтыя свае літаратурныя парыванні. Таму не сумняюся, што з палону тых перажыванняў высунуцца новыя, ужо больш сур'ёзныя і глыбокія рэчы.

Друкуецца вялікая падборка перакладаў з сучаснай украінскай літаратуры. Асабіста мяне найбольш уразілі вершы Наталкі Белацарківец і Сяргія Жадана (пераклад А. Хадановіча), а таксама проза Марыны Варыч (пераклад Б. Пятровіча). На гэтым рубрыка не сканчваецца, бо ў дадатак выстаўленая проза ўжо вядомага нам Этгара Керэта ў перакладзе з іўрыту Паўла Касцюкевіча. Гэтым разам перакладчык выбраў кароткія арыгінальныя прытчавыя аповеды ізраільскага пісьменніка з яго кнігі «Раптам стук у дзверы», вартыя прачытання і траты часу.

Вольга Гронская прапануе чытачам пазнаёміцца з сучаснай аўстрыйскай паэзіяй праз поглядна-крытычныя асацыяцыі яе прадстаўніка Фердынанда Шмаца. Скажу шчыра: пачытаўшы, мне падалося, што наша сучасная не менш цікавейшая і не менш глыбейшая па сваім мастацкім узроўні.

У скароце друкуецца манаграфія Канстанціна Тышкевіча (1806-1868) «Вілія і яе берагі» (у гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах), адмыслова перакладзеная з польскай мовы Уладзімірам Васілевічам.

«Дзеяслоў» узнавіў публікацыю дзённікавых запісаў Міхала Дубянецкага. Нататкі носяць назву «Трэба рызыкаваць». Чытанне вымагае роздуму і асэнсавання. Да прыкладу, такі фрагмент пра часы савецкай цэнзуры: «Заведзеная сістэма функцыянуе спраўна — усе ператварыліся ў апалчэнцаў цэнзуры — і аўтары, і рэдактары, і паліграфісты. Многія па перакананні, што так яно і павінна быць, некаторыя ж — каб не страціць куска хлеба. Аўтар баіцца, што калі выдавецтва атрымае з-за яго аплявуху, у Галоўліце ці іншым «галоў», то больш не возмецца за выданне яго твораў. Гэта ў лепшым выпадку. А калі заўважана нешта больш-менш сур'ёзнае — паплоціцца кар'ерай. Таму перш, чым несці рукапіс у выдавецтва, аўтар прасявае яго сам на густое цэнзурнае сіта... У Галоўліце на кожнага рэдактара вядзецца дасье, куды запісваюцца ўсе яго цэнзурныя грахі. Збярэцца гэтых грахоў некалькі, і цэнзар абавязкова дасць ход справе... На Галоўліце СССР кола не замыкаецца — над ім стаіць ЦК КПСС. Сетка густая. Але ж і гэта яе не поўная характарыстыка. Ёсць яшчэ шматлікі цэнзурны інстытут — чытачы. (...) Гэта чытальніцкія падонкі... Яны бяруць у рукі кнігу не для таго, каб далучыцца да добрага, вечнага, а для таго, каб вышукаць у ёй антысавецчыну і паказаць адпаведным органам, якія ён пільны, надзейны і адданы».

Таксама ў нумары можна пазнаёміцца з творчымі партрэтамі былых сяброў і вядомых калег Кастуся Цвіркі, якія ўвайшлі ў яго кнігу «Човен часу» (Н. Гілевіч, Р. Барадулін, Г. Бураўкін). Эдуард Дубянецкі спрабуе-такі разгадаць «Загадку Стральцова». Іван Штэйнер разважае пра «канцэпцыю голаду ў беларускай і сусветнай літаратуры». Алесь Гібок-Гібкоўскі піша пра нечаканы досвед і згадкі, звязаныя з няпростым лёсам свайго бацькі («Прапаў без вестак»). Сяргей Кавалёў аналізуе гісторыю рамана Кастуся Тарасава «Пагоня на Грунвальд». Наталля Якавенка рэцэнзуе кнігу Валеры Гапеева «Ноч цмока», а Яўген Бяласін дзеліцца свежымі ўражаннямі ад нечаканага ўскалыхнуўшай медыяпрастору кніжкі Андруся Горвата «Радзіва «Прудок». Завяршае публікацыі анатацыйная рубрыка новых кніг.

«Дзеяслоў» гэтым разам важкі як ніколі. Чытайма.

**ЛеГал**

# Дзень нараджэння Тараса Шаўчэнкі

**Да дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі (10 сакавіка) адбыліся адразу два флэшмобы: # ШевченкоЧелендж2017 і #GlobalShevchenko. А Кіеўскі метрапалітэн за чытанне вершаў Кабзара прапускаў праз турнікеты бясплатна.**

У сацсетцы facebook некалькі дзён з'яўляліся відэа, дзе людзі чыталі вершы Шаўчэнкі. Умовы ўдзелу ў Флэшмоб # ШевченкоЧелендж2017 былі такія: 1. Прачытаць любімы верш Тараса Рыгоравіча; 2. Запісаць аматарскае відэа і выставіць яго на сваёй старонцы ФБ; 3. Перадаць эстафету тром (і больш) наступным удзельнікам; 4. А тым, хто атрымаў эстафету, на працягу 24 гадзін выканаць умовы акцыі і перадаць яе наступным удзельнікам.

З 10 лютага да 8 сакавіка па ўмовах флэш-мобу #GlobalShevchenko трэба было зрабіць фота ці сэлф каля помніка Шаўчэнкі ў любым кутку свету, апублікаваць фота на афіцыйнай старонцы флэш-мобу ў facebook, а таксама на сваіх старонках у сацыяльных сетках, паказаўшы #GlobalShevchenko краіну і горад, дзе зроблена фота.

9 сакавіка а 16:00 (па кіеўскім часе) арганізатары заклікалі ўкраінцаў ва ўсім свеце прыйсці да помнікаў Тарасу Шаўчэнку і адначасова зачытаць верш з цыкла «У казематы». Гэта было найбольшае адначасовае чытанне твора Тараса Шаўчэнкі ў гісторыі.

# Юбілей Яўгенія Еўтушэнкі

**Паэт і сучасны класік Яўгеній Еўтушэнка 18 ліпеня будзе адзначаць сваё 85-годдзе.**



У гонар гэтага юбілею галоўныя сцэнічныя пляцоўкі Масквы будуць прымаць фестываль. Па словах генеральнага прадзюсара праекта Сяргея Віннікава, ініцыятарам правядзення фестывалю ў гонар 85-годдзя Яўгена Еўтушэнкі выступіў«Інстытут сучаснага мастацтва», які прыцягнуў да ўвасаблення сваёй задумы розныя творчыя арганізацыі, пры гэтым ідэя атрымала падтрымку Міністэрства культуры РФ. У траўні і чэрвені запланаваны гастрольны тур Я. Еўтушэнкі з паэтычнымі вечарынамі па гарадах Расіі, Беларусі і Казахстана і сустрэчы паэта з маладымі літаратарамі ды студэнтамі творчых ВНУ Расіі ў «Музеі Яўгена Еўтушэнкі» ў Перадзелкіна.

Месцамі правядзення асноўных юбілейных мерапрыемстваў будуць галоўныя сцэнічныя пляцоўкі Масквы: Канцэртная зала імя П. І. Чайкоўскага, Вялікая зала Маскоўскай кансерваторыі.

Галоўная падзея фестывалю ў гонар юбілея Яўгенія Еўтушэнкі адбудзецца 13 чэрвеня ў Дзяржаўным Крамлёўскім палацы — музычна-паэтычны спектакль «Калі будзе Расія, значыць, буду і я». У ёй будуць удзельнічаць самыя знакамітыя артысты краіны: Ала Пугачова, якая выканае новую песню на вершы Я. Еўтушэнкі, Іосіф Кабзон, Леў Лешчанка, Міхаіл Баярскі, Дзіма Білан, Валерыя, Ларыса Доліна і яшчэ многія іншыя. Здымкі праграмы будзе весці Першы канал расійскага тэлебачання.

Яўгеній Еўтушэнка нарадзіўся на станцыі Зіма Іркуцкай вобласці ў сям'і геолага і паэта-аматара Аляксандра Гангнуса. Першы верш апублікавала газета «Советский спорт», а першая кніга вершаў «Разведчики грядущего» выйшла ў 1952 годзе; тады ж ён стаў самым маладым членам Саюза пісьменнікаў СССР. У 1963 годзе яго намінавалі на Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Я. Еўтушэнка з'яўляецца аўтарам больш за 150 кніг, якія перакладзены на многія мовы свету. Найбольш вядомыя — паэмы «Брацкая ГЭС», «Мама і нейтронная бомба», зборнікі вершаў «Грамадзяне, паслухайце мяне», празаічныя творы, публіцыстыка, мемуары, анталогія рускай паэзіі «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». З 1991 года Я. Еўтушэнка жыў у ЗША, выкладаючы ва ўніверсітэце Талсы. У жніўні 2013 года перанёс аперацыю па ампутацыі нагі, але, нягледзячы на гэта, не губляе бадзёрасці духу і не спыняе актыўнай працы...

# Невядомае апавяданне Фіцджэральда

**У амерыканскім часопісе «New Yorker» было апублікавана раней невядомае апавяданне Фрэнсіса Скота Фіцджэральда «The I.O.U.», датаванае 1920 годам.**

Апавяданне пра кніжных выдаўцоў, гатовых падманваць чытачоў дзеля высокіх продажаў, было напісана пісьменнікам у жанры сатыры. Галоўны герой, ад чыёй асобы вядзецца расповед, — такі ж нядобрасумленны выдавец, у якога ёсць гісторыя лекара, які сцвярджае, што можа кантактаваць з мёртвым пляменнікам. І падчас паездкі ў цягніку ён выпадкова паказвае кнігу таму самаму пляменніку, які аказваецца жывым.

Раней у выдавецтве «Simon & Schuster» паведамлялі пра тое, што зборнік неапублікаваных апавяданняў Фіцджэральда «Я памру за цябе» (I'd Die for You) будзе апублікаваны ў красавіку гэтага года. Усе творы пісьменнік напісаў яшчэ ў сярэдзіне і напрыканцы 1930-х гадоў, і па розных прычынах яны не былі надрукаваныя.

# 80-годдзе Валянціна Распуціна

**З нагоды 80-годдзя з дня нараджэння вядомага рускага пісьменніка Валянціна Распуціна 15 сакавіка па ўсёй Расіі прайшлі памятныя ўрачыстасці.**



Адкрыліся адразу два музеі: у Іркуцку і на малой радзіме пісьменніка ў Усць-Удзе, а ва ўсіх школах Расійскай Федэрацыі прайшоў усерасійскі ўрок па творчасці Валянціна Распуціна. Увесь дзень эфір на радыё «Кніга» быў прысвечаны пісьменніку, акрамя гэтага, кожны дзень на працягу года там можна будзе пачуць творы Валянціна Рыгоравіча ў выкананні вядомых расійскіх акцёраў.

У Доме Пашкова Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў дзень імянін пісьменніка, 22 сакавіка, адбудзецца памятны вечар «З глыбіняў у глыбіні», на якім выступілі Наталля Салжаніцына, рэктар Літаратурнага інстытута Аляксей Варламаў, крытык і публіцыст Леў Анінскі, іншыя творцы, а студэнты тэатра Шчукінскай вучэльні прачыталі фрагменты з твораў В. Распуціна.

У Іркуцку з 5 па 9 кастрычніка пройдзе адзін з самых вядомых у свеце экалагічных фестываляў «Чалавек і прырода», задуманы пісьменнікам і які цяпер носіць імя Валянціна Распуціна. У гэтым годзе ў праграме будуць удзельнічаць не толькі дакументальныя фільмы пра пісьменніка, але і гульнявыя фільмы, створаныя па яго тэкстах. Таксама ў верасні ў Іркуцку пройдзе Форум маладых пісьменнікаў Расіі, краін СНД і замежжа, прысвечаны В. Распуціну.

У межах кніжнага фестывалю «Красная площадь» запланаваны круглы стол, прысвечаны творчасці В. Распуціна. Акрамя гэтага на кірмашы будуць прэзентавацца новыя выданні твораў пісьменніка (напрыклад, публікацыя перапіскі Валянціна Распуціна з Віктарам Астаф'евым). Восенню на Культурным форуме, які штогод праходзіць у Санкт-Пецярбурзе, пройдзе навукова-практычная канферэнцыя «Спадчына Распуціна: вечныя пытанні».



# Кніга з карцінамі Буша-малодшага

**Кніга-альбом «Партрэты мужнасці», у якой сабраны карціны былога прэзідэнта ЗША Джорджа Буша-малодшага, стала бэстсэлерам.**

Уяе ўвайшлі 66 партрэтаў ветэранаў амерыканскай арміі, з якімі Буш меў зносіны на працягу сваёй кар'еры.

«Я ведаю асабіста кожнага, каго намаляваў. Ствараючы партрэты, я думаў пра паходжанне гэтых людзей, іх службу, іх раненні», — адзначыў былы прэзідэнт.

Кніга паступіла ў продаж 27 лютага. Яна трымаецца на першым радку сярод бэстсэлераў жанру нон-фікшн па версіі «Publishers Weekly».

# Новая кніга Кінгаў

**Стывен і Оўэн Кінгі пішуць трылер пра тое, «што б адбылося, калі б усе жанчыны пакінулі свет». Кніга называецца «Спячыя прыгажуні».**

Вядомы пісьменнік ужо супрацоўнічаў раней са сваім старэйшым сынам Джозэфам, які выдае творы пад псеўданімам Джо Хіл. Гэта будзе першая сумесная праца бацькі і малодшага сына Оўэна.

Падзеі рамана адбываюцца ў недалёкай будучыні, калі на Зямлі пачаўся дзіўны фенамен. Усе жанчыны падчас сну ператварыліся ў коканы, і мужчыны засталіся адны. Толькі адну жанчыну абышло цудоўнае ператварэнне. Таму Эві становіцца цэнтрам мужчынскага захаплення і нянавісці.

На творчым рахунку Оўэна Кінга — зборнік апавяданняў «Мы ўсе разам» і два раманы.

Трылер «Спячыя прыгажуні» з'явіцца на паліцах замежных крамаў 26-га верасня.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваныя паводле публікацый ria.ru, Artnet, bustle.com, lenta.ru і Associated Press**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Фота www.tut.by

> Ідэя грамадскіх працаў лічыцца эканамістамі неэфектыўнай і неактуальнай. Гэта прымітыўныя віды працоўнай дзейнасці, якія не патрабуюць прафесійнай падрыхтоўкі

# Ці будуць дармаеды будаваць аўтабаны?

Алег НОВІКАЎ

**Для вырашэння праблемы дармаедаў кіраўніцтва Беларусі пастанавіла ўдарнымі тэмпамі стварыць сістэму грамадскіх прац. Ідэя старая, аднак, як сведчыць гісторыя, неадназначная.**

«Трэба стварыць брыгады, групы, якія будуць лес высаджваць, платы будаваць, фарбаваць, прыбіраць тэрыторыю, капаць, вазіць, насіць і іншае. І мы працаўладкуем усіх людзей», — такі арыгінальны рэцэпт прапанаваў кіраўнік РБ для вырашэння праблемы беспрацоўя. З аналагічнымі заявамі выступіў яшчэ шэраг айчынных «мандарынаў».

Цяжка сказаць, адкуль у мазгах постсавецкіх чыноўнікаў увогуле ўсплыла думка пра тое, што грамадскія працы — панацэя. Думаецца, тут не апошнюю ролю адыграў міф пра гітлераўскія аўтабаны. Чамусьці ў нашым народзе папулярная думка пра тое, што, дзякуючы будаўніцтву аўтабанаў, Гітлеру ўдалося не толькі пакрыць Германію сеткай дарог, але і прыбраць чэргі каля біржы працы.

Магчыма, прадстаўнікі вертыкалі нешта ведаюць і пра «Новы курс» Франкліна Рузвельта, у межах якога быў створаны так званы «Грамадзянскі корпус аховы навакольнага асяроддзя» (ССС) — праграма дзяржаўнага працаўладкавання, якая была скіраваная, галоўным чынам, на захаванне прыродных рэсурсаў і інфраструктуры. З 1933 па 1942 год — час існавання ССС — актывісты «Грамадзянскага корпусу» стварылі 800 паркаў па ўсёй краіне, мадэрнізавалі старыя, і ў дадатак, пабудавалі сетку публічных дарог у правінцыі.

Акрамя будаўніцтва аўтабанаў і разбіўкі паркаў беспрацоўных з розных куткоў краіны можна сабраць і кінуць на нейкі адзін аб'ект. Так, напрыклад, зрабіў Мусаліні ў 1930-м, калі былі асушаныя Панцыйскія балоты, што на паўднёвы ўсход ад Рыму. Паколькі балоты стагоддзямі былі крыніцай смяротнай малярыі, іх даўно марылі асушыць розныя імператары ды рымскія папы. Аднак удалося гэта толькі мабілізаваным на грамадскія працы італьянскім беспрацоўным. Пры гэтым удзельнікі праекту атрымлівалі за працу яшчэ і зямельныя надзелы.

На першы погляд, усе пералічаныя праграмы барацьбы з беспрацоўем былі дастаткова паспяховымі. Напрыклад, пры меліярацыі зоны Панцыйскіх балотаў паўсталі новыя гарады. А ў Нідэрландах у 1930-я гады за кошт дамбы, якую пабудавалі ў рамках грамадскіх прац, была асушаная частка тэрыторыі аднаго з заліваў. З часам тут паўстала цэлая правінцыя пад назвай Флеваланд.

Аднак спецыялісты больш стрымана ацэньваюць эфектыўнасць грамадзянскіх прац. Напрыклад, у цяперашняй Германіі лічаць, што на ўзровень беспрацоўя аўтабаны Гітлера істотна не паўплывалі. У будаўніцтве аўтабанаў ніколі не ўдзельнічала больш за 130 тысяч чалавек (у канцы 1932-га ў краіне налічвалася 6 мільёнаў беспрацоўных). Значна больш важнымі фактарамі ў змяншэнні беспрацоўя стала распачатая гонка ўзбраенняў і выцісканне з рынку занятасці працуючых жанчын.

Яшчэ больш праблемная з'яўляецца тэма арганізацыі працы і побыту ўдзельнікаў грамадскіх працаў. Для цяперашняга чалавека дзіка гучаць нормы сяброў ССС. Сябры «Грамадзянскага корпусу» (іх было каля трох мільёнаў) жылі ў спецыяльных лагерах з амаль ваеннай дысцыплінай, насілі ўніформу. За працу плацілі вельмі мала — 30 долараў, з якіх 25 трэба было, паводле статуту ССС, дасылаць родным.

Яшчэ больш жорсткія нормы панавалі і на будаўніцтве нямецкіх аўтабанаў. Тых, хто спрабаваў страйкаваць або крытыкаваць адміністрацыю, неадкладна адпраўлялі ў канцлагер.

Нездарма па меры ўмацавання нацысцкай дыктатуры працоўных на будаўніцтве дарог замянялі зняволеныя, якія знаходзіліся на «працоўным перавыхаванні» ў канцэнтрацыйных лагерах. Вельмі сумнеўна, што сярэднестатыстычны беларускі беспрацоўны пры ўсім яго кепскім становішчы пагодзіцца жыць па-за домам, у нейкіх лагерах і насіць уніформу.

Не кажучы пра тое, што сама ідэя грамадскіх працаў лічыцца шмат якімі эканамістамі неэфектыўнай і неактуальнай. Грамадскія працы — агульнадаступныя прымітыўныя віды працоўнай дзейнасці, якія, як правіла, не патрабуюць дадатковай прафесійнай падрыхтоўкі. Такім чынам, дзяржава, якая выдаткоўвае немалыя сродкі на фарбаванне беспрацоўнымі муроў або прыбіранне смецця, штучна замарожвае сітуацыю на працоўным рынку.

Звяртаецца ўвага на тое, што сучасная моладзь цураецца грамадскіх прац, паколькі на рынку вельмі важна працоўная біяграфія. Калі малады чалавек звяртаецца ў службу занятасці, ягоны ўдзел у грамадскіх працах можа разглядацца як адзнаку нізкай кваліфікацыі і, адпаведна, яму могуць прапанаваць не лепшую вакансію.

Нельга не прызнаць, што ў ідэі грамадскіх прац хапае і адвакатаў. Яны спасылаюцца на тое, што грамадскія працы, перш за ўсё, падтрымліваюць даходы беспрацоўных, асабліва тых, хто доўгі час не можа працаўладкавацца. Грамадскія працы дазваляюць захаваць карысныя працоўныя навыкі, зноў увайсці ў працоўны рытм жыцця і гэтак далей.

Пры ўсіх «за» і «супраць» сістэмы грамадскіх прац як сродку вырашэння праблемы беспрацоўя, слаба верыцца, што яна паўстане да 1 мая (так патрабуе гарант). І ўвогуле, варта ўзгадаць, што апошнім з буйных палітыкаў, хто марыў адрадзіць аналаг грамадскіх працаў, быў прэзідэнт Барак Абама. Аднак нават у яго адміністрацыі не атрымалася, як іранічна адзначала прэса, «выклікаць дух Рузвельта».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Супраціў дэкрэту аказваюць не толькі апаненты Лукашэнкі, але і шырокія пласты беларускага насельніцтва. Кіраўнік Беларусі знаходзіцца ў тупіковай сітуацыі: ён не можа проста душыць пратэсты, як падчас выбараў прэзідэнта ў 2010 годзе, аднак не можа і адклікаць дэкрэт, бо гэта паказала б яго слабасць. У той жа час ён не можа проста «перасядзець» пратэсты, бо яны могуць прыцягнуць новых удзельнікаў».

**«Der Standard» (Бельгія)**

Гэта не апазіцыйны рух. Апазіцыя спрабуе яго перахапіць. Галоўнае патрабаванне на ўсіх гэтых мітынгах і шэсцях па ўсёй рэспубліцы, якія пачаліся з сярэдзіны лютага, адны і тыя ж — гэта заробак і працоўныя месцы, што асабліва характэрна для ўсходняй часткі Беларусі, дзе панавальнае беспрацоўе. Гэтыя сацыяльна-эканамічныя патрабаванні звычайна заканчваюцца вотумам недаверу кіруючай уладзе. Усё! Ніякіх антырасійскіх выпадаў, ніякіх заклікаў да Майдану і гэтак далей, нічога гэтага не зафіксавана.

**«Life» (Расія)**

Лукашэнка, хоць і знаходзіцца ў цяжкай сітуацыі, але ўсё ж такі не можа пагадзіцца на патрабаванні Расіі, паколькі гэта натуральным чынам прывядзе да абмежавання ўлады беларускага лідара, на што ён не можа пайсці. Але страта такой значнай палітычнай велічыні, як Лукашэнка, пры ўсёй яго неадназначнай пазіцыі, была б катастрофай для Расіі, паколькі сыход Лукашэнкі з пасады кіраўніка дзяржавы практычна са стоадсоткавай верагоднасцю прывёў бы ў крэсла лідара праеўрапейскі настроенага ліберальнага палітыка.

**«Bloomberg» (ЗША)**

Беларусам трэба разумець простую рэч. Іх пратэсты Масква паспрабуе выкарыстаць у сваіх інтарэсах. На вуліцу выйдуць сотні правакатараў і людзей, якія ўмеюць кіраваць неарганізаваным натоўпам. Не маючы досведу вулічнай барацьбы, беларусы асуджаныя патрапіць пад кантроль прафесіяналаў. На выхадзе Пуцін можа атрымаць два станоўчыя вынікі. Першы — Лукашэнка сагнецца і звернецца па дапамогу да Пуціна. Як толькі ён гэта зробіць, па ўсіх асноўных напрамках унутранай палітыкі будуць замацаваны куратары з Крамля — і на гэтым суверэнітэт Беларусі памрэ.

**«Обозреватель» (Украіна)**

Эксперты выводзяць цікавае адрозненне ў стратэгіях уладаў Расіі і Беларусі па «гашэнні» пратэстаў. У першым выпадку звычайна вялікія тэрміны атрымліваюць шараговыя ўдзельнікі беспарадкаў, лідары ж застаюцца на свабодзе. У Беларусі ж, наадварот, тэрміны атрымліваюць лідары. Напэўна, гэтую ж стратэгію Мінск прымяніць і цяпер, тым самым знізіўшы магчымасць для перарастання пратэстаў ва ўмоўны Майдан. «Супраціў без лідара» (leaderless resistance) — займальная канцэпцыя, але ў яе ёсць адзін істотны мінус — яна не працуе.

**«Свободная пресса» (Расія)**

Пакуль няма прыкметаў, што пратэст у Беларусі неяк падсілкоўваецца або накіроўваецца з-за мяжы. У той жа час яны (эксперты) лічаць, што ўладам краіны якраз выгадна прадставіць тое, што адбываецца, як нейкае паўтарэнне ўкраінскага Майдана, каб напалохаць Маскву магчымым звяржэннем саюзнага рэжыму і вымусіць аказаць эканамічную дапамогу Беларусі. (...) Магчыма, менавіта Расія дапаможа Беларусі выйсці з крызісу, аднак наўзамен Масква запатрабуе больш цеснай інтэграцыі.

**РИА «Новости» (Расія)**

Пакуль у Беларусі пратэстуюць, з'яўляюцца дадзеныя пра маштабныя перасоўванні войскаў на тэрыторыю Беларусі ў гэтым годзе. Тлумачэнне — запланаваныя на восень ваенныя вучэнні «Захад–2017», якія пройдуць у тым ліку і на беларускай зямлі. (...) Пытанне ў тым, ці сапраўды ўвядзенне расійскіх войскаў у Беларусь будзе часовым, ці мяркуецца, што яны застануцца там і пасля вучэнняў? Сама прысутнасць гэтай значнай ваеннай сілы прадухіліць любыя беларускія спробы праявіць самастойнасць.

**«Svenska Dagbladet» (Швецыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН: Закаханыя пад забаронай

На вуліцах Ашхабада ўсё часцей паліцэйскія спыняюць маладыя пары. У затрыманых правяраюць дакументы, каб высветліць, знаходзяцца яны ў сваяцтве ці шлюбе. Калі не, дык іх забіраюць у паліцэйскі пастарунак. Там, як правіла, ім выносяць папярэджанне і кажуць пра пагрозу адлічэння з ВНУ пры паўторным затрыманні. Да канца не зразумела, што прымушае паліцыю паляваць за закаханымі. Хаця такія захады пасуюць іншым нядаўнім рашэнням улады: забарона для студэнтак на паездкі па краіне на аўтатранспарце, паколькі гэта, маўляў, амаральна. Маладым туркменкам таксама забаронена пакідаць інтэрнат у выходныя дні без спецыяльнага на тое «дазволу» або карыстацца таксі. Можна казаць пра тое, што ў Туркменістане пачаўся новы «крыжовы паход за мараль». Мясцовыя жыхары звязваюць гэтыя захады, у прыватнасці, з падрыхтоўкай сталічных уладаў да Азіяцкіх спартовых гульняў, якія адбудуцца ў верасні ў Ашхабадзе. Гэта найбольш буйное міжнароднае мерапрыемства ў краіне за апошнія гады.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. Суайчыннікі ўсяго свету, яднайцеся!

У Будапешце адбыўся форум венгерскіх дэпутатаў краін так званага Карпацкага басейна. Удзел у форуме прынялі прадстаўнікі вышэйшага кіраўніцтва Венгрыі. Апошнія пацвердзілі гатоўнасць урада краіны аказваць падтрымку дыяспарам венграў у суседніх краінах — у тым ліку ў іх патрабаваннях атрымаць аўтаномны статус. Адпаведнае патрабаванне ўжо ўключанае венграмі ў парадак дня Еўрапейскага парламента. Рэзалюцыя выглядае як дэмарш, паколькі пад пагрозу ставіцца суверэнітэт суседніх Украіны і Румыніі, дзе ёсць кампактныя камуны этнічных венграў. Прычым літаральна днямі МЗС Украіны выклікала амбасадара Венгрыі для тлумачэння наконт заяваў Будапешта пра падтрымку стварэння венгерскай аўтаноміі ў Закарпацці. Магчыма таму форум у Будапешце праходзіў на фоне публікацый у заходняй прэсе, аўтары якіх заклікалі Брусэль спыніць фінансавую падтрымку Венгрыі, бо тая аслабляе Еўрасаюз. Ёсць думка, што пагроза страціць датацыі памерам прыкладна 4,7 мільярда еўра штогод прымусіць венгерскі ўрад устрымацца ад падобных правакацый.

**Паводле нямецкай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Выратаваць нос!



Вядома, што адзнака прыналежнасці да армянскай нацыі — так званы «армянскі нос», які адрозніваецца ад насоў іншых нацый. У Арменіі часам кажуць, што армянскі нос такі ж высокі і велічны, як горныя вяршыні краіны. І вось той славуты нос аказаўся пад пагрозай, паколькі не адпавядае сучасным канонам прыгажосці. Усё больш жыхароў рэспублікі, асабліва жанчын, робяць пластычныя аперацыі па змене формы носа, каб адпавядаць заходнім стандартам. Афіцыйная статыстыка з гэтай нагоды адсутнічае, але некаторыя дадзеныя паказваюць, што рынапластыка (пластычная аперацыя па карэкцыі формы носа) становіцца ў Арменіі ўсё больш папулярнай. Гэта не можа не турбаваць армянскіх нацыяналістаў, якія пачалі кампанію ў абарону армянскага носу. Праўда, прэса пакуль рэагуе на гэта жартамі. Армянскі нос уласцівы далёка не ўсім армянам. Прынамсі, сярод армянскіх міністраў ніводнага ўладальніка армянскага носу няма.

**Паводле армянскай прэсы**

### ЗША. Ці носяць тэрарысты легінсы?

Падобна на тое, што ўся Амерыка паўстала супраць авіякампаніі «United Airlines». У адным з аэрапортаў агенты кампаніі забаранілі ўвайсці на борт дзвюм дзяўчынкам-падлеткам з-за таго, што на іх былі легінсы. Яшчэ адной дзяўчыне ў легінсах давялося пераапрануцца для таго, каб патрапіць на рэйс. «United Airlines» тлумачыць, што дзяўчыны ляцелі па льготным тарыфе як чальцы сям'і супрацоўнікаў кампаніі, а для супрацоўнікаў «United Airlines» у самалётах уведзены дрэс-код, у які легінсы не трапляюць. Але гэта не пераканала амерыканскае грамадства. Сацыяльныя сеткі называюць інцыдэнт жахлівым і абуральным. Паўстаў нават рух за тое, каб больш не карыстацца паслугамі «United Airlines», які, дарэчы, падтрымалі некаторыя зоркі Галівуду. Хтосьці ўбачыў у дзеяннях авіяперавозчыка праяву сэксізму. Іншыя — замах на правы грамадзян.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.teara.govt.nz

# Міражы імперыі

Алег НОВІКАЎ

**Сыход з Еўрасаюза брытанскія еўраскептыкі мараць кампенсаваць адраджэннем былой Брытанскай імперыі, якую завочна ахрысцілі «Імперыя 2.0».**

План еўраскептыкаў нескладаны: узмацніць інтэграцыю сярод краін-сябраў Брытанскай Садружнасці — аб'яднання дзяржаў, якія калісьці былі калоніямі Брытанскай імперыі. Зрабіць гэта можна, калі адрадзіць былы імперскі дух, які, у сваю чаргу, быў вельмі моцна звязаны з ідэямі ліберальнай эканомікі і вольнага гандлю.

Як пішуць эксперты з групы Conservative Free Enterprise Group (асноўныя ідэолагі праекту «Імперыя 2.0»): «Вызваленая ад ЕС, у саюзе з часткай англамоўнага свету, Вялікабрытанія можа адрадзіць сваю гандлёвую спадчыну, выкарыстоўваючы каланіяльную гісторыю інтэгравацца ў новую глабальную эканоміку азіяцкага стагоддзя». Дадатковы акцэнт робіцца на тым, што былыя калоніі павінны быць удзячныя Лондану за стварэнне інфраструктуры, развіццё адукацыі і судовай сістэмы.

Аднак ёсць адно «але» — у былых калоніях праект «Імперыі 2.0» відавочна не выклікае захаплення. У Індыі эліта высмеяла прапанову з Лондану. Адзін з індыйскіх парламентараў параўнаў ідэю перазагрузкі імперыі з паветраным шарам, які намагаюцца надзьмуць тады, калі ён імкліва падае. Лондану адразу ўзгадалі ўсё, што паспелі нарабіць брытанскія каланізатары ў Індыі: у прыватнасці, забойства 35 мільёнаў абарыгенаў і татальную беднасць. «Перад тым, як казаць пра вяртанне Брытанскай імперыі ў Індыю, адкажыце на пытанне: як самая багатая ў свеце індыйская нацыя, будучы калоніяй Брытаніі, стала самай беднай», — кажа адзін з палітыкаў у Дэлі.

Пры гэтым індусы не лічаць, што павінны быць удзячныя Лондану за пабудаваную чыгунку або сістэму пачатковых школаў. Як пішуць індыйскія медыя, неабходнасць будаваць чыгунку была выкліканая не клопатам каланізатараў пра тубыльцаў, а патрэбай стварыць эфектыўную каланіяльную адміністрацыю.

Праўда, у аматараў адраджэння імперыі існуе «план Б» — адраджаць яе не адразу, а на грунце так званых «белых дамініёнаў» (Канада, Новая Зеландыя, Аўстралія). Большасць насельніцтва гэтых дзяржаў — нашчадкі эмігрантаў з Брытаніі. Іх побытавая культура вельмі падобная па брытанскую, не кажучы пра тое, што фармальным кіраўніком усіх згаданых дзяржаў ёсць брытанскі манарх. Плюс, да атрымання поўнай незалежнасці канадцы, новазеландцы і аўстралійцы абіралі дэпутатаў у брытанскі парламент. Агульнае палітычнае мінулае, на думку еўраскептыкаў, можа спрыяць імклівай палітычнай інтэграцыі і развіццю яе інстытутаў.

Прапаноўваецца стварыць зону вольнага гандлю з удзелам пералічаных краін, што стане каталізатарам імперскага рэнесансу. На Альбіёне ўжо падлічылі, што ў выпадку рэалізацыі ідэі, на планеце паўстане блок, эканамічны патэнцыял якога не будзе саступаць Кітаю, ЗША і ЕС.

Трэба прызнаць, што кіраўнікі былых «белых дамініёнаў» сапраўды больш лагодна, чым тыя ж індусы, ставяцца да ідэі падобнага аб'яднання. Прынамсі, аўстралійскі МЗС вітаў магчымы рэжым вольнага гандлю з Вялікабрытаніяй. Аналагічнае пытанне ўздымалася падчас візіту ў Канаду прынца Уільяма.

Аднак нават брытанская прэса адзначае, што ўсё гэта вельмі патыхае нафталінам. Сёння мы назіраем далёка не першую спробу стварыць клон былой імперыі. Яшчэ Уінстан Чэрчыль пасля Другой сусветнай вайны лабіяваў ідэю так званага «Anglosphere» — аб'яднання ўсіх англамоўных народаў свету пад дахам адной палітычнай структуры. Прычым палітык дапускаў, што краінай-фарвардам новага фармавання будзе не Брытанія, а Злучаныя Штаты. Дарэчы, Чэрчыль не хаваў, што канцэпцыя новай імперыі — альтэрнатыва сяброўству краіны ў ЕС.

Былі і іншыя варыянты рэанімацыі імперскага калосу. У 1950–1960-я былым «белым дамініёнам» прапаноўвалася ўвайсці ў праект пад назвай CANZUK (абрэвіятура ад назваў краін: Канада, Аўстралія, Новая Зеландыя, Аб'яднанае Каралеўства). Больш таго, мелі месца канкрэтныя мерапрыемствы: у 1962-м адбылася тэматычная канферэнцыя з удзелам дэлегацый згаданых краін. На гэтым, праўда, усё і скончылася. Прычым, як адзначае прэса, былыя калоніі і Англія тады былі значна больш культурна інтэграваныя за кошт агульнай калектыўнай памяці пра Другую сусветную вайну.

Эрозія імперскай ідэнтычнасці ў «белых дамініёнах» адбываецца на фоне глабалізацыі, калі праз новыя эканамічныя сувязі ствараюцца новыя культурныя арыенціры. У Канадзе, якая разам з ЗША і Мексікай з'яўляюцца сябрам Паўночнаамерыканскай зоны свабоднага гандлю (NAFTA), больш цікавяцца падзеямі ў Мехіка, чым у Лондане. Для аўстралійцаў у прыярытэце кааперацыя з азіяцкімі краінамі. Нават бедныя брытанскія экс-калоніі ў Афрыцы даўно знайшлі сабе новага патрона ў выглядзе Пекіну, які актыўна ўключае мясцовую сыравіну ў свае вытворчыя ланцужкі.

Існуе яшчэ адна праблема на шляху будаўніцтва «Імперыі 2.0». Гэта самі аматары «Імперыі 2.0», а дакладней, іх светапогляд. Складнікам брытанскага імперскага імпульсу XVII–XIX стагоддзяў была гатоўнасць ісці на кантакт з новым і невядомым. Каланіяльная экспансія праходзіла пад сцягам лібералізму, які дамінаваў у брытанскай палітыцы. Між тым, еўраскептыкі — жудасныя ксенафобы, якія, наадварот, выступаюць супраць мультынацыянальнай супольнасці.

З улікам гэтага наўрад ці ідэя адраджэння імперыі стане мейнстрымам у Вялікабрытаніі ў часы пасля Brexit. І наогул, падаецца, зараз Лондану трэба думаць не пра заморскія тэрыторыі, а пра тое, як захаваць у сваім складзе Шатландыю і Паўночную Ірландыю. Дарэчы, на гэтым тыдні ў Белфасце праваліліся кааліцыйныя перамовы, што ўзняло градус палітычнай напружанасці ў рэгіёне.

# «Навальны грае, як Ельцын»

Алег НОВІКАЎ

**Нечакана для ўсіх 26 сакавіка Расію накрылі антыўрадавыя пратэсты, арганізаваныя групоўкай Аляксея Навальнага. Для чытачоў «Новага Часу» маскоўскі журналіст Дзмітрый Касценка спрабуе прааналізаваць прычыны выступаў і іх тэндэнцыі.**


Затрыманне Аляксея Навальнага

Фота www.bbc.com

***— Як правіла, мы абмяркоўваем пратэсты 26 сакавіка ў Расіі па мітынгу на Пушкінскай плошчы ў Маскве, які многія СМІ транслявалі ў прамым эфіры. Але ж маніфестацыі «Ён вам не Дзімон», тэмай якіх была карупцыя ўраду Дзмітрыя Мядзведзева, ахапілі больш за дзесяць буйных гарадоў краіны. Ці былі ў іх акцыі, падобныя на маскоўскую?***

— Розніца паміж Масквой і перыферыяй вельмі значная. Мерапрыемствы ў іншых гарадах, нават у прасунутым Піцеры, цяжка назваць мітынгамі. Гэта хутчэй былі флэшмобы — без лідараў, без лозунгаў, без трыбуны, без выступоўцаў, без рэзалюцый і нават без маршруту руху. У шматлікіх гарадах гэта была проста тусоўка, пераважна, юнакоў, якіх неўзабаве пачалі хапаць спецназаўцы. Спачатку сілавікі і ўлада проста не маглі зразумець, што адбываецца: з 2012 года Расія не ведала такіх буйных вулічных пратэстных акцый.

***— Усе толькі і кажуць, што значны адсотак пратэстоўцаў складалі вучні. Стаўка на школьнікаў была пралічанай паліттэхналогіяй Навальнага, ці гэта выпадковы эфект?***

— Цяжка сказаць, наколькі менавіта з гэтай сацыяльнай групай працавалі вярбоўшчыкі-арганізатары Навальнага. Але тое, што на агітацыю апазіцыі адгукнулася менавіта маладзевая аўдыторыя, не дзіўна. Юныя расіяне выраслі ў атмасферы пуцінскага «застою», і нічога цікавага не бачылі. Нават «Балотную» 2012-га яны заспелі як дзеці. Ім з-за ўзросту хочацца «дзвіжу», хочацца пагуляць у рэвалюцыю. Акрамя таго, спрацаваў біялагічны таймер, паколькі пачалася вясна. Нельга ігнараваць той факт, што гэта — першае пакаленне ў Расіі, якое вырасла без тэлевізара і апынулася незакранутым патрыятычнай істэрыкай апошніх часоў. Праўда, нельга ўсё спісваць на гармоны або кругласутачнае сядзенне ў інтэрнэце. У Расіі пасля 2008-га не было эканамічнага росту, і школьнікі не без падстаў пачынаюць разумець: калі нічога не зменіцца, шмат каму з іх свецiць у жыцці праца вартаўніком або касірам.

***— Тэма карупцыі ва ўладзе, паводле апытанняў, — трэцяя сярод самых актуальных праблем у цяперашняй Расіі. А на акцыі па ўсёй краіне выйшла каля 60 тысяч чалавек. Чаму?***

— Тут шмат прычын — у тым ліку і кампанія супраць Навальнага, якая даўно пачалася ў сеціве, і, дарэчы, не без падстаў. Нават у асяроддзі сярэдняга класа, які заўсёды быў палітычна нелаяльным, хапае пытанняў наконт феномену Навальнага. Дзіўным чынам ён адзіны, хто не патрапіў пад каток рэпрэсій, якія, дарэчы, пасля Балотнай ніколі не спыняліся. Усіх значных лідараў «Балоткі» (Нямцова, Панамарова, Удальцова, Сахніна) рознымі спосабамі ўлада прыбрала, а Навальны застаўся на волі. Больш за тое — у пуцінскіх СМІ яму ствараюць вобраз пакутніка, і пасля адпускаюць.

У сувязі з гэтым па інтэрнэце гуляе тэма пра тое, што ўлады рыхтуюць Навальнага да місіі

**У Расіі пасля 2008-га не было эканамічнага росту, і школьнікі не без падстаў пачынаюць разумець: калі нічога не зменіцца, шмат каму з іх свецiць у жыцці праца вартаўніком або касірам**

на выбарах прэзідэнта ў 2018-м. Маўляў, пад яго кіраўніцтвам рыхтуецца імітацыя Майдана, які прыцягне ўсіх незадаволеных і актыўных, але гэта будзе кантралявацца ўладай і скончыцца нічым. Аматары гэтай версіі спасылаюцца на тое, што на акцыях 26-га нават не казалі пра фігуру Пуціна. У штабе Навальнага мітынгоўцаў інструктавалі крытыкаваць толькі ўрад. Раней Навальны таксама падтрымаў «Крымнаш», а крымскі кансэнсус разглядаецца ўладай ледзь не як асноўны ідэалагічны падмурак рэжыму. Магчыма, плёткі пра маніпуляцыю Навальным з боку Крамля — гэта інсінуацыя, аднак яна сапраўды мае рэзананс у грамадстве.

***— На акцыях 26-га не было сімволікі іншых апазіцыйных партый.***

— Старая апазіцыя, сапраўды, насцярожана паставілася да апошніх пратэстаў. Па-сутнасці, пачалася прэзідэнцкая кампанія, а значыць, і нефармальны праймерыз на галоўнага кандыдата ад апазіцыі. І 26 сакавіка вельмі салідную заяўку на гэтую пасаду зрабіў Аляксей Навальны. Пры гэтым ён адбудоўвае вельмі жорсткую вертыкаль пратэсту, дзе ён — асноўны спікер, а ўсе іншыя — маса яго прыхільнікаў. Гэта рэвізія фармату пратэстаў на Балотнай: з аб'яднанымі штабамі, дыскусіямі на канале «Дождь», выбарамі каардынацыйнай рады апазіцыі. Ніякіх іншых лідараў і кансультацый схема апазіцыі паводле Навальнага не прадугледжвае, што не падабаецца старым дысідэнтам. Аднак пакуль зламаць узыходжанне Навальнага на Алімп лідара яны не ў стане. Адны, як "яблычнік" Гудкоў, ходзяць пад крымінальнай артыкулам, другія, як Яўлінскі, пабітыя нафталінам, а на іншых, накшталт Касьянава, даўно сабраны кампрамат. Напэўна, нейкім пасрэднікам у вырашэнні канфлікту ўнутры апазіцыі наконт лідарства мог бы выступіць Захад, але там зараз, падаецца, усе занятыя ўнутранымі праблемамі.

***— Якія, на вашу думку, перспектывы новай хвалі пратэстнага руху ў Расіі?***

— Цяжка сказаць, наколькі мы яшчэ не мелі доследу антыпуцінскага руху, які грунтуецца на чыстым папулізме, то бок трымаецца на індывідуальнай харызме і чыстай нянавісці да «істэблішменту». Аднак таксама не выключаю, што такі фармат будзе больш эфектыўны, чым незадаволенасць дысідэнтаў. Вонкава пратэст 26 сакавіка моцна нагадваў натоўп, які ў часы перабудовы скандаваў: «Ельцын! Ельцын», не задаючы пры гэтым ніякіх дадатковых пытанняў. Навальны грае, як Ельцын. Нездарма, як ранні Ельцын, Навальны падымае не палітычныя пытанні, а пытанні барацьбы з карупцыяй у чыстым выглядзе. У свой час у Ельцына атрымалася. Паглядзім, што атрымаецца ў Навальнага.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Надзея Саўчанка

Дэпутатка Вярхоўнай Рады Украіны, Герой Украіны і былая вязень расійскіх турмаў даўно пасварылася з украінскай палітычнай элітай праз свае кантакты з сепаратыстамі Данбасу. Зараз яна зрабіла новы дэмарш.

28 сакавіка ў эфіры аднаго з тэлеканалаў яна прызналася ў непрыязнасці да «жыдоў». Адначасова Саўчанка заявіла, што цяперашняя ўкраінская ўлада складаецца на 80% з габрэяў, сярод якіх скандальная дэпутатка вылучыла прэм'ер-міністра Уладзіміра Гройсмана і прэзідэнта Пятра Парашэнку, якога назвала Вальцманам.

Гэты ўжо другая запар антысеміцкая выхадка Саўчанкі. 21 сакавіка яна заявіла, што на Украіне — «габрэйскае ярмо», аднак той выраз шмат хто зразумеў як выпадковы экспромт.

Трэба прызнаць, што побытавы антысемітызм папулярны ва Украіне, аднак эксплуатаваць яго ў палітычных мэтах дасюль лічылася парушэннем кодэкса палітыка. У гэтым плане ксенафобскія эскапады Саўчанкі вельмі небяспечныя, паколькі легітымізуюць антысемітызм. Нельга не ўзгадаць пра тое, што, на думку некаторых палітолагаў, Саўчанка свядома або несвядома працуе на Крэмль. Так гэта або не, аднак фінты Надзеі сапраўды вельмі моцна дыскрэдытуюць Украіну на Захадзе, дзе з Саўчанкі падчас яе знаходжання за кратамі зрабілі ўкраінскую Жанну д'Арк.

Праўда, пазафракцыйны парламентар падкрэсліла, што падзяляе «жыдоў» і габрэяў. Першых яна лічыць нявартымі прадстаўнікамі габрэйскага народу, — такім чынам яна пакінула сабе шлях для манеўру.



### Жан-Люк Меленшон

Рэйтынг блізкага да камуністаў і найбольш левалрадыкальнага кандыдата ў прэзідэнты Францыі нечакана для ўсіх пайшоў уверх і дасягнуў прыкладна 13 працэнтаў. У лідараў гонкі — Марын Ле Пэн і Эмануэля Макрона — каля 25 працэнтаў.

Меленшону ўдалося абысці кандыдата ад сацыялістаў Бенуа Хамона, які мае 11–12 працэнтаў. Апошні раз камуністы былі папулярней за сацыялістаў у 1960-я гады, аднак фішка ў іншым. 65-гадовы Меленшон можа пайсці далей і нават выйсці на трэцюю пазіцыю ў выбарчай гонцы. Яго канкурэнт у барацьбе за «бронзу», кандыдат правацэнтрыстаў Франсуа Фіён, які мае 17 працэнтаў, імкліва губляе падтрымку як фігурант буйных карупцыйных афёраў. Прычым дапамагала выкрадаць грошы з бюджэту Фіёну яго жонка, суд над якой пачаўся 29 сакавіка і можа яшчэ больш падарваць давер да палітыка. У выніку Меленшон можа стаць трэцім па папулярнасці кандыдатам.

Так ці інакш, яго статус галоўнага кандыдата ад левых ужо дае яму шанс прарыву ў другі тур, асабліва з улікам таго, што каля 40 працэнтаў французаў не вызначалася са сваім выбарам.

Што атрымаецца ў лідара леварадыкалаў, мы даведаемся праз месяц, калі пройдуць выбары. Застаецца дадаць, што галоўны тэзіс выбарчай праграмы Меленшона — пераход да новай Канстытуцыі, то бок заснаванне 6-й Французскай рэспублікі, якая ў адрозненні ад 5-й, будзе не прэзідэнцкай, а парламенцкай. Праўда, большасці выбаршчыкаў, асабліва маладым, падабаецца іншае абяцанне Меленшона — узняць мінімалку да 1300 еўра.



### Ёгі Адзіцьянатх

Жрэц буйнога індуісцкага храма быў прызначаны галоўным міністрам Утар-Прадэш — штату з самым вялікім насельніцтвам у Індыі, дзе жыве больш за 200 мільёнаў чалавек.

Адзіцьянатх — не першы індыйскі служка культу, які займае пасаду адміністратара, аднак, напэўна, самы незвычайны. Ён вызнае напрамак індускага нацыяналізму, прыхільнікі якога лічаць увесь індыйскі субкантынент, у тым ліку Пакістан, краінай індусаў. Раней Адзіцьянатх заклікаў індыйскіх мусульман пакінуць краіну, а ў мінулым годзе заяўляў, што маці Тэрэза марыла ператварыць Індыю ў хрысціянскую краіну.

Пасля прыходу на пасаду прэм'ера Адзіцьянатх высунуў ініцыятыву, каб паўсюль будаваліся прыбіральні. Агучана ідэя забароны ўсіх мясных крамаў у штаце (каровы, як вядома, сакральная жывёла ў індуізме). Створаны спецыяльны дэпартамент паліцыі па барацьбе з гвалтаўнікамі. Праўда, пакуль ахвярамі хапуна сэксуальных вычварэнцаў сталі чамусьці выключна цыгане.

Усё гэта смешна, аднак нельга забываць, што Утар-Прадэш — штат з самым вялікім насельніцтвам у краіне. І тое, што адбываецца тут, адбіваецца на ўсім індыйскім палітычным працэсе.

# «Мяне цягне ў мясціны паўстання 1863 года»



Сяргей ЧЫГРЫН

**Грамадскаму актывісту, публіцысту і краязнаўцу з Гродна Уладзіміру Хільмановічу 6 красавіка спаўняецца 50 гадоў.**

Сёння яго можна смела назваць лідарам краязнаўчага руху на Гродзеншчыне. У пачатку 2000-х гадоў ён наладзіў супрацу Гродзенскага абласнога аддзялення «Фонду імя Льва Сапегі» са Шчэцінскай фундацыяй развіцця мясцовай дэмакратыі (Польшча). Дзясяткі краязнаўцаў з Беларусі пабывалі на стажыроўцы ў Шчэціне, сумесна было выдадзена дзесяць брашур. Сярод іх — «Беларускія свядомасць, мова, гісторыя: на зломе стэрэатыпаў», «Краязнаўства, грамадзянская супольнасць, патрыятызм» і іншыя. Там публікаваліся артыкулы як польскіх, так і беларускіх краязнаўцаў, але найбольш — беларускіх.

Гэтыя выданні да сёння беларускія краязнаўцы захоўваюць у сваіх прыватных архівах, а таксама ў бібліятэках і музеях. Уладзімір Хільмановіч працягвае адсочваць усё, што адбываецца на ніве краязнаўства не толькі на Гродзеншчыне, а і наогул у Беларусі. Пра гэта з ім можна гутарыць бясконца.

***— Спадар Уладзімір, з чаго пачынаўся ваш шлях у краязнаўства?***

— Напэўна, са студэнцтва. У школе я больш любіў геаграфію, чым гісторыю. Але ў Гродна не было геаграфічнага факультэта, а ў Мінск мяне ніколі не цягнула. Я паступіў на гістфак Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы — і ніколі пра гэта не шкадаваў. У нас былі неверагодна цікавыя выкладчыкі: Фелікс Налівайка, Міхась Ткачоў, Барыс Клейн ды іншыя. Да беларускасці прывабіў у значнай ступені Ткачоў — ён раскрываўся менавіта ў «палявых умовах». Ён вазіў нас у Ваўкавыск, Трокі, Мсціслаў, Крычаў. Незабыўнымі былі раскопкі ў Якушоўцы, на месцы колішняга фальварку Каліноўскіх. Вельмі паўплываў гісторыка-культурніцкі клуб «Паходня» і тыя людзі, якія там выступалі, — захапілі беларускасцю. Многія з нас выйшлі з паходнеўскага «шынялю». Перабудова адкрыла нам невядомыя старонкі гісторыі роднага краю і неабсяжныя далягляды мінулага.

***— Раскажыце пра дыяпазон зацікаўленасцяў.***

— Ён дастаткова разнастайны. Але, у адрозненне ад многіх сваіх калегаў, іду ўшыркі, а не ў глыбіню. Мяне цікавіць уся Беларусь, а таксама сумежжа і вельмі розныя мясцовасці. Перш чым, выдаць кніжку сваіх літаратурна-краязнаўчых нарысаў «Беларускае золата», я чвэрць стагоддзя ездзіў па розных вёсках, мястэчках і гарадах нашай краіны і сумежжа.

Праўда, цяпер разумею, што настаў час сканцэнтравацца на Гродзеншчыне. Насуперак выказванням прымітыўных людзей, наша краіна — гэта не нейкі «клочок земли». Беларусь — гэта вялікая краіна. Нават па плошчы 13-я ў Еўропе, а на кантыненце — аж паўсотні дзяржаў. А па гісторыі гэта ўвогуле бяздонная скарбонка, ахапіць яе ўсю — немагчыма. Хочацца зараз напісаць штосьці кшталту вандроўнага «спадарожніка» — «100 мясцовасцяў Гродзеншчыны, якія варта наведаць».

Таксама маю на мэце завяршыць «працу жыцця» — «Краязнаўчы даведнік Гродзеншчыны. Мясціны і помнікі. Людзі і падзеі». Прынамсі, дайсці ўрэшце да першага выдання гэтай «бясконцай» задумы. Працягваю працаваць над тэматыкай паўстання 1863 года... Шмат планаў, дасць Бог, нешта рэалізуецца.

***— Многія гады вы займаецеся складаннем разнастайных календароў...***

— Гэта не зусім календары, а, хутчэй, каляндарныя даведнікі. З аднаго боку, гэта досыць нязўдзячная праца. Дзеля аднаго радка часам трэба перагартаць дзясяткі, а то і больш старонак. З іншага — атрымліваеш вялікую маральную сатысфакцыю, асабліва калі даводзіцца «выцягнуць» з нябыту маладвядомае ці зусім забытае імя. Імя каго-небудзь са змагароў за вольнасць альбо сціплага рупліўца беларушчыны...

У маіх календарах няма і не будзе нейкіх «герояў сацыялістычнай працы» ці савецкіх генералаў. Галоўны крытэр адбору — ці зрабіў што гэты чалавек для беларускай справы. Безумоўна, гэта суб'ектыўна, але стараюся абапірацца не толькі на свае веды, але і на меркаванне гісторыкаў, даследчыкаў, якія грунтоўней капаюць «у глыбіню».

***— Што найбольш складанае ў гэтай працы?***

— Цяжкасцяў вельмі шмат. Крытэрый адбору. Блытаніна старога і новага стылю ў крыніцах. Цяжка часам выявіць дакладныя дні нараджэння ці смерці асобаў, месцы іх з'яўлення на свет і зыходу з яго, месціны, дзе яны пахаваны. Ёсць падзеі і асобы, якія не магу дадаць у каляндар, таму што няма «прывязкі» да канкрэтнага дня.

Самая складаная рэч — скончыць працу над календаром. Таму што гэта фактычна бясконцая праца. Зараз я ўжо крытычна гляджу на першае выданне свайго «Беларускага календара-даведніка на кожны дзень», які выйшаў у 2007 годзе. За гэты час ён істотна пашырыўся, многія даты і факты ўдакладніліся, шмат чаго дадалося. Зараз можна сказаць, што гатовае другое, больш салíднае і грунтоўнае выданне. Але хто возьмецца «запусціць» яго ў друк?

***— І ўсё ж які ён, тыповы партрэт беларускага краязнаўца?***

— Нашы краязнаўцы — вельмі розныя людзі. Агульнае адно — глыбінная любоў да сваёй мясцовасці. Яны робяць шмат для папулярызацыі сваіх мясцовасцяў: Лявон Карповіч расказаў усяму свету пра мястэчка Луна, Аляксандр Камінскі ўсё вывучыў пра Крэва, Іван Фясенка ўславіў Радунь. Гэты спіс можна доўжыць. Калі скласці кніжкі Сяргея Чыгрына — атрымаецца энцыклапедыя Слонімшчыны. Ну, а тое, што зрабіў Алесь Белакоз для Гудзевічаў (Мастоўшчына) — гэта духовы подзвіг.

Пры тым краязнаўцы — гэта не нейкія дылетанты, працы многіх з іх вартыя кандыдацкіх дысертацый. Так, яны — аматары, але аматары — гэта не дылетанты. Аматар ад лацінскага слова «amo» — любіць. І вось гэтая любоў, апантанасць сваім, ёсць галоўным чыннікам, менавіта яна вызначае характар і сутнасць сапраўднага краязнаўцы.

На жаль, некаторыя (хоць такіх значная меншасць) зусім не дзеляцца з сябрамі і паплечнікамі матэрыяламі. Адзін вельмі шаноўны руплівец назбіраў процьму ўнікальнага матэрыялу, багатыя звесткі па гісторыі свайго рэгіёну. Але ні з кім імі не падзяліўся. А пасля яго смерці жонка спаліла ўсё напрацаванае дзесяцігоддзямі. Вось так...

***— Як можна больш эфектыўна выкарыстоўваць напрацоўкі краязнаўцаў?***

— Для мяне відавочна, што мясцовыя ўлады не рэалізуюць патэнцыял краязнаўцаў для папулярызацыі і развіцця сваіх мясцовасцяў. Прычына простая — у нас няма самастойнасці і прастору для дзейнасці «знізу». Там, дзе рэгіянальныя кіраўнікі разумнейшыя, яны нешта бяруць: адкрываюць памятныя знакі, дапамагаюць у стварэнні музейных экспазіцый, выданні кніжак. Але ў бальшыні патэнцыял краязнаўцаў, на жаль, незапатрабаваны. На выдавецкую і краязнаўчую дзейнасць ніхто не хоча выдаткоўваць грошы, а між тым гэта — адзін з верных шляхоў фармавання і пабудовы грамадзянскай супольнасці.

Трэба выразна ўсведамляць, што ніхто нам, беларускім краязнаўцам, не дапаможа. Таму трэба мацаваць нашу салідарнасць — ад Іркуцка да Беластока і спадзявацца найперш на ўласныя сілы.

***— І ўсё ж, ці павінна дзяржава дапамагаць краязнаўцам?***

— Пэўным узорам можа паслужыць стаўленне дзяржаўных структураў да краязнаўцаў у пачатку 1990-х гадоў, пасля таго, як Беларусь здабыла суверэнітэт. Тады не было падзелу на «чэсных» і «нячэсных» гісторыкаў, «правільных» і «няправільных» краязнаўцаў. Дамінавала ідэалогія адраджэння свайго — у рэгіёнах праводзіліся краязнаўчыя канферэнцыі, якія збіралі ўсіх зацікаўленых асобаў. Звычайны вясковы краязнавец мог сядзець на роўных за адным сталом з раённай наменклатурай — і іх яднала імкненне ўшанавання нацыянальных герояў, адбудовы помнікаў архітэктуры, папулярызацыі малых мясцовасцяў.

На жаль, так было зусім нядоўга. Антыбеларуская палітыка стала ставіць бар'еры: пустая ідэалогія, а папросту балбатня, замяніла рэальныя карысныя справы. Беларусь зноў вярнулася да «савецкасці» і «партызанкі».

Я не думаю, што працу краязнаўцаў трэба фармалізаваць у нейкіх дзяржструктурах. Але, канешне, было б выдатна, каб была падтрымка ўладных раённых адміністрацый, сельсаветаў.

***— А як да краязнаўцаў ставяцца ў іншых дзяржавах?***

— Магу сказаць хіба на прыкладзе Польшчы. Там рэгіянальныя краязнаўцы — шанаваныя людзі. У іх няма праблем з выданнем працаў. Іх запрашаюць у розныя праекты развіцця сваіх рэгіёнаў і супольнасцяў. Многія з іх становяцца сапраўднымі экспертамі па сваіх мясцовасцях, а досвед краязнаўцаў увасабляецца ў рэальныя турыстычныя набыткі, стварэнне цікавых асяродкаў. Мы б да гэтага прыйшлі таксама, і дастаткова хутка, калі б у Беларусі пачаліся рэальныя рэформы і паўстала мясцовае самакіраванне.

***— Чаго ўсё ж сёння не хапае краязнаўчаму руху ў Беларусі?***

— Краязнаўчаму руху вельмі бракуе пераемнасці — у розных сэнсах. Вось задумаўся зараз, што краязнаўцы — асаблівая «каста» людзей. Не прыгадаю, каб хтосьці з дзяцей краязнаўцаў працягваў бы справу бацькоў: «дынастыі» не з'яўляюцца. Вельмі мала маладых краязнаўцаў — людзі з малых мясцовасцяў выязджаюць у горад або ўвогуле за мяжу і ўрэшце там і застаюцца.

Іншая праблема — і магчыма сур'ёзная — краязнаўцы не маюць выхаду на шырокую «сцэну». Іх амаль не пускаюць на сустрэчы ў бібліятэкі, не запрашаюць у школы, я ўжо не кажу, каб друкавалі і выдавалі. Кніжкі краязнаўцы выдаюць за свае сціплыя сродкі альбо за грошы сяброў. Адпаведна, калі няма выхаду на шырокія колы — няма папулярызацыі. Раней шмат краязнаўцаў было ў школах, там яны стваралі адметныя музейчыкі. Цяпер тая плеяда ўжо на пенсіі, а некаторых маладзейшых, погляды якіх не адпавядаюць «правільнаму курсу», адхілілі ад педагагічнай працы.

Вельмі мала стала і адукаваных мясцовых кіраўнікоў. Нават у савецкі час разумных людзей ва ўладзе, якія спрыялі краязнаўцам, было значна больш.

Але ж я веру, што наш энтузіязм не пойдзе пылам, напісанае застанецца, а новыя рупліўцы лакальнай гісторыі скарыстаюцца напрацаваным да іх досведам і зробяць шмат карыснага для Бацькаўшчыны.



Фёдар Красюк, Валерый Петрыкевіч, Уладзімір Хільмановіч у Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі, 2015 г.



Старажытныя спевы ля будынка плябана



Шляхецкія гульні захапляюць!



Дзяўчаты дэманструюць сваё ўменне валодаць шабляй

# Як адрадзіць Дзень памяці паўстанцаў 1863-га?

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Падарожжа ў вёску Плябань, дзе захаваўся сапраўдны пантэон змагарам, што загінулі за незалежнасць Бацькаўшчыны, зладзілі аматары беларускай гісторыі.**




На краўндфандынгавай платформе talaka.by быў абвешчаны збор сродкаў для выпуску ўнікальнай кнігі доктара гістарычных навук Віктара Шведа, прысвечанай паўстанню ў Беларусі 1863 года. Падарожжа ў вёску Плябань — падзяка тым, хто ахвяраваў на яе свае сродкі.

Патрыятычная моладзь усклала кветкі да помніка (які з'явіўся, не ў апошнюю чаргу, дзякуючы гісторыкам Зянону Пазьняку і Мікалаю Чарняўскаму) на магіле паўстанцаў, што знаходзіцца на ўзгорку плябанскіх могільнікаў, запаліла памятныя зніччы. Сярод загінуўшых на помніку пазначаны імёны Рафала Малішэўскага, Людвіга Ямант, Леапольда Банькоўскага, якія былі забітыя 21 сакавіка 1863 года ў бai з расійскімі рэгулярнымі войскамі ля ракі Свечкі.

У магіле перапахаваная зямля з месцаў вечнага спачыну Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага, кіраўніка паўстання на Маладзечаншчыне Юльяна Бакшанскага. Гісторыкі дадаюць да гэтага спісу імя 15-гадовага паўстанца-гімназіста Ігнацы Сулістроўскага...

Дык што з сябе ўяўляе кніга, якая з'явіцца дзякуючы агульным высілкам? Каардынатар выдавецкага праекту Вольга Сямашка адзначыла: «Кніга доктара гістарычных навук, прафесара Віктара Шведа «Рэквіем паўстанцам 1863–1864 гг. (Гродзенская губерня)» вельмі важная па некалькіх прычынах. Па-першае, у ёй сабрана інфармацыя пра лёс паўстанцаў Гродзенскай і суседніх губерняў і іх камандзіраў, у кнізе таксама распавядаецца пра тое, як рыхтаваліся да паўстання, складзены спісы ўдзельнікаў баёў з расійскімі войскамі, спісы забітых і пахаваных паўстанцаў. Па-другое, у кнізе пазначаны месцы, звязаныя з падзеямі 1863–1864 гадоў, куды можна накіравацца, каб наведаць магілы герояў. У кнізе будзе асобны артыкул, прысвечаны «чырвонаму» Кастусю Каліноўскаму пад назвай «Кароль Літвы» і «беламу» графу Віктару Старжынскаму. Думаю, кніга стане добрым падарункам для ўсіх тых, хто цікавіцца драматычным акалічнасцям паўстання 1863 года».

Паводле задумы арганізатараў, урачыстае ўшанаванне герояў Бацькаўшчыны і віктарына, якая была праведзена пры ўдзеле кіраўніка паб-квіза «Імбрыкі ды Імбрычкі» Алеся Мазаніка, павінны паспрыяць аднаўленню добрай традыцыі адзначэння Дня памяці паўстанцаў у вёсцы Плябань. Надзвычай важна праводзіць асветніцкую працу — вечарыны і экскурсіі, каб пашыраць веды пра паўстанне. Беларусам неабходна памятаць сваіх герояў асабліва зараз, калі некаторымі шавіністычнымі коламі ў краіне ставяцца пад сумнеў заслугі беларускіх патрыётаў.

«Гэтую ініцыятыву неабыякавых да памяці герояў Бацькаўшчыны падтрымала грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!», а таксама арганізатар беларускамоўных паб-квізаў Алесь Мазанік. Сродкі на яе выданне збіраюцца на краўндфандынгавай платформе talaka.by. Мы заклікаем усіх беларусаў, неабыякавых да нашай мінуўшчыны, далучыцца да ажыццяўлення гэтага праекта», — звярнулася да чытачоў Вольга Сямашка.

Дарэчы, вёска Плябань — знакавае месца для беларусаў. Тут у мясцовым касцёле (цяпер праваслаўнай царкве) захоўвалася зброя паўстанцаў, лячыліся параненыя інсургенты, а праз чыгунку — магіла паўстанцаў. Таму вельмі важна, каб беларусы часцей бывалі ў гэтых краях, адчулі іх энергетыку і зразумелі, што за нашу незалежнасць продкі не шкадавалі сваё жыццё.

У памяшканні плябана (драўлянай жылой пабудова ў стылі класіцызму, якая належала ксяндзу), цяпер месціцца Цэнтр традыцыйнай культуры і побыту, які гатовы спрыяць пашырэнню ведаў пра подзвіг лепшых сыноў Айчыны. Музейная экспазіцыя Цэнтра традыцыйнай культуры і побыту распавядае пра гісторыю вёскі, якая ўпамінаецца ва ўніяцкім рэестры 1766 года як юрыдыка (адміністрацыйна адасобленыя часткі гарадоў ці прадмесцяў, якія былі пад уладай феадала, царквы або манастыра і на жыхароў якіх не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання). Шмат экспанатаў і інфармацыі на стэндах гэтага музея паказваюць гісторыю плябанскіх могілак, а таксама знаёмяць з асобамі тых паўстанцаў, якія загінулі падчас бою з царскімі карнікамі 23 сакавіка 1863 года.

Пра ўсе акалічнасці гісторыі гэтай багатай на падзеі мінулага вёскі падчас экскурсіі па залах былога плябана распавяла гасцям дырэктар Цэнтра традыцыйнай культуры і побыту Ала Сцяпанаўна Ліхтаровіч, а таксама валанцёры-рэканструктары Юрый ды Іван, якія ў вобразе шляхціцаў прадэманстравалі вайсковыя прыёмы двубою на шаблях, а таксама разам з гасцямі акунуліся ў віхуру шляхецкіх забаў для развіцця «не толькі глузду, але і цягліц».

Тэматыка паўстання 1863 года стала асноўнай і для ўдзельнікаў віктарыны «Кастусь Каліноўскі і паплечнікі». Інтэлектуальнае змаганне было гарачым. Пераможцы атрымалі шыкоўныя прызы — выдатна зробленыя копіі паўстанцкіх «канфедэратак» (аўтарства вядомай фальклорнай спявачкі і майстрыхі Юліі Літвінавай) з адмысловымі кукардамі.

На працягу дзесяці раўндаў гістарычнай віктарыны яе ўдзельнікі адказвалі на даволі складаныя ідэапытанні, звязаныя з асобамі кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў, з фактамі іх біяграфій, са старонкамі барацьбы супраць царызму. Для многіх з прысутных гэтыя звесткі дапаўнялі іх веды пра тагачасную барацьбу за незалежнасць Бацькаўшчыны, рабілі больш аб'ёмнымі вобразы яе герояў, ворагаў і здраднікаў. У выніку напружанай інтэлектуальнай працы выявіліся пераможцы: каманда «Мроя», удзельнікі якой і атрымалі запаветныя прызы.

Часта даводзіцца чуць ад беларускіх чыноўнікаў, маўляў, незалежнасць нам звалілася на галаву. Магілы беларускіх паўстанцаў сведчаць: незалежнасць Беларусі выпакутавана і аплачана крывёю нашых герояў, памяць пра якіх павінна жыць у нашых сэрцах вечна! Гэтай мэце і павінен служыць адроджаны Дзень памяці беларускіх паўстанцаў...



Ля магілы герояў




Памятная дошка нагадвае імёны загінулых інсургентаў

# Займальная гісторыя

## Беларускі гістарычны анекдот

Сяргей ШАПРАН

**Да Міжнароднага дня смеху прапануем вам некалькі цікавых амаль анекдатычных гісторый пра вядомых у Беларусі асоб.**

### Дажартаваўся

1994 год, кебічаўскія часы. Анатоль Вечар разам з жонкай Аксанай рыхтаваў на радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» праграму «Сёмая пятніца», якая выходзіла ў трох частках, адна з якіх транслявалася на 1-м канале Беларускага радыё.

Як вядома, 1 красавіка — дзень розыгрышаў, і таму Анатоль, рэзка абарваўшы трансляваную песню, левітанаўскім голасам прамовіў: «Праз некалькі хвілін перададзім важнае ўрадавае паведамленне». А трэба сказаць, што напярэдадні прэм'ер-міністр Кебіч сапраўды абяцаў заявіць нешта важнае. Той жа розыгрыш Анатоль Вечар паўтарыў і ў другой часткі праграмы, якая транслявалася ўжо па 2-м канале Беларускага радыё. І толькі ў 3-й частцы нагадаў, што сёння — 1 красавіка. Аднак ці варта тлумачыць, што ў тыя часы значыла магічная фраза «важнае ўрадавае паведамленне»? Як потым стала вядома, на радыё тэлефанавалі з фабрык і заводаў — у чаканні «важнага паведамлення» там спынялі канвееры (пра тое, што сёння — 1 красавіка, ніхто нават не ўспамінаў). Жарт на поўным сур'ёзе падхапіла Беларускае тэлебачанне...

Наступствы былі такія: Жанну Літвіну часова адхілілі ад пасады галоўнага рэдактара «Беларускай маладзёжнай», а яшчэ адну супрацоўніцу — ад эфіраў. Над самім жа Анатолем Вечарам хмары не згусціліся толькі таму, што за эфір ён не адказваў.



**Аксана і Анатоль Вечар.** Фота «Вячэрні Бабруйск»

### Страх



**Пятрусь Броўка і Рыгор Барадулін.** Фота Сяргея Шапрана

Канец 1970-х. У гатэлі «Юбілейны» сабраліся Пятрусь Броўка, Рыгор Барадулін і рускі паэт і перакладчык Якаў Хелемскі. Апошні кажа:

— Пеця, ты стаў добра пісаць пра каханне, а раней што? — толькі «ура» — партыі, «ура» — ураду, «ура» — савецкай уладзе! Ура, ура, ура!

— Мне гэта ўсё надакучыла! — адказвае ў запале Броўка.

Але тут як нячысцік пацягнуў Барадуліна за язык:

— Пятрусь Усцінавіч! Круціцца!

— Што круціцца? — раптам астыўшы, пытаецца Броўка.

— Запіс круціцца, — тлумачыць Барадулін, маючы на ўвазе, што іх размова можа запісвацца КДБ.

— Няхай круціцца! Не баюся я! — адказвае Броўка і праз секундную паўзу: — Пайшлі на вуліцу! Тут душна.

Гэткім чынам Барадулін адным словам вярнуў у мінулае народнага паэта, чальца ЦК КПБ, дэпутата Вярхоўнага Савета, акадэміка, Героя Сацыялістычнай Працы і пяціразовага лаўрэата, у тым ліку Ленінскай і Сталінскіх прэмій.

### Быкаў і маршал Маліноўскі

Падчас службы ў першай палове 1950-х гадоў на Далёкім Усходзе Васіль



**Васіль Быкаў падчас службы на Далёкім Усходзе 1950 год.** Фота з архіву Сяргея Шапрана

Быкаў не раз пісаў на імя маршала Маліноўскага рапарты на дэмабілізацыю. Доўга не было ніякага адказу, пакуль аднойчы не загадалі з'явіцца ў штаб дывізіі. Быў студзень, мароз пад 30. Адзіная дарога была перамецена снегам, і Быкаў пашыбаваў чыгункай. Азяблы і абмерзлы прыйшоў у штаб.

— Вы звярталіся да міністра абароны, маршала Савецкага Саюза, дэпутата Вярхоўнага Савету СССР таварыша Маліноўскага?

— Так, звяртаўся.

— Атрыманы адказ. Зачытваю: паводле артыкулу такога Канстытуцыі СССР служба ва Узброеных Сілах СССР ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР. Растлумачыць тав. Быкаву В. У., што ён, як грамадзянін СССР, цалкам і поўнасцю павінен выконваць патрабаванне Канстытуцыі Саюза ССР. Подпіс: міністр абароны Саюза ССР, маршал Савецкага Саюза, дэпутат Вярхоўнага Савету Саюза ССР Р. Маліноўскі. Вам зразумела?

— Зразумела.

— Распішыцеся, што азнаёмлены.

### Як дзесяцікласнік Бураўкін стаў «бацькам»

Калі Генадзь Бураўкін яшчэ вучыўся ў школе, ён напісаў верш «Брат»:

*У мяне сёння свята:*
*раннем брат нарадзіўся,*
*і на ўсю нашу хату*
*звонкім крыкам заліўся...*

Загадчык часопіса «Полымя» Аляксей Зарыцкі, які рыхтаваў верш да



**Генадзь Бураўкін.** Фота з архіву Сяргея Шапрана

друку, выправіў «брата» на «сына»: «У мяне сёння свята: раннем сын нарадзіўся...» І хоць гэта была вялікая радасць для Бураўкіна — надрукавацца ў самым аўтарытэтным акадэмічным літаратурным часопісе, але той нумар «Полымя» ён хаваў ад усіх, найперш ад аднакласнікаў і настаўнікаў, бо калі б пра публікацыю даведаўся нехта з іх, усчыніўся б скандал — у дзесяцікласніка сын нарадзіўся!

### «Выключны» кампазітар

У 1960 годзе Яўгена Глебава выключылі з Саюза кампазітараў з прычыны таго, што ён непаважліва паставіўся да рэплікі аднаго з мэтраў беларускай музыкі, які заўважыў яму:

— З маладых ды ранніх!

Малады ды ранні кампазітар парыраваў:

— Маладосць праходзіць — бяздарнасць застаецца.

Даведаўшыся пра выключэнне Глебава, вядомы расійскі кампазітар Васіль Салаўёў-Сядой саркастычна заўважыў, што ў Беларусі нарэшце з'явіўся «выключны» кампазітар.

Зрэшты, праз год Глебава ўсё ж узнавілі ў Саюзе кампазітараў.

### Бард Бартосік і мытнік Юркойць





**Зміцер Бартосік**

Канец 1990-х. Бард Зміцер Бартосік перасякае беларуска-літоўскую мяжу. Запоўніўшы дэкларацыю па-руску, падае яе мытніку, і чуе пытанне на чысцюткай беларускай мове:



**Алесь Юркойць**

— Вы Зміцер Бартосік?

— Так.

— Гэта вы на «Радыё Свабода» ў «Вострай браме» так апантана змагаецеся за беларушчыну?

— Так.

— А гэта ваша дэкларацыя?

— Так... — кажа, чырванеючы, Бартосік.

Мытніка звалі Алесь Юркойць. Ён быў не толькі мытнікам, але найперш вядомым на Астравеччыне краязнаўцам.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 304

Падпісана да друку 31.03.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.